якімі запісваюць народы сваю бытнасць на зямлі. Ці тут, у нашым рэгіёне, сярод дрыгавічоў і на іх пагранiччы з мазаўшанамі і яцвягамі ўдакументавалі продкі крывічоў сваю бытнасць перад вандроўкай на поўнач, недзе ў III-V стагоддзях; ці ўжо пазнейшымі паселішчамі выхадцаў з поўначы падчас буйнага развіцця крывічоў і іхнята моцнага ўздзеяння на суседнія землі ў VIII-X стагоддзях? Гэта застаецца адной з безлічы тых загадак, якімі ўслана мінулае тутэйшай зямлі. Сёння нам прыходзіцца задаволіцца толькі фактам што крывічы былі насельнікамі нашага рэгіёна. А паклікацца на гэта не малы гонар.

Крывічы — гэта вельмі энергічнае і моцнае племя. У іх інтэнсіўна развівалася сельская гаспадарка, рамяство, гандаль, грамадскае жыццё. Праз іхнюю зямлю праходзілі самыя важныя і рухлівыя ў раннім сярэднявеччы міжнародныя гандлёвыя шляхі з поўначы на поўдзень (з Балтыйскага на Дзвіне і Дняпры ў Чорнае мора), а таксама з захаду на ўсход (па той жа Дзвіне, а затым па Волзе). На крывіцкай зямлі доўгія стагоддзі крыжаваліся прыклады і імпульсы далікатнай культуры краін Сярэдняй Азіі, мужных і ваяўнічых варагаў са Скандынавіі, вытанчанай і выдасканаленай Візантыі — і ўсё гэта не засталося без карыснага ўздзеяння на крывічах.

Крывічы рана выступаюць на старонках гісторыі Усходняй Еўропы. У палове IX стагоддзя яны змагаліся супраць варажскіх заваёўнікаў, якія прыплывалі са Скандынавіі. Паводле летапісу, у 862 годзе крывічы „выгналі варагаў за мора, не далі ім даніны і пачалі самі сабою ўладаць, падобна як і іхнія суседзі — славене, чудзь, мер. Але ж не патрапілі ўладкаваць свае ўнутраныя і міжплемянныя справы: „і не было ў іх праўды (прававай законнасці) і падняўся род на род, і была ў іх усобіца, сталі ваяваць самі супраць сябе", — чытаем у „Аповесці мінулых часоў" пра гэтае амаль казачнае тлумачэнне вельмі крывавага і працяглага на самай справе канфлікту ў тым рэгіёне Еўропы. „І сказалі сабе: „Пашукайма сабе князя, каб ён уладаў намі і судзіў па справядлівасці". І пайшлі за мора да варагаў..." І, вядома, ахвочых панаваць над крывічамі знайшлося ўдосталь.

Крывічы славіліся сваім майстэрствам выраблядь звітныя і моцныя лодкі з тоўстых камлёў старадрэвін, якіх было мноства ў іхніх лясах. У гэтых даволі вялікіх і змістоўных „аднадрэўках" яны не толькі спраўна падарожнічалі і перавозілі грузы па тагачаснай вельмі густой сетцы рэк, рэчак і рачулак, злучаных шматлікімі пераваламі, але і падаваліся ў далёкія вандроўкі па Балтыйскаму, а нават Чорнаму, Каспійскаму і Беламу марах.

Гэта і быў якраз вынік гаспадарчага развіцця і палітычнага даспявання крывічоў. У іх рана пачалі складвацца значныя палітычныя цэнтры ў Полацку на Дзвіне (пачатковая крывіцкая назва гэтай ракі — Доўгая, што і захавалася да сёння ў латышскай яе назве — „Даўгава"), у Ізборску (недалёка Пскова) на рацэ Вялікай, у Смаленску на Дняпры. Наймацнейшы дзяржаўны арганізм стварыла заходняе адгалінаванне крывічоў, якое гуртавалася вакол Полацка. У той час, калі паўночнае (пскоўскае) адгалінаванне падпала пад уладу суседніх славенаў з іхнім цэнтрам у Ноўгарадзе, усходняе (смаленскае) апынулася ў залежнасці ад Кіева, то заходнія крывічы збудавалі моцнае ўласнае княства са сталіцай у Полацку. Ён, як сцвярджаюць археолагі, ужо ў VIII стагоддзі быў вялікай крэпасцю, а ў летапісах упершыню ўспамінаецца пад 862 годам. З бегам часу пад уладай Полацкага княства апынуліся вялікія абшары крывіцкіх і суседніх з імі зямель. Яно вырасла ў самастойную дзяржаву, якая ўдала адбівалася ад намаганняў Кіеўскага і іншых княстваў падняволіць яго, стала цэнтрам, да якога хіліліся ўсе крывіцкія землі.

На тэрыторыі Полацкага княства паўсталі і развіліся ў значныя асяродкі грамадскага і гаспадарчага жыцця такія гарады як Відбеск (Віцебск, упершыню ўпамінаецца ў летапісах пад 974 годам), Ізяслаўль (Заслаўе,канец X стагоддзя), Васвеч (Усвяты, 1021), Копысь (1059), Брачыслаўль (Браслаў, 1065), Менеск (Мінск, 1067), Рша (Орша, 1067), Лукамля (Лукомль, 1078), Лагожаск (Лагойск, 1078), Расціслаўль (Раслаўль, 1098), Барысаў (1102) і на Гародні (Гродна, 1128) — найбліжэйшым да нас, адным са старажытнейшых, але ўжо змешаным крывіцка-дрыгавіцкім цэнтры — закончым пералік гарадскіх асяродкаў на крывіцкай зямлі, якія былі звязаны з Полацкім княствам. Дадайма, што апошні раз у летапісах крывічы як назва племені ўпамінаюцца пад 1162 годам. Потым іх называюць палачанамі, смальнянамі, пскавічанамі, цвяранамі.

## ДРЫГАВІЧЫ

Калі продкі радзімічаў і крывічоў былі ахвочыя да вандровак на вялікія адлегласці, у тым часе продкам трэцяга беларускага племені — дрыгавічоў — належыцца імя дамаседаў. Яны былі даволі непадатлівымі таксама на спакусы жыцця ў казачных раскошах на чужых землях, як і на захопніцкія націскі чужаземцаў на іхнія сялібы. Амаль непарушна сядзелі яны на праславянскіх землях там, дзе раней жылі

плямёны зарубінецкай культуры. Толькі ў кровапралітным вадавароце вялікай вандроўкі народаў, саступілі з правых, паўднёвых, прытокаў Прыпяці, гэта значыць, з сённяшняй Паўночнай Валыні, і пацясніліся крыху на поўнач і паўночны захад — у глыб Палесся і на суседнія з ім землі. Як заўважаюць вучоныя (археолагі, мовазнаўцы, гісторыкі і інш.) дрыгавічы ў найбольшай ступені захавалі ў сабе праславянскасць, найменш паддаліся ўплывам іншых народаў і самі не імкнуліся займаць чужыя тэрыторыі. Толькі на поўначы, па рацэ Бярэзіне і верхняму цячэнню Нёмана, яны паступова асімілявалі або выцеснілі на паўночны захад рэдкае там балцкае насельніцтва. Невялікая частка надпрыпяцкіх ды надбужанскіх дрыгавічоў падчас гэтай вандроўкі апынуліся ў ваколіцах Салуні (сённяшніх Салонікаў у Грэцыі). Ад іх паходзіла племя другувітаў. Якраз гаворка гэтых другувітаў стала асновай апрацаванай у IX стагоддзі славутымі славянскімі асветнікамі Кірылам і Мяфодзіем стараславянскай мовы, якая стала першай літаратурнай мовай усіх славян і па сённяшні дзень ужываецца ў праваслаўнай царкве па ўсёй Славяншчыне. І ў гэтым крыецца асноўная прычына таго, што паміж сённяшнімі палескімі гаворкамі беларускай мовы (да іх належыць таксама гаворка беларусаў Паўднёвага Падляшша) вельмі многа супольнага са стараславянскай мовай.

І пакуль у „Аповесці мінулых часоў“ летапісец запісаў сказ: „седоша межи Припетью и Двиною и нарекошеся дреговичи“ ды візантыйскі імператар Канстанцін Багранародны ў сваёй працы „Аб кіраванні імперыяй“ (949 г.) аднатаваў іх пад назвай „другувітаў“, дрыгавічы ўжо былі з'яднаным, многалюдным, моцным племем. На поўначы яны межавалі з крывічамі і ўзаемна перамяшаліся з імі па лініі, якую сёня вызначаюць беларускія гарады: Гродна — Навагрудак — Мінск — Барысаў. Па рацэ Дняпры дрыгавічам суседзямі былі радзімічы. На поўдні ад сённяшняга ўкраінскага Чарнігава праз Чарнабыль, Оўруч, Дубровіцу і ўверх па рацэ Гарыні аж да мястэчка Дзеражнога праходзіла мяжа паміж дрыгавічамі і драўлянамі. Ад мястэчка Берасцянога паўз паўночную ўскраіну Ковеля і непадалёку вытокаў Прыпяці аж да Уладавы на рацэ Бузе, затым (ужо ў Польшчы) ад Уладавы да Радзыня Падляшскага дрыгавіцкае насельніцтва гранічыла з валынянамі. Дадайма адразу, што драўляне і валыняне належаць да тых плямёнаў, на землях якіх потым паўстаў украінскі народ. На захадзе, больш-менш па лініі сённяшніх мястэчак і гарадоў Мендзыжэц Падляшскі — Морды — Венграў — Цеханавец — Тыкоцін — Гонёндз, праходзіла мяжа паміж усходнеславянскімі дрыгавічамі і заходнеславянскімі мазаўшанамі. Ад Ганёндза на ўсход па рацэ Бебжы, затым паміж Аўгустовам і Ліпскам ды на поўнач ад Гродна суседзямі дрыгавічоў былі балцкія плямёны — яцвягі і літоўцы.

Паўднёвая і заходняя граніцы нас, нашчадкаў дрыгавіцкага насельніцтва Пабужжа і Панароўя, найбольш датычаць. Іх абсяг мы павінны добра сабе ўсведамляць. А гэта таму, што якраз гэтыя рубяжы ва ўсёй гісторыі беларусаў найбольш заядла атакуюцца, але наперакор усяму трымаюцца даволі цвёрда па сённяшні дзень. А трываласць іх у тым, што старажытныя дрыгавічы і сённяшнія іхнія нашчадкі — народ устойлівы, моцна ўкаранелы ў родную зямлю.

Гэта ў нейкай ступені выявілася і ў назве нашых продкаў — „дрыгавічы“. Вучоныя мяркуюць, што яна належыць да самых старажытных назваў славянскіх плямёнаў і сваім значэннем сцісла звязана з назвай „славяне“. Бо калі славяне займелі сваю назву ад таго, што жылі сярод багнаў над рэкамі, азёрамі, словам — у мокрых мясцінах, то назва „дрыгавічы“ абазначае людзей, якія жывуць на дрыгве, гэта значыць, топкім балоце, багне. Ці яна ўзнікла ўжо ў часы вялікай вандроўкі народаў, калі продкі дрыгавічоў заглыбіліся ў Палессе, ці значна пазней, як ужо сялібы славянскіх плямёнаў сталі трывалымі — сёння немагчыма сказаць з упэўненасцю. Аднак нельга забываць, што ў нас, беларусаў, падчас усялякіх варожых нашэсцяў спакон веку павялося зашывацца цэлымі сёламі ў непраходныя лясныя нетры ды топельныя багны, каб самім пратрываць нягоду і адтуль нечаканымі атакамі выбіваць захопнікаў з роднай зямлі. Партызанская барацьба — гэта зусім не вынаходства апошніх часоў, бо ўсё мінулае беларускага народа запісана такім змаганнем. І хто ведае, ці на заранку нашай гісторыі назва „дрыгавіч“ не была такой жа ганаровай і пагрозлівай, як слова „партызан“ у апошнюю вайну!

А дрыгавічам было чаго трымацца і што бараніць, бо ў сярэднявеччы Палессе і суседнія з ім землі былі выгодныя і зручныя для жыцця людзей. Над Прыпяццю і асабліва яе прытокамі, па верхнім Панямонні, сярэднім Пабужжы і ўсім Панароўі прасціраліся тады значныя абшары ўраджайнай зямлі, пойменных лугоў, крэйды, балотнай руды — падстава сельскай гаспадаркі, гадоўлі, рамёстваў, бортніцтва, паляўніцтва. Густая сетка ціхіх і глыбокіх рэк была не толькі невычэрпнай кладоўкай рыб, баброў, качак ды іншых вадзяных жывёл і птаства, але і дасканалым сродкам сувязі,

шляхам зносін. Гэта ж па Прыпяці і Бузе праходзіў адзін з самых старажытных міжнародных шляхоў з Балтыйскага ў Чорнае мора. Адно з агалінаванняў таго ж славутага шляху „з варяг у грэкі" вяло з крывіцкай Дзвіны па дрыгавіцкай Бярэзіне ў радзіміцкую частку Дняпра. Рухлівымі воднымі дарогамі былі таксама рэкі Нёман, Нарва, Бобра (Бебжа), Шчара, Ясельда, Гарынь, Случ, Свіслач і многа іншых.

Інтэнсіўнае развіццё гаспадаркі і грамадскага жыцця, пастаянная пагроза знешніх нападаў і, урэшце, уздзеянне суседніх і далёкіх народаў рана выклікалі паўстанне зачаткаў дзяржаўнасца — племяннога саюза дрыгавічоў. Няма сумнення, што ўзначальваў яго ўласны, дрыгавіцкі княжацкі род і палітычнае жыццё засяроджвалася ў нейкім гарадскім цэнтры. На жаль, звесткі пра першае дрыгавіцкае княжэнне і яго сталіцу не захаваліся. Аднак увесь ход пазнейшых падзей паказвае, што ў дрыгавічоў склалася моцнае самастойнае княства з добра развітай сельскай гаспадаркай, рамяством, унутраным і замежным гандлёвым абменам, моцнай абаронай. Доказаў гэтаму ёсць мноства, найважнейшы з іх — гэта тое, што тэрыторыя дрыгавічоў не была захоплена іншымі плямёнамі, а яе насельнікі не былі зняволены ці выцеснены са сваёй зямлі, як гэта здарылася з іншымі слабейшымі ўнутранай еднасцю плямёнамі. Таксама і ў „Аповесці мінулыг часоў" гаворыцца, што свае княжэнні мелі іншыя ўсходнеславянслія плямёны, „а дрыгавічы сваё". І калі намнога пазней у той жа летапіс быў унесены пад 980 годам запіс: „а Тур трымаў уладу ў Тураве і ад яго празваліся тураўцы", то ён толькі пацвердзіў існаванне ў дрыгавічоў самастойнага княства, пануючага ў ім княжацкага роду і сталіцы.

Уласную дынастыю дрыгавічы захавалі да 988 года, калі князеўскі пасад у Тураве вялікі князь кіеўскі Уладзімір аддаў свайму сыну Святаполку. Хоць такім чынам кіеўскі князь намагаўся падпарадкаваць Тураўскае княства цэнтральнай уладзе Старажытнарускай дзяржавы, аднак яго старанні закончыліся няўдачай. Святаполк, умацаваўшыся на тураўскім пасадзе, пачаў дабівацца палітычнай незалежнасці для свайго княства. Бацька раскрыў яго намеры, зняў з княжацкага пасада, закаваў у кайданы ды ўкінуў у кіеўскую цямніцу. Але пасля смерці Уладзіміра (1015 г.) Святаполк вярнуўся ў Тураўскае княства і павёў самастойную палітыку, абапіраючыся на дапамогу свайго цесця, магутнага князя польскага Баляслава Хробрага і плямёнах печанегаў, якія насялялі стэп паміж ніжнім цячэннем Дняпра і Днястра.

Пра густое засяленне дрыгавіцкай зямлі і яе развітую гаспадарку значная колькасць гарадоў, якія тут паўсталі ў глыбокай старажытнасці і затым пераўтварыліся ў асяродкі гаспадарчага, палітычнага і культурнага жыцця: Бярэсце (сённяшні Брэст, упершыню ўпамінаецца ў летапісах пад 1019 годам), Дарагічын (Драгічын на Бузе, 1041), Пінеск (Пінск, 1097), Чартарыеск (Чартарыск, 1100), Случаск (Слуцк, 1116), Клечаск (Клецк, 1127), Брагін (1147), Навагародак (Навагрудак, 1235), Валкавыеск (Ваўкавыск, 1252), Бельск (1253) і іншыя.

У нашым рэгіёне самым старажытным дрыгавіцкім цэнтрам быў Драгічын. Яго назва ў перакладзе на цяперашнюю мову абазначае „дрыгавіцкі", „прыналежны дрыгавічам". Як паказалі археалагічныя даследаванні, яго пачаткі сягаюць аж VI стагоддзя. Затым, дзякуючы свайму выключна карыснаму палажэнню на міжнародным бужанскім шляху і ў сярэдзіне ўраджайнай, густа заселенай тэрыторыі, Драгічын развіўся ў значны цэнтр. Пад яго ўздзеяннем знаходзіліся Пабужжа і Панароўе — уся заходняя ўскраіна Дрыгавіцкай зямлі, потым тут выраслі Бельск, Бранск, Сураж і іншыя гарады. Другім значным цэнтрам быў Брэст, які сваім уплывам сягаў да сённяшняй Нарвы, Мельніка, Уладавы і інш.

Апошні раз у летапісах племя дрыгавічоў упамінаецца пад 1149 годам. Але дрыгавіцкая традыцыя, яе незацёртыя сляды захаваліся да сённяшняга дня і ў нашым рэгіёне, хоць у XIII стагоддзі дрыгавічы разам з крывяцічамі і радзімічамі склалі беларускі народ.

## СЛЯДЫ

Калі пайшла ўжо гаворка пра граніцы ў раннім сярэднявеччы паміж плямёнамі, асабліва ўнутры Славяншчыны, ніколі нельга ўпадаць у крайнасць і дашукоўвацца межаў з дакладнасцю да кроку ці пядзі. Славяне не адгароджваліся ні ад іншых народаў, ні тым болей паміж сабою „кітайскімі сценамі", не ставілі „рэйнскіх старажоў", а розныя „перадмур'і каталіцызму" ці кэапасці праваслаўя" — гэта ўжо набыткі пазнейшых часоў, нават зусім нядаўніх. І, вядома, зглядаючы ў сівую даўніну VI-IX стагоддзяў, нельга губляць з поля зроку і тое, што тады ў славянскіх плямёнаў было болей падабенстваў і меней розніц у мове, вераваннях, звычаях, занятках і наогул у жыцці, чым у бліжэйшыя да нас часы. Таму і не дзіва, што мяжа паміж зямлёй нашых продкаў-дрыгавічоў і іхніх паўднёвых і заходніх суседзяў — валынян і мазаўшан — ніколі не была вострай, рэзкай граніцай. Яна праціралася даволі шырокай паласой суседскага пранікан-

ня, перамяшання і ўзаемнага ўздзеяння.

Пацвярджаецца гэта перш за ўсё ў абрадзе пахавання, які спраўлялі родзічы сваім памёршым і з якімі рэчамі адпраўлялі іх у апошнюю дарогу.

Дрыгавічы ў VI-IX стагоддзях нябожчыкаў пераважна спальвалі на кастры, а ў XI--XIII ст. хавалі целы памёршых цэлымі. Рэшткі кастра або астанкі клалі ў выдзеўбаную калоду, часцей за ўсё з камля старога дуба, ставілі над ёю двухсхільны дашак або нават абудоўвалі яе зрубам і прыкрывалі такім жа дашкам. Потым на гэтае збудаванне насыпалі курган, якога велічыня залежала, мабыць, ад ролі нябожчыка ў грамадстве за яго жыцця. Сляды пра гэты абрад захаваліся не толькі ў адкрытых археолагамі пахаваннях, але і ў сённяшняй нашай мове, калі труну называем дамавінай", а „справіць дамавіну" — пахаванне. Нябожчыку ў дамавіну ставілі посуд з ежай, клалі прылады працы, зброю, упрыгожанні, між іншым, уласцівыя толькі дрыгавічам зярнёныя пацеркі.

Адметнай асаблівасцю пахаванняў валынян былі парныя курганы. Мазаўшане ж хавалі астанкі сваіх нябожчыкаў у плоскіх магілах, якія абкладвалі вялікімі валунамі, сярэдзіну брукавалі драбнейшым каменнем, а сярод рэчаў іх асаблівасцю былі выгнутыя ў форме лацінскай літары „S" скроневыя кольцы. Па сярэдняму Пабужжу і ўсяму Панароўю, а таксама на суседніх тэрыторыях курганныя могільнікі (дрыгавіцкія) знаходзяцца непадалёк пахаванняў у плоскіх магілах з каменнымі абкладамі (мазавецкімі). Болей таго: нярэдка дрыгавіцкія курганы абкладзены і выбрукаваны каменнем, а ў плоскіх мазавецкіх магілах знаходзяцца сярод упрыгожанняў дрыгавіцкія зярнёныя пацеркі. Значыць, узаемнае пранікanне мазавецкага і дрыгавіцкага насельніцтва было даўняе і не абмяжоўвалася толькі звычайным перамяшаннем паселішчаў аднаго з другім, але і ахоплівала таксама вераванні, абрады, моду і г.д.

Вельмі рэдка на нашых землях трапляюцца валынскія падвойныя курганы, а калі і бываюць, то толькі на самым сумежжы валынян з дрыгавічамі.

Гэта не абазначае, што размежаванне паміж дрыгавічамі з аднаго боку і з другога — драўлянамі, валынянамі, мазаўшанамі ці яцвягамі зусім не было, або граніца была расплывістая, невыразная, размытая. На самай справе граніца была і то вельмі выразная і надта ж трывалая, толькі не знешняя, вонкавая, але ўнутраная, міжчалавечая. Тадышнія надзвычай суровыя цяжкія ўмовы жыцця прымушалі кожнага чалавека моцна трымацца свае сям'і, роду, племені. Толькі дзякуючы ўнутранай згуртаванасці і моцнаму пачуццю роднасці, якое выяўлялася ва ўзаемнай падтрымцы, дапамозе, абавязку бараніць свайго аднапляменца і помсціць яго крыўду, чалавечая грамада магла існаваць і развівацца. Адзін чалавек ці адна сям'я і нават абасоблены адзін род не маглі існаваць, яны гінулі не столькі ад дзікіх звяроў ці з голаду, колькі з рук іншапляменцаў, якія забівалі старых, а маладых прадавалі ў няволю. Пэўна аж у тыя змрочныя часы сягае прымаўка: без племя ды без роду — чалавек прапашчы. Тады выгнанне з роду і племені лічылася пакараннем горшым, чым смерць. Слова „ізгой" (выгнаннік) абазначала тое самае, што і „вырадак" і было найгоршым кляймом для чалавека. Таму хоць насельніцтва на пагранічны было змешанае, але кожны чалавек вельмі моцна трымаўся свайго роду і племені і жыў іх жыццём.

Пра тое, куды сягалі паселішчы дрыгавічоў, пераканаўча сведчаць мясцовыя назвы, якія паказваюць на дрыгавіцкае паходжанне іх першапачатковых насельнікаў: каля вёскі Стокава пад Чыжэвам (Ломжынскае ваяводства) прасціраецца ўрочышча Дронгавізна, цікава, што знаходзіцца яно ў некалькі кіламетрах на ўсход ад старажытнай пагранічнай крэпасці мазаўшан у Свенцку-Струмянах. Непадалёк, таксама на ўсход ад гэтай крэпасці, каля вёскі Вышонкі, ёсць урочышча Дрэнгавізна, на ўсход ад горада Лохув (Сядлецкае ваяводства) распалажана старажытная вялікая вёска Дргвіч, а на левым беразе Буга, пры ўпадзенні ў яго рэчкі Точнай, ляжыць старажытнае паселішча Дражнеў (Сядлецкае ваяводства). Няма сумнення, што гэтыя і шэраг іншых паселішчаў з падобнымі назвамі знаходзіліся сярод мазаўшан або ў суседстве з імі і таму атрымалі найменні, якія паказвалі на іх насельнікаў — дрыгавічоў. Па такой жа прыкмеце былі вылучаны назвамі паселішчы мазаўшан або лендзян (ці „ляхаў" — як называлі ўсходнія славяне сваіх суседзяў заходніх славян), якія знаходзіліся ў гушчы дрыгавіцкага насельніцтва або на сумежжы з ім. Прыпомнім хоць некалькі з іх: Ляцк на поўнач ад Уладавы, Ляскавічы ў 6-8 км на поўдзень ад Драгічына на Бузе, Ляхі на захад ад Лапаў (Беластоцкае ваяводства), Ляхаўка каля Сямяціч, Ляхі каля Нарвы, Ляцкая Буда каля Чорнай Беластоцкай ці Ляшукі ў 6-7 км на поўдзень ад Заблудава, Мазанаўка на захад ад праваслаўнага манастыра ў Яблочыне (Белападляшскае ваяводства), Мазуры каля Высокага-Мазавецкага і само Высокае-Мазавецкае (Ломжынскае ваяводства), урочышча Мазэракавізна каля вёскі Кучын (на поўнач ад Цеханоўца на рацэ

Нурцы, Ломжынскае ваяводства), Масе ў гм. Монькі, Масева ў Белавежскай пушчы і іншыя. Вельмі мала маем назваў, якія паказвадць на іхніх валынскіх насельнікаў: Валынцы на поўдзень ад Седльцаў, Валынцы каля Кузніцы Беластоцкай і яшчэ дзве-тры, якія могуць быць пазнейшага паходжання.

Калі за ўсходнімі славянамі недзе ў X-XII стагоддзях замацавалася агульная назва „Русь", яна была перанесена таксама на паселішчы дрыгавічоў на іх сумежжы з мазаўшанамі і яцвягамі. Да такіх паселішчаў, між іншым, належаць Русілы на ўсход ад Парчэва і Рускаў на рэчцы Точнай па ноўдзень ад Драгічына (абедзве мясцовасці расположаны ў Белападляшскім ваяводстве), Русь каля Шапятова (займальна, што непадалёк яе прасціраецца ўрочышча з назвай Дрэзга, якая і пацвярджае, што гэтай „руссю" тут былі якраз дрыгавічы), Стара Русь каля Высокага-Мазавецкага, частка вёскі Шмурлы і ўрочышча каля яе Русь паблізу Бранска і іншыя.

Ужо пазней, калі склалася і ўмацавалася племянная дзяржава дрыгавічоў — Тураўскае княства — і дрыгавічоў суседзі пачалі называць таксама „тураўцамі", паявіліся на пагранiччы іх з мазаўшанамі і валынянамі мясцовасці з назвамі, якія паказвалі на дзяржаўную прыналежнасць або паходжанне іх насельнікаў: Тураў на поўнач ад Радзыня Падляшскага, Тужац на захад ад Лукава, Турна на рацэ Лівец каля Венграна, Турно паміж Парчэвам і Уладавай, рэчка Тураснянка і на ёй старажытнае паселішча Турасне (цяпер ужо некалькі мясцовасцей) на паўднёвы захад ад Беластока, урочышча Тужэц (Турэць) каля Суража, Тумна на Бузе каля Сямяціч, Тураўка каля Аўгустова (Сувальскае ваяводства), Туро на рацэ Сакалдзе ў Супрасльскай гміне, а нават Турасль (рэчка і мясцовасць) аж у Мазурскай пушчы за Кольнам, а таксама шэраг іншых.

Як ужо вынікала са сказанага раней, ад заранку існавання Тураўскага княства як дзяржаве дрыгавічоў нашым Пабужжу і Панароўю выпала вельмі важная роля пагранічча яго з яцвягамі, мазаўшанамі і валынянамі. Таму тут на працягу VII-XIII стагоддзяў складвалася і ўмацоўвалася суцэльная сістэма абаронных умацаванняў — рознай велічыні і значэння крэпасцяў, засекаў, запрудаў ды іншых перашкодаў, па якіх па сённяшні дзень засталося мноства гарадзішчаў. Нязначная частка іх і цяпер яшчэ выяўляецца ў назвах вёсак і гарадоў, напрыклад: вёска Гарадзішча каля Белай Падляшскай, Градзішчане — вёска ў гміне Дуброва Беластоцкая, Гарадок — сядзіба гміны Гарадок (Беластоцкае ваяводства), мясцовасці каля Высокага-Мазавецкага (Ломжынскае ваяводства), вёскі каля Парчэва (Белападляшскае і Сядлецкае ваяводствы), Гарадзіска каля Шудзялава на Беласточчыне, Гродзіск — сядзіба гміны на беластоцкім Пабужжы і ў гміне Сухаволя (Беластоцкае ваяводства), у гмінах Грэмбкаў, Мрозы і Збучын (Сядлецкае ваяводства), вёска Гарадзіска каля Нараўкі (Беластоцкае ваяводства); Засек — дзве вёскі каля Аўгустова (Сувальскае ваяводства), Зарубы ў гміне Дзядкавічы на беластоцкім Пабужжы, Осецк — у Сядлецкім, Завады у гмінах Турасне, Дабжынева і Бельск на Беласточчыне, гмінах Цэранаў, Ліў, Пшэсмыкі ў Сядлецкім, вёска Баратынец на Беласточчыне, вёскі Самборы і Рацібары каля Шапятова (Ломжынскае ваяводства) і інш. Яшчэ болей урочышчаў з такімі ж назвамі, падамо для прыкладу некалькі з іх: Гарода і Гарадзец каля Аўгустова на Сувальшчыне, Груд (Горад) і Грудэк (Гарадок) каля Высокага-Мазавецкага Ломжынскае ваяводства), Гарадзіска каля Дубяжына пад Бельскам-Падляшскім, Замчыска — урочышчы каля вёсак Панізе, Длуге на Аўгустоўшчыне, Старэ Выкно пад Высокім-Мазавецкім, каля Краснага Сяла і Паплаваў на Бельшчыне, Замкава Гара каля Гацькоў каля Бельска-Падляшскага, Завалы каля вёскі Ястрабная пад Аўгустовам на Сувальшчыне і многа іншых.

Гэта ўсяго некалькі прыкладаў тых слядоў па абаронных збудаваннях з ранняга сярэднявечча, якія выяўляюцца ў назвах. А колькі іх не атрымала назвы і яны могуць быць адкрыты толькі спецыялістамі-археолагамі ў выніку карпатлівых даследванняў! Яшчэ болей іх загінула праз дзейнасць чалавека. Для прыкладу: у Белавежскім запаведніку (Народным парку), дзе некалькі соцень год дзейнасць чалавека была невялікая, а ў апошнім стагоддзі амаль зусім спынілася, адкрыта больш за 300 пахавальных курганоў дрыгавічоў з IX-XIII стагоддзяў! Паўтараю: больш за 300 пахавальных курганоў на тэрыторыі памерам у 4 747 гектараў, а колькі такіх жа курганоў магло быць на аграмадным абшары Падляшша? З гэтага відаць, што нашыя землі ў ранім сярэднявеччы былі заселены, і ўсялякія казкі пра пушчанскія пустэчы тут трэба з паблажлівай усмешкай адкінуць.

Яскравы след па дрыгавічах застаўся ў нашай мове. Як паказваюць даследаванні мовазнаўцаў, дрыгавічам было ўласціва вымаўленне на месцы „о" пад націскам „уо": конь — куонь, воз — вуоз, ножка — нуожка, падворак — пудвуорок, плот — плуот, роў — руоў і г.д. На месцы „е" дрыгавічы вымаўлялі „ іе": белы — біелы, дзеўчына —

дзіеўчына, лета — ліето, свекар — свіекор, таксама на месцы націскнога „з“ вымаўлялі „ыэ“: рэжце — рыэжте, гарэлка — горыэлка, сэрца — сыэрце і інш. Так гаворыць сёння амаль усё сярэдняе Пабужжа і міжрэчча Буга і Нарвы. Уласцівасцю вымаўлення дрыгавічоў было „у“ замест „ы“: быць — буті, пытать — путаті, дым — дум і г.д. Такой жа дрыгавіцкай асаблівасцю з'яўляецца канчатак „з“ замест „ы“ пад націскам у клічнай форме назоўнікаў мужчынскага роду, напрыклад: нажы — нажэ, сталы — сталэ, хлопцы — хлопцэ і канчатак „е“ замест „і“: суседзі — суседзе, кавалі — кавале. Да дрыгавіцкай спадчыны ў гаворках Беласточчыны належыць таксама цвёрдае вымаўленне зваротнай часціцы „-ся“: мыўся — мыўса, мыўсо; усміхайся — усміхайса, усміхайсо; спяшаешся — спяшаешса, спяшаешсо і г.д. Гэтыя асаблівасці вымаўлення чуем сёння ў беларускіх народных гаворках у міжрэччы Нарвы і Бебжы. Таксама дрыгавіцкі радавод маюць формы будучага часу: буду араць — арацьму, будзеш рабіць — рабіцьмеш, буду жаць — жацьмуць і г.д. На жаль, толькі зрэдку і то пераважна ад старэйшых людзей чуем цяпер такую непаўторную сваім каларытам гаворку і ў нас на Беласточчыне, часцей за ўсё ў міжрэччы Нарвы і Бебжы. Захавалася таксама шэраг іншых слядоў мовы нашых продкаў — дрыгавічоў.

Гэтыя сляды па дрыгавічах — у зямлі, назвах, мове — пратрывалі сама меней тысячу год. Яны — неад'емная частка нашага сённяшняга жыцця. Мы настолькі звыкліся з імі, што нават не заўважаем іх і не задумваемся над імі. А трэба прыглядацца ўважліва ды заглыбляцца ў роздумах над нашым мінулым, бо з яго вырастаюць карэнні нашагаа сённяшняга і заўтрашняга.

**Мікола Гайдук**

**Антон Міранові̇ч**

# Паходжанне назвы Беларусь

Назва „Беларусь“ складаецца з двух сбоваў: Белая і Русь. У гісторыі вядомы назвы паасобных славянскіх земляў з коранем „русь“. Гэта: Чырвоная Русь[1], Чорная Русь[2], Холмская Русь[3], Галіцка-Валынская Русь[4], Вялікая і Малая Русь[5], Закарпацкая Русь[6], Уладзіміра-Суздальская Русь, званая таксама Залескай Руссю[7], Кіеўская Русь[8] і Белая Русь[9].

У розных народаў па рознаму называюць Беларусь, але ў міжнароднай тэрміналогіі прынята форма

У перыяд, калі сфармавалася Маскоўская дзяржава, беларускія землі называлі Руссю. Калі ж на палітычнай карце з'явілася Расія, гэту краіну пачалі называць Белай Руссю. У XIX стагоддзі расійскія ўлады прысвоілі ёй назву „Северо-Западный край“. Назва гэтая мела палітычны характар. Гэтаксама палякі называлі нашы землі Літвою. Сабецкая ўлада ў 1919 годзе вярнула Беларусі яе ўласную назву — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, скарочана: БССР. Частка Беларусі, якая апынуліся пад Польшчаю, атрымала назву Заходняй Беларусі, яе ж самы заходні абшар, які потым знайшоўся ў межах Польскай Народнай Рэспублікі.

Каб высветліць паходжанне назвы „Беларусь“, неабходна высветліць паходжанне яе галоўнага кораня „русь“. Большасць даследнікаў лічыць, што назва „Русь“ вяжацца з племем варагаў, з якога выйшлі першыя князі на Русі: Рурык і Алег. Гэта пацвярджае „Іпацієўскі летапіс“ з XIV ст.[10]. Іншая група даследчыкаў указвае на славянскі радавод назвы „Русь“. У пісаных крыніцах упершыню згадана слова „русь“ у дакуменце кіеўскага князя Алега, у ягонай умове з грэкамі з 911 года[11].

У гісторыяграфіі прыняты дзве канцэпцыі паходжання слова „Рус“: паўночная або скандынава-фінская, і паўднёвая. Першая з іх карыстаецца метадам этамалогіі і таму, згодна са сцверджаннем

 

Тунмана, прызнае што слова „русь“ передае фінскую назву Швэцыі — „Ruotsi“, якая ў сваю чаргу паходзіць ад скандынаўскай формы „Rodslagen“. Паводле гэтай тэорыі назва „Русь“ выфармоўвалася так: некаторыя ўрыўкі „Аповесці мінулых часоў“ пацвярджаюць паўночную канцэпцыю паходжання назвы „Русь“. У аповесці аб прыходзе варажскіх князёў ёсць згадка, што пасланцы славянскіх ды фінскіх плямёнаў накіраваліся за мора, да варагаў, гэта значыць: „у Русь“, бо так называліся тыя варагі. Разам з тым вядома нам, што ніколі не існавала ў Скандынавіі племя з такой назваю, менавіта: „Русь“. Памылку ў „Аповесці мінулых часоў“ трэба тлумачыць неадкладнай ідэнтыфікацыяй аўтарам Русі з востравам Ругія. Гэты востраў, заселены германскімі плямёнамі, званымі ругіямі, з часам занялі славяне, прысвоіўшы сабе назоў руяне. Ругія знаходзіцца ў тым месцы, пра якое ідзе гаворка ў „Аповесці“, блізка колішніх шведскіх готаў і дацкіх англяў.

Ацэньваючы вынікі даследаванняў назвы „Русь“, Гэнрык Лаўмянскі сцвярджае, што лакалізацыя Русі ў Скандынавіі ёсць штучнай камбінацыяй, пазбаўленай падставаў у мясцовай усходнеславянскай традыцыі. Прычыну ўзнікнення гэткай канцэпцыі ён бачыць у скандынаўскай стыхіі, якая ўлівалася ў Кіеўскую Русь, засвойваючы яе назву. Ад гэтай жа стыхіі, паводле Лаўмянскага, перайшла ў кіеўскае асяроддзе легенда, супярэчная мясцовай традыцыі наконт паўднёвага паходжання Русі.[12]. Такім чынам траціць на сваім гістарычным абгрунтаванні паўночная канцэпцыя паходжання назвы „Русь“ — паводле іх жа — гэта славянскі эквівалент племеннага назову „Rhōs“ (падоўжанае ō пераўтварылася ў гук „у“).

Назва „Rhōs — Русь“ у крыніцах над сярэднім Дняпром з'яўляецца ўжо ў 839 годзе, у вядомых навуцы пісьмовых помніках, і на тыя часы не была чымсьці дзіўным, новым. Датычыла яна тэрыторыі, якая ахоплівала сярэдняе цячэнне Дняпра, і часта атоесамлівалася яна з палянамі. Гэта не зусім дакладная назва. Ужо ў пачатку IX стагоддзя Русь не характарызуецца этнічнай цэласцю, і ў будучым яе этнічная структура ўсё мацней ускладняецца. Апрача асноўнага славянскага элементу, які складалі паляне і частка, северанаў, былі яшчэ прышлыя паўднёвыя ды ўсходнія славяне, таксама фіны і норманы, якіх асімілявала славянская маса. Прыняццё звышплеменнай назвы „Русь“ знаходзілася ў простай сувязі з пераходам ад племяннай дзяржаўнай арганізацыі, а ініцыятыва ўвядзення гэтай назвы выйшла несумнена з дзяржаўных колаў. Кіеўская дзяржава адыграла вядучую ролю ў працэсе пераўтварэння групы ўсходнеславянскіх плямёнаў у нацыянальную дзяржаву. Падрабязны аналіз летапісаў пераконвае ў тым, што тэрмін „Русь“ з'явіўся ў дзевятым стагоддзі і датычыў ён Кіеўскай зямлі. У наступныя стагоддзі пашырыўся ён на тыя ўсходнеславянскія плямёны, якія трапілі ў залежнасць ад кіеўскіх валадароў. Назва гэтая знайшла сваё асаблівае пашырэнне пасля хрысціянізацыі ўсходнеславянскіх плямёнаў. Кіеў вырас у палітычны і рэлігійны цэнтр у IX—XI стагоддзях.

Назва „Белая Рус“ упершыню з'явілася ў пачатку XIII ст. [13] як заўважыў тое Ляманскі. За падставу дзеля таго прыняў ён з'яўленне назвы „Weissen Renzzen“ у творы нямецкага пісьменніка з канца XIV ст. Пятра Зухенвуара[14]. Тэрмін гэты стаў вядомы польскім аўтарам у XV ст. Ян Чарнкоўскі, апісваючы месца зняволення Ягайлы паведамляў: „in quodam Castro Albae Russiae Polozk dicto“.[15]

У шматлікіх дакументах часоў Вітаўта ды Ягелонаў гаворыцца пра Белую Русь. Гэты тэрмін датычыў часткі Вялікага княства Літоўскага. Цяжка адназначна сцвердзіць, наколькі гэты тэрмін быў распаўсюджаны; ужываецца ён выключна ў дыпламатычных дакументах і творах пісьменнікаў. Таму цяжка згадзіцца з поглядам Карскага, што гэтая назва была паўсюднай у беларускім грамадстве ў XV стагоддзі[16]. Ад XIII ст. беларускія землі найчасцей называлі Літвою, бо ўваходзілі яны ў склад Вялікага княства Літоўскага. Вядомы польскі даследчык Аляксандр Брукнэр піша пра навязванне беларусам назвы „Літва“, у сваіх работах, прысвечаных пісьменству XVI стагоддзя[17]. Называнне Беларусі Літвою было папулярнае і ў наступных стагоддзях. Нават у перыяд нарастання нацыянальнай свядомасці Міцкевіч пісаў пра сваю беларускую айчыну: „Litwo, ojczyzno moja“. Хоць Навагрудчына напэўна не Літва! На працягу чатырох стагоддзяў беларускую зямлю называлі літоўскаю, і ў польскім асяроддзі замацаваўся тэрмін „Літва“. Палякам назва „Літва“ дае прыемны ўспамін пра колішнюю веліч Першай Рэчыпаспалітай. Як адбітак такога навыку была манера ставіць прыметнік „літоўскі“ побач назоваў беларускіх гарадоў, напрыклад, Брэст Літоўскі. У суседніх жа дзяржавах называлі беларусаў правільна. У XVII ст. шматлікія эмігранты адсюль, ці то ў Маскве ці ў Прусіі, называлі сябе беларусамі. Маскоўскі патрыярх Філарэт у сваёй пропаведзі, сказанай пасля свайго вяртання з Рэчыпаспалітай гаварыў: „Когда я был в Польском и Литовском государстве, я видел многия церковныя несогласия у самих христиан православных, которые там на-

 

 

зываются белорусцами".[18] Трэба меркаваць, што ў XVII стагоддзі вялікая частка жыхароў Вялікага княства Літоўскага вызначала сябе беларусамі. Магілёўскія праваслаўныя епіскапы, як паведамляе арх. Афанасій, называлі сябе ў XVIII ст. беларускімі епіскапамі. Падобную назву прынялі полацкія уніяцкія епіскапы на чале са сваім мітрапалітам.[19]. Цяпер жа ставіцца пад сумненне тыя звесткі і некаторыя даказваюць, што толькі вялікія таленты Белай Русі — Янка Купала і Якуб Колас — вярнулі нашай айчыне яе ўласнае імя, адкапалі яе радавод.

Зусім нярэдка можна напаткаць думку, што беларускія жыхары Беластоцкага краю — гэта нішто іншае як след мінулай рускай (расійскай) акупацыі ды русіфікацыі. А жа ж у той жа імперскай Расіі ў пачатку XIX ст. адзін з драгунскіх палкоў атрымаў назву „беларускага". Цар Аляксей Міхайлавіч, уступіўшы ў Вільню ў 1655 годзе, дадаў да свайго тытула: „уладыка Беларусі". Старабеларуская мова была ўрадавай мовай і паўсюдна зразумелаю ў польска-літоўскай дзяржаве да канца семнаццатага стагоддзя. Беларускі люд не пакінуў яе ніколі, і хоць нямала змянілася ў яго жыцці ад тых часоў, надалей застаецца яна яму роднай.

Беларусь, незалежна ад таго, як будуць яе называць — Белай Руссю, Літвою, Паўночна-Заходнім краем, Беларускай Сацыялістычнай Рэспублікай, — назаўсёды застанецца адзінаю, непадзельнаю. У Беларусі „старадаўнія сведчанні", з якіх не адна „Litwa zaś z nich rosła" Стрыйкоўскі, пішучы так, часта гаворыць пра Белую Русь, што цяжка атоесамліваць з усёй этнічнай тэрыторыяй Беларусі. Тым не меней факт гэты — добры доказ таго, што назва „Беларусь" гэтак жа даўняя, як Чырвоная Русь, Чорная Русь, або Літва.

**Антон Міранові**

1) Чорная Русь — у XI ст. удзел Кіеўскай Русі, а затым Вялікага княства Літоўскага з Наваградкам, Ваўкавыскам, Гарадняй: частка беларускага арэалу.

2) Чырвоная Русь — гістарычная назва паўднёва-заходніх абшараў колішняй Кіеўскай Русі; у XI—XIII ст.ст. у складзе Уладзіміра-Галіцкай Русі.

3) Холмская Русь — частка Кіеўскай Русі. з цэнтрам у г. Холм (цяпер польскі Хэлм).

4) Галацка-Валынская Русь — дзяржава, якая ўзнікла ў выніку аб'яднання княстваў уладзаміра-галіцкага і валынскага. Яе тэрыторыя сягала да рэк Сан. Венр, верхняе цячэнне Паўднёвага Буга, ахоплівала вадападзел Буга і Нёмана, багны верхняй Прыпяці.

5) Малая Русь — назва прысвоена Украіне ў XVIII ст.: Вялікай Руссю называлі Маскоўскую дзяржаву.

6) Закарпацкая Русь — тое, што і Закарпацкая Украіна.

7) Уладзіміра-Суздальская Русь, Залеская Русь, — у XII ст. удзел Кіеўскай Русі паміж Акою і верхняй Волгаю; на поўначы яе межы даходзілі да Белавозера і Усцюга. Да X ст. тэрыторыі званыя Залессем засялялі карэнныя ўграфінскія плямёны (марыйцы).

8) Кіеўская Русь — раннефэадальная дзяржава ў IX—XII ст.ст. са сталіцаю ў Кіеве. У X—XI ст.ст. яе межы вызначалі: Сан, Вепр, верхні Нёман і сярэдняя Дзвіна, азёры Ладога і Амега, басейны верхняй Волгі, Акі, Дона; ад Чорнага мора аддзялялі яе стэпы, дзе жылі незалежныя полаўцы і печынегі.

9) Белая Русь — Rusis, Russia, Ruzia, Ruthenia.

10) Полное собрание русских летописей, т. I, стар. 5.

11) Там сама, стар. 150.

12) Henryk Lowmiański. Początki Polski, t. I, W-wa 1973, s. 151.

13) В. И. Ляманский, „Живая старина", 1891, вып. III, стар. 245.

14) Там сама, стар. 245—250; арх. Афанасий Матрос, Белорусь и исторической государственной и церковной жизни, Буэнос-Айрэс, 1966, стар. 15.

15) A. Procharska, Codex Epistolaris Vitoldi, Cracoviae 1882, s. 245.

16) Е. Карский, Белоруссы, т. I, стар. 115.

17) A. Brückner, Rusko-polski rękopis roku 1510 , „Slavia", t. VII, s. 10-15.

18) М. Богоявленский, Петр I. Материалы для библиографии, стар. 72, арх. Афанасий, ор. сі. сар. 15.

19) Там сама, стар. 16.

20) Maciej Stryjkowski, Kronika polska, litewska, żmudzka i wszystkiej Rusi, t. I, s. 219.

Шырэй пра тэрмін „Белая Русь" у работах М. Стрыйкоўскага: Н. Н. Улащик, „Белая и Чёрная Русь в „Кронике" Матвея Стрыйковского" (у) „Исскедования по истории и историографии феодализма. К 100-летию со дня рождения академика В. Д. Гракова". Москва, 1982, стар. 238—242.

НАРОДНАЯ КУЛЬТУРА

**Мікола Лобач**

# Хлеб

*Хлеб... Чорны, белы, шэры,*
*сітны,*
*З чарэні хлеб і фармавы.*
*Хлеб — мой і твой, яго*
*і ўсіхны.*
*Ні для каго — не дармавы.*
*Хлеб... Аржаны, аўсяны,*
*ячны*
*З дамешкай бульбы і гірсой.*
*Хлеб... Толькі смачны, вечна*
*смачны*
*Калі зароблены і свой.*
*. . . . . . . . . . . . .*
*Хлеб... не за свой загар*
*румяны,*
*А за святло, што ў душы нёс,*
*У песнях з сонцам ён*
*зраўняны,*
*Як цар зямлі з царом нябёс.*
*. . . . . . . . . . . . .*
*О, хлеб наш, хлеб! Хоць*
*і няўдзячны,*
*Нярупны множыцца ядок —*
*Заўжды жаданы, вечна*
*смачны*
*На свеце будзе твой кусок.*
*І еш дакуль Зямлі зялёнай*
*Трымцець на лёсу цеціве —*
*Найпершым клопатам*
*надзённым*
*Тут будзе клопат пра цябе.*

**Ніл Гілевіч.** Фрагменты лірычных адступленняў з рамана ў вершах „Родныя дзеці“.

Калі справа ідзе пра хлеб, заўсёды нагадваю адно здарэнне з граніцы маёй памяці. У той дзень вазілі гной пад жыта. Маці і бацька босыя, з бруднымі нагамі, віламі накідалі на воз гной. Усюды стаяў смурод. Дзед абуты ў лапці, трымаў у руках лейцы і хутка з поўнымі гнаянкамі паехаў. Маці і бацька з расістымі кроплямі поту прыселі адпачыць. Мабыць усё мяне моцна ўсхвалявала, бо пытанняў — Чаму? Нашто? Куды? задаваў без ліку, не разумеючы сэнсу адказу. Выдавалася, дарослыя пачалі нейкую дзіўную брудную гульню. А спалучыць паняццяў гной-жыта ніяк не мог.

Не разумеў усяго і тады, калі бачыў, як трасуць гной, як аруць поле. І вось аднойчы, калі ўзялі мяне на поле, убачыў жудасны малюнак. Дзед у чыстай кашулі з каробкай-сявенькай на ручніку, ідучы павольна на ўсе бакі раскідаў жыта на зямлю, з якой яшчэ мала таго тырчэлі вехці нязгніўшай саломы і дзе-ні-дзе ляжалі наверсе камякі гною. Набожны дзед хрысціўся, пачынаючы „рас-



**Драўляны плуг.** **Фота: архіў.**

сыпаць“ жыта і дайшоўшы да канца гонаў, а мне здалося, што ён не баіцца вялікага граху, бо парассыпаў жыта гэты сварлівы дзед, мабыць, усім на злосць. А мне нават горстачку курам не пазвалялі кінуць і страшылі ўсімі чарцямі і гарачай смалой за гэта. На світанку свядомасці не магла быць даходлівай сялянская сутнасць вырошчвання хлеба і залежнасць гной — хлеб.

Тлумачэнне: гной вязуць на поле, каб жыта лепшае расло, калі зярняты будуць ядраныя, то і хлеба будзе больш, а з таго жыта, якое рассыпаў дзед, як Бог дасць, будзе яго ў дзесяць разоў больш, ніяк не спалучаліся з тым грэшным рассыпаннем жыта на брудную смярдзючую гноем зямлю, якое называлі сяўбой.

Убачыўшы сяўбу, пасля недаходлівых тлумачэнняў, па-дзіцячы катэгарычна заявіў: — Я такога хлеба цалаваць не буду і есці не буду!

Аб гэтым інцыдэнце па-дзіцячы хутка забыў. Доўга духмяны бохан не спалучаўся з гноем, як і не спалучаўся з морам жыта і полем, якое вабіла блакітнай валошкай, каб толькі не тыя праклятыя „русаўкі“, якія не дазвалялі нырнуць у тое зялёнае, потым васковажоўтае мора, дзе пад подыхам веснавога ветру калыхацца ніва, адліваюць тугія керасы.

* ✲ *

Сутнасць святога паняцця „хлеб“ для ўсіх адна, але кожны па-свойму разумее яго цану. Нашы сучаснікі цану хлеба мераюць колькасцю злотых, выданых у магазіне, не думаючы аб зусім іншай цане, якая не можа вымерацца грашыма і аб людзях, якія шчыруюць па хлебным полі. Для іх, на жаль, хлеб страціў усю сваю веліч, а з ёй свой сапраўдны непаўторны смак і арамат.

Відаць, самыя шчаслівыя тыя, што ў час маленства спазналі таямніцу хлеба і хлеб ацэньваюць смакам араматных лустачак з дзяцінства, для каго на ўсё жыццё застаўся пах не заўжды багатага чорнага акрайца, якога ўвесь час было замала, каб наесціся ўдосталь. І пахам... поту і гною. Для іх сам успамін пра хлеб спалучаецца з прыемным казытаннем у страўніку, калі маці пякла хлеб, які выдавалася напаўняе сабой назаўсёды ўсю хату.



**Драўляная барана.**
**Фота: Міхася Шаховіча.**

Я не зайздрошчу сучаснікам, якія заспаныя рана нямытым пальцам правяраюць свежасць хлеба. Яны ніколі не спазнаюць сапраўднага смаку і арамату хлеба, бо нават найлепшыя сарты хлеба з пякарняў не маюць яго толькі, колькі скромны хлеб нашага дзяцанства, які ласкай матчынай расплываўся у роце.

Для мяне хлеб — гэта казытліва-прыемны пах гною, які напаўняе ўсю прастору вакол нас, пах узаранай раллі, урачыстасць сяўбы, качанне караваю на Юр'е, радасць цяжкай працы жанцоў, рытуалы зажынак і дажынак, самотныя перапёлкі на апусцеўшым полі і першы бохан хлеба з новага ўраджаю бялейшы і смачнейшы чым іншыя штодзённыя меню, смачны заўсёды хлеб.

Гэта рытмічная музыка малацьбы цэпам — спакойныя, раўнамерныя ўдары аднаго цэпа, і нарастаючыя штораз хутчэйшыя спрытныя ўдары ў два або тры цапы і раўнамернае манатоннае жужжанне жорнаў.

І ўрэшце час нарыхтоўкі хлебнага цеста і выпечка падобная на свята...

* ✲ *

У адной з хрысціянскіх малітваў просяць Бога ў першую чаргу: — „Хлеба нашага штодзённага дай нам сёння“. Беларусы „моляцца“ больш канкрэтна. У беларускіх „ма-

літвах“ — народных песнях з нагоды абрадаў гадавога цыкла, апрача просьбы да Бога, адлюстроўваецца і спроба актыўна ўздзейнічаць на сілы, якія садзейнічаюць здабыванню хлеба.

*Блізка каляда,*
*Усе людзі рады:*
*Япручкі смаляць*
*І Бога хваляць*
*Радуйся, зямля*
. . . . . . . .
*Бо жыта родзіць.*

* ✲ *

*А памажы Божа,*
*Вясну красну клікаць*
*На ціхае лета,*
*На спелае жыта.*
*А дай жа ты, Божа,*
*Ды ў снапы спорам,*
*А ў полі капамі,*
*А ў гумне сціртамі*
*А ў пуні вазамі,*
*А ў клеці зёрнамі,*
*А ў млыне намолам,*
*А ў дзяжах падходам,*
*А на сталe сыццю*
*Ды к добраму жыццю.*

Не звяртаюцца яны з просьбай „дай“ гатовага, але просяць, каб дапамог, бо хлеб беларус здабываць прывык сам і ведае, што трэба хваліць Каляду і клікаць Вясну, калі прыдзе добрая Вясна, сам здабудзе працай.

Хлеб штодзённы і найбольш папулярны прадукт харчавання, аснова жыцця. Ён ніколі не прыядаецца. Прызнаны ўсімі найцудоўнейшым падарункам прыроды, якога нельга замяніць іншым харчаваннем. Звычайна гавораць, калі хвораму хлеб становіцца смачны, ён пачынае выздараўліваць.

Хлеб з’яўляецца сімвалам жыцця, дастатку і поспехаў. Не заўсёды і не для ўсіх аднак быў ён штодзённым харчаваннем. І не толькі перад самым новым ураджаем ці ў нярэдкія перыяды голаду. Для многіх яго не хапала заўсёды. Гэта адлюстроўвае прыказка: „Ідзе зіма, а тут хлеба няма“.

Адначасова народная педагогіка заўсёды падкрэслівала, што толькі праца ёсць асновай усяго бо „хлеб чужы — не смачны“, „хлеб плача, калі яго дарма ядзяць“, „на чужы каравай рота не раздзяўляй“.

Хлеб аднак быў чымсьці больш, чым прадуктам харчавання, хоць несумненна, яго роля ў быце і культуры вынікае з таго, што з’яўляецца ён асновай быту чалавека.

Хлеб усяму галава — гавораць, — самае святое, што ёсць у чалавека, сімвал надзеі чалавека працы. Аб дрэнным, нядобразычлівым чалавеку гавораць: — Ён з нікім хлеба не ламаў і гэта адначасова абазначала, што такі чалавек не меў акрэсленага месца ў грамадстве. Калі аб кімсьці гаварылі: — Ён не з адной печы хлеб еў — гэта абазначала, што такі чалавек вопытны, дасведчаны і ўмее сябе паводзіць у кожнай сітуацыі, але і адначасова перасцерагалі перад ім. Бо свой чалавек еў хлеб са сваёй печы і гэтым хлебам дзяліўся.



* ✲ *

Хлеб не для ўсіх людзей на зямлі гэта той жа самы прадукт, але заўсёды, у кожны час і ў кожнай краіне чалавек спажываў які-небудзь прадукт, які лічыўся асноўным.

Для народаў Еўропы і Бліжняга Ўсходу ёсць добра вядомы хлеб з зерня хлебных збожжаў, для Сярэдняй Азіі і значнай часткі Афрыкі — прадукты з проса, для Паўднёва-ўсходняй Азіі — рыс, для многіх амерыканскіх народаў — кукуруза, для гарачых зон Афрыкі — сага і іншыя прадукцы.

Вучоныя сцвярджаюць, што вырошчванне збожжавых культур (ячменю, пшаніцы, проса) бярэ пачатак недзе ў 12000-10000 год да нашай эры ў Азіі. З перыяду 8000-5000 да н.э. знойдзены сляды збожжавых культур у Еўропе. Гліняныя начынні пражыць зерне паходзяць з эпохі бронзы.

Расціраць зерне і іншыя расліны чалавек пачаў вельмі рана. З перыяду 4000-2000 год да н.э. знойдзены камені, якія скарыстоўвалі для гэтага. З так нарыхтаванай сыравіны пачаткова варылі кашу, якая, паводле меркаванняў вучоных была папярэдніцай праснака, які атрымаўся мабыць выпадкова ў час гатавання на вогнішчы, калі страва разлілася на вогнішча і там спяклася. Так атрыманыя праснакі сталі папярэднікамі хлеба. Пяклі іх у



**Жорны.** **Фота: архіў.**

попеле, на плоскіх каменнях загорнутыя ў лісце.

Варта адзначыць таксама, што першабытныя народы, якія пражывалі ў аддаленых ад сябе абшарах Азіі, Афрыкі, Еўропы і Амерыкі, нават у Аўстраліі ўжывалі ступ і ступак, формы якіх былі вельмі падобныя.

Першыя даныя аб аладдзях і праснаках паходзяць з Егіпту і датуюцца 2840-2680 гадамі да н.э. Міскі з хлебам з ячменнага зерня знойдзены ў грабніцах старажытных егіпцян. Вядома, што ў гадах 3000-2000 да н.э. былі ў Егіпце спецыяльныя ўраднікі і наглядчыкі над пякарнямі, а за Рамзеса III спажывалі там трыццаць розных гатункаў печаных вырабаў з пшанічнай і ячменнай мукі.



**Свіран.** **Фота: архіў.**

Старажытныя грэкі майстэрства выпякання хлеба перанялі ад фінікійцаў. У Афінах 50 год да н.э. ведалі пяцьдзесят гатункаў печаных вырабаў, а малады пекар каб мог працаваць, самастойна павінен быў спячы сорак восем відаў пякарскіх вырабаў.

У Рыме ў час панавання кесара Аўгуста існавала больш пяцьсот пякарняў, а рымляне ведалі некалькі гатункаў хлеба — светлы, смуглы і хлеб для бедных. Упершыню аб купалападобнай печы для выпечкі хлеба ўпамінае Герадот каля 500 года да н.э.

Каля 15 год да н.э. у Рыме збожжа малолі ў вадзяных млынах, а ў засыпанай у 79 годзе ў выніку выбуху вулкана Везувія Пампеі ў XIX стагоддзя адкрылі пякарныя печы, якія ў асноўным не адрозніваюцца ад сучасных.

Першая знойдзеная на нашых землях ворная прылада — рала датуецца 2500-2000 гадамі да н.э., а ратацыйныя жорны ўжываліся каля 400 года да н.э.

Хлеб, які спажывалі нашы продкі адрозніваўся ад сучаснага спосабам прыгатавання, формай, смакам і спажыўнымі вартасцямі. Распаўсюдзіўся ён у час вялікіх перасяленняў народаў каля IV стагоддзя н.э., у VIII стагоддзі пачалі шырока ўжывацца купалападобныя печы, колькасць якіх павялічылася ў IX-X стагоддзях.

Пшаніца і ячмень прышлі на нашу тэрыторыю з Азіі. Гэтыя хлебныя расліны распаўсюдзіліся ў славян разам са спадарожнічаючым ім пустазеллем — жытам. Пачаткова нашы продкі вялі з ім жорсткую барацьбу, аднак з часам пераконваліся, што яно больш вынослівае ў больш халодным клімаце і на горшых землях, пачалі яго вырошчваць. Збожжа гэтае стала з часам дамінуючай хлебнай раслінай. Дагэтуль не зусім вядома ці сугучнасць слоў жыць — жыта вынікае з вялікай жыватнасці жыта ці гэтыя два словы з'яўляюцца як бы сінанімамі жыцця.

У раннесярэднявяковых знаходках у Сярэдняй Еўропе з насенняў найчасцей вырошчваных раслін сустракаецца проса, пшаніца і жыта, радзей ячмень, авёс, віка, лён, каноплі, грэчка, боб і гарох. Проса разам з пшаніцай і ячменем належыць да гатункаў найчасцей вырошчваных яшчэ ў час вогненна-падсячнога земляробства.

Усе гэтыя гатункі збожжаў захаваліся ў меншай ці большай ступені па сённяшні дзень. Перавага жыта выразна бачная з X стагоддзя. З гэтага часу становіцца яно асноўнай сыравінай для выпеку хлеба.

Аб праўдзівым хлебе можна гаварыць толькі ад IX-X стагоддзя, захаваўся нават бохан хлеба, печанага на заквасцы, знойдзены археолагамі на тэрыторыі Чэхаславакіі. Польскія крыніцы ўказваюць на спажыванне хлеба ўсімі слаямі грамадства ў XI і XII стагоддзях. Розныя віды хлеба паявіліся толькі ў XII стагоддзі, аб чым упамінаюць кіеўскія крыніцы. На два стагоддзі пазнейшыя польскія крыніцы падаюць спісак дзевяці асноўных тыпаў хлеба: — хлеб жытні звычайны, жытні чорны, белы пшанічны, сушаны (сухары), булкі пшанічныя, рагалікі, праснакі печаныя на алеі з сырам і макам або шафранам, а таксама пячэнне завіванае з сырам або яблыкамі. Пяклі з мукі з дадаткам яек, малака, масла і мёду. Адначасова выпякалі праснакі ў попеле, загорнутыя ў лісце, на рашотцы і інш.

* * *

Дасканала адлюстроўвае складаны шлях ад зерня да хлеба беларуская няхітрая казка аб сыне ўдавы, што на могілках начаваў. Аднойчы ў карчме багаты гаспадар, які меў сем валоў сказаў: „Хто на нашых могілках пераначуе, то таму дам „быка". На тых могілках быў пахаваны чалавек, які ў дванаццаць гадзін ночы ўставаў з магілы і страшыў. Гэты хлопец за радай маці ўзяў з сабой пеўня жывога і лусту хлеба. Маці сказала пеўня трымаць у руках, а хлеб палажыць пад галаву. Калі выйдзе мрэц з магілы, хлопец павінен быў не аказвацца. Мрэц, які вылез з магілы, пазнаў, што нехта ёсць, але хлопец маўчаў... Мрэц прыгразіў: Аказвайся, бо ўдушу! Тады хлеб аказаўся:

— Я!

— Хто: Я?





© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

— Мучанік!

— Які ты мучанік?

— Такі, — кажа, — мучанік: Возьме мяне гаспадар, параскідае па полі, потым баронамі давай драць і чыста мяне змяшае з пяском. Потым, як дасць дождж, заб'е мяне, так я храсткі папускаю і расту. Расту, расту, расту, ужо мне добра, аж як дасць снег, чыста — кажа — я змерззну і гэта мне яшчэ нічога... Потым пад вясну снег зыдзе з мяне і ўжо мне добра. Расту я, расту, аж стане пячы слонка, чыста я — кажа — пажоўкну, ужо зусім прапаў. Ажно як насходзіцца бабаў, як стануць мяне рэзаць! Так рэжуць, рэжуць і ўсё ў кучкі стаўляюць. Чыста яны мне кішкі паразрэзваюць, ужо ў мяне зусім духу няма! Пякуся я са два тыдні на слонку, аж прыязджае гаспадар, усё кідае на воз і да гумна возіць. У гумне, за кожным разам, кладзе мяне ў торп, і ўсё каленьмі пратоптвае, і ўсё каленьмі пратоптвае. Яшчэ як людскі гаспадар, да гумно вялікае, то ён мяне так прытоптвае, а як іншы да гумно малое, то чыста мяне стопча. Ляжу я ў торпі, аж прыходзіць гаспадар, скідае мяне з торпу на ток, скідае. Потым як стануць мяне цапамі біць, чыста з мяне костачкі павымятаюць. Потым збярэ мяне, выдзьмухае, вычысціць, напаліць печ, усыпле мяне — чыста я ўжо згару да звані! І гэта мне яшчэ няма ніц! Потым, выбярэ мяне з печы, завязе да млына, да ўсё мяне каменнямі трэ, ды трэ. Чыста ўжо мяне змеле, замне, ажно чуць я жыў. І гэта мне яшчэ нічога. Дапёро як мяне небараку прывязе да хаты, так гэта прыдзе баба, насыпле мяне ў дзяжу, ды ўсё навокал дзежкі ходзіць і кулакамі таўчэ, ды таўчэ. Як ужо я ўкісну, так напаліць печ, так накладзе на лапату і ў печ садзіць. Тут ужо мне канец. Потым сяджу я ў печы, сяджу, аж прыходзіць баба і выме мяне з печы, то як людзка катора, то барджэй мяне вадою паліе, тады мне крыху дух прыдзе.

Як ён гэтыя іловы вымавіў, так гэты певень: лоп! лоп! Крылямі і кукарэку! а мрэц нават ні ў труну, але так нуртом у зямлю ўпаў"[1].

Варта адзначыць, што ў народным вераванні хлеб мае таямнічую магічную сілу якраз ад таго, што праходзіць такі складаны цяжкі шлях і вельмі часта ўжываюць яго як забеспячэнне ад усяго злога і розных дэманічных сіл.

У чым жа сіла і таямніца Хлеба?

З хлебам спалучаюць усе найважнейшыя вартасці існавання — дастатак, добры плён, пладавітасць жанчын і жывёл, спакойнае і бяспечнае жыццё. Ён з'яўляецца крыніцай вяселля, сямейнай і грамадскай радасці, сімвалам пашаны і ласкі. Месца яго ў хаце знаходзілася ў святым куце, пад абразамі. Людзі верылі, што хлеб з'яўляецца асноўным божым дарам. Патрэбны быў як нованароджаным так і ўмершым. Калі нараджаўся чалавек, ахвяроўвалі хлеб, які меў спадарожнічаць яму праз усё жыццё, а таксама на тым свеце.

Сілу хлеба, з аднаго боку, трэба бачыць у таямніцы скрытага ў збожжавых зярнятах яго жыцця і вялікага стваральнага патэнцыялу, які яны маюць у сабе, у сваіх зародках, з другога — у здольнасці захоўваць жыццедайную сілу ў іншай постаці, калі выдавалася б, усе гэтыя сілы зерня павінны былі быць знішчаны. Хлеб як спалучэнне зерня, вады і агню набывае новую якасць і новую сілу, незалежна ад таго, што шлях ад зерня да хлеба зусім просты.

Тады нічога дзіўнага, што збожжа і хлеб спалучаюць, у сувязі з гэтым, наладжылі яны свой адпячатак на народны светапогляд і сістэму каштоўнасцей.

Сімволіка хлеба на працягу доўтага часу ўпляталася ў розныя формы выражання светапогляду і народных уяўленняў. Адгэтуль даволі істотная роля хлеба ў народ-



**Вятрак.** **Фота: Міхася Шаховіча.**



**Буслава лапа..** **Фота: архіў.**

ных звычаях і абрадах, у народнай магіі і медыцыне.

Народнае жыццё ў мінулым і сучасным напоўнена абрадавым ужываннем хлеба, трэба адзначыць, што выкарыстоўваецца ён у пачатку якоганебудзь дзеяння або стану, а таксама ў завяршэнне ці для пацвярджэння існуючага стану.

Акрэсленыя падзеі набываюць грамадскае значэнне за пасрэдніцтвам хлеба. Такім чынам, абрадавае ўжыванне хлеба мае заўсёды сімвалічнае значэнне. Сімволіка выражаная пры дапамозе хлеба, даволі багатая і разнастайная. Прадставіць яе вычарпальна амаль немагчыма і таму абмяжуемся некаторымі прыкладамі:

— Хлебам і соллю вітаюць важных дарагіх гасцей як і тых, што прыходзяць у дом,

— пры ўлазінах у новую хату найсамперш уносяць хлеб,

— хлебароб, выязджаючы першы раз у поле, бярэ з сабой хлеб, які кладзе на першую скібу.

У сямейных абрадах сімвалічную ролю хлеба выяўляецца найбольш выразна як:



1. Сімвал упаўнаважання:
   — сваты ідуць з хлебам,
   — на вяселле ідуць запрашаць таксама з хлебам.
2. Знак заключэння шлюбнага дагавору:
   — прыняццё і абмен хлеба,
   — у час рукабіцця ломяць хлеб і разломаныя часткі даюць бацькам.
3. Сімвал шлюбнага саюзу і вонкавая форма яго заключэння:
   — нявеста і жаніх кладуць рукі на хлеб, або падаюць рукі пад хлебам,
   — прысутныя з'ядаюць адзін хлеб,
   — падзел хлеба на дзве часткі, або дзяленне паміж усімі ўдзельнікамі.
4. Сімвал удзелу абшчыны ў прызнанні прыватнай справы:
   — удзел радні ў час выпякання караваю,
   — у час усаджвання ў печ, за лапату трымаюцца ўсе прысутныя, — падзел караваю.
5. Выражэнне пажадання дастатку і багацця (на радзінах, хрысцінах, наваселлі, вяселлі):
   — хлеб выкарыстоўваюць у многіх рытуальных абрадах.
6. Падарунак або форма платы за працу:
   — даванне хлеба парадусі і бабцы,
   — даванне хлеба святару пасля сямейнага абраду. Падобна даюць яму хлеб пасля.

У сувязі з вялікім значэннем хлеба ў быце, абрадах і звычаях грамадскім і асабістым жыцці паявілася шэраг вераванняў і забарон, звязаных з дзяжой і выпечкай хлеба, мэтай якіх было запэўніць заўсёды добры хлеб.

Былі таксама вераванні, звязаныя з магічнай роляй хлеба і яго лекавымі ўласцівасцямі. Вось некаторыя з іх:

Кладучы дровы ў печ на хлеб, трэба пільнаваць, каб палены былі чыстыя, нельга дапускаць да таго, каб падчас палення напаскудзіць, бо грэх на божы дар паліць гноям, а і хлеб не ўдасца.

У якое дрэва ўдарыць пярун, то нельга ім паліць на хлеб ані яды на ім гатаваць, бо сажа ў коміне загарыцца і на хлеб гэта нядобра ўплывае.

Выбраўшы цеста з дзяжы, трэба зараз дзяжу накрыць векам, каб адкрытая не стаяла, бо гэта нядобра.

Усадзіўшы хлеб у печ, гаспадыня падымае дзяжу з зямлі і на тое месца, дзе дзяжа стаяла, пырскае вадой (якая засталася ад хлеба) на крыж і перахрысціцца, бо ўжо тое месца, дзе дзяжа стаяла, важнае.

Дзе дзеўкі ёсць у хаце, то як толькі хлеб у печ усадзяць, хутка дзежку накрываюць і выносяць у камору, каб хутка дзеўкі замуж пайшлі.

Выняўшы хлеб з печы, трэба хутка абліць халоднай вадой, каб у пекле для душы не шкадавалі вады.



**Свянчэнне пасхі ў Лубніках, гміна Заблудаў. Фота: архіў.**

Нельга, выняўшы першую буханку з печы, рэзаць яго нажом, толькі трэба яго ламаць, бо хлеб да сямі разоў не ўдасца.

Хлеба ў Вялікі Чацвер выпякаць нельга, калі ж неабходнасць да гэтага прымушае, то, каб на ўраджай не мела кепскага ўплыву, трэба даць на мшу, а ўжо праз цэлы год асцерагацца ў чацвер пячы хлеб.[2])

Каб пячонка не пякла, трэба есці той хлеб, што назбіраецца на нажы ў час рэзання.[3])

Каб не баяцца грому, трэба есць запляснелы хлеб.[4])

Ідучы на суд, трэба адламаць галінку бэзу і ўзяць з сабой хлеба і солі, а судовая справа будзе выйграна.[5])

Каб быў добры ўлоў, трэба ў сухі невад улажыць кавалак хлеба і грудку солі.[6])

Абдарованы маладзіцай у час жніва, павінен чым хутчэй палатно са скібкай хлеба, калі яна яе толькі паложыць, забраць са снапа, што ў іншым выпадку маладзіца заставалася б праз доўгі час бясплоднай.[7])

Для таго, каб прыдбаць твару і рукам белага колеру і свежасці, як таксама супроць загару (...) раяць (...) вадой, якую ўжывалі для замешвання хлеба, абмывацца.[8])

Непасрэдная пашана да хлеба выяўляецца ў тым, што пачынаючы рэзаць хлеб, рабіць над ім нажом знак крыжа, калі хлеб падаў на падлогу яго падымалі, абдзьмухвалі і цалавалі.

Колькі з гэтай пашаны да хлеба засталося?

Ці хлеб перастане быць важнай з'явай народнай культуры і стане звычайнай штодзённай ежай без вясковых эмацыянальных афарбовак і паэзіі, дзякуючы чаму быў ён заўсёды смачны.

* ✲ *

*Ці не даволі верыць слепа*
*Той педагогіцы, браток,*
*Што пачынаецца не з хлеба,*
*Не з мазаля бярэ выток?*
*. . . . . . . . . . . .*
*Вучыць любові і пашане*
*Для хлеба труднага ў жыцці.*
*А мы? Што славім?*
*Што ўзвышаем?*
*Пра што пяём, бы ў забыцці?*

*Каму спрыяем і наровім*
*Каго гадуем? Спажыўцоў?*
*А як жа хлеба ім наробім*
*Мы — без аратых і жнячоў?*

*Ты за экранам зрэдку?*
*Прызнайся: згледзеў там хоць раз,*
*Як дзеці ўполі рвуць свірэпку*
*Ці гоняць статак на папас?*

*Не згледзеў, брат! Затое з рання*
*І аж да вечара — штодзень*
*Ты можаш бачыць на экране*
*Маленькіх скачучых людзей.*

*Пяюць і скачуць — усе чыста!*
*Такое ўражанне парой —*
*Што там мільёнаў сто артыстаў*
*Паставіць сёння ж трэба ў строй!*

*Я разумею, разумею —*
*Уздым культуры, рост патрэб...*
*Але... з іх кожны мае жменю —*
*І жменя цягнецца па хлеб!*

*Без хлеба скачацца не надта!*
*А хлеб буханкай не расце:*
*О, колькі трэба, каб*
*Падняўся колас у расе!*

*Так патрабуе ўжо*
*Дагляду мудрага дзіця,*
*Каб у жыццё аратым выйсці,*
*А не нахабнікам жыцця!*[9])

**Мікола Лобач**

---

[1]) M. Federowski, Lud białoruski, t. 1, Kraków, 1897 s. 191—192.
[2]) Там жа, с. 379
[3]) Там жа, с. 405
[4]) Там жа, с. 295
[5]) W. Szukiewicz, Wierzenia i praktyki ludowe, „Wisła", t. 17, 1903, s. 271.
[6]) Там жа, с. 340
[7]) Там жа, с. 328
[8]) F. Wereńko, Przyczynek do lecznictwa ludowego. „Materiały Archeologiczno-Antropologiczne", t. 1, r. 1896, s. 179.
[9]) У пачатку і ў канцы храгменты лірычных адступленняў з рама) на ў вершах „Родныя дзеці" Ніла Гілевіча.

Келясцін Брэн

# Па слядах рукапіснага этнаграфічнага апісання Бельскага павету свяшчэнніка Келясціна Брэна з 50-х гадоў XIX ст.



Зямлянкі ў вёсцы Гародчына, гміна Нарва. Фота: Міхася Шаховіча.

„Мясцовае этнаграфачнае апісанне Бельскага павету, які знаходзіцца ў складзе Гродзенскай губерні, складзенае настаяцелям Старакорнінскай св. Міхайлоўскай царквы, свяшчэннікам Келясцінам Іванавым Брэнам па праграме Імператарскага рускага геаграфічнага таварыства, прысланай пры ўказе Літоўскай духоўнай кансісторыі ад 6 кастрычніка 1863 г. за № 11424“ — такой ёсць поўная назва рукапіснай працы, якая знаходзіцца ў Архіве Геаграфічнага таварыства СССР у Ленінградзе, разрад II, вопіс I, № 4.

Этнаграфічнае апісанне Бельскага павету з'яўляецца несумненна адным з лепшых доследаў дасланых у той час у адказ на анкету ІРГО. Нічога дзіўнага, бо рабіў яго чалавек, які дасканала ведаў быт сялян і адносіўся да іх з вялікай пашанай. Да нашага часу не страціла яно сваёй актуальнасці як каштоўная першакрыніца пры этнаграфічным вывучэнні тэрыторыі, якую яно ахоплівае.

Варта даць некалькі звестак аб аўтары каштоўнага апісання.

Келясцін Брэн нарадзіўся каля 1800 г. на Брэстчыне ў сям'і малазямельнага селяніна. Закончыў шасцікласнае Брэсцкае вучылішча. З сярэдніх класаў пачаў даваць карэпетыцыі сынам памешчыкаў, каб зарабіць сродкі на сваё ўтрыманне, потым быў на працягу каля двух год пры гэтым вучылішчы гувернёрам, затым накіраваўся ў Жыровіцкую семінарыю (каля Слоніма), дзе займаў пасаду пісьмавода і адначасова праходзіў багаслоўскія класы семінарыі. На 31 годзе жыцця (у 1831 г.) пачаў службу як свяшчэннік у Кобрыне. У Стары Корнін перамешчаны 14 кастрычніка (ст.ст.) 1838 г. у сувязі з пераходам царквы на праваслаўнае веравызнанне з уніяцкага. Мясцовае насельніцтва пачаткова адносілася да яго варожа, нейкі час у царкву хадзіў у суправаджэнні прыстава. Хутка аднак удалося яму заваяваць прыхільнасць прыхаджан. Памёр 17 сакавіка (ст.ст.) 1875 г.

Упамянутае апісанне складаецца з шасці больш ці менш шырока прадстаўленых раздзелаў:[1])

I. Вонкавы выгляд
II. Мова
III. Дамашні быт
IV. Асаблівасці грамадскага быту
V. Разумовыя здольнасці, маральныя якасці і адукацыя
VI. Народныя паданні і помнікі.

Апрача гэтага ёсць 38 песень у гэтым 14 вясельных, 24 загадкі, 15 прымавак і 2 казкі („байкі“). Вясельныя песні падаюцца ў апісанні вясельных абрадаў згодна з храналогіяй вяселля, іншыя фальклорныя творы знаходзяцца ў канцы апісання. Ёсць таксама некалькі ма-

люнкаў адзення, рыбацкіх прылад і будынкаў з планамі.

Найбольш аб'ёмісты раздзел „Дамашні быт", у якім шырока прадстаўлена штодзённае жыццё, заняткі і клопаты селяніна, жыллё, адзенне, прылады працы, ежа, некаторыя звычаі і абрады, увесяленні, дзіцячыя гульні, хваробы людзей і спосабы іх лячэння.

Іншым раздзелам адведзена менш месца, тым не менш кожны з іх з'яўляецца каштоўнай крыніцай ведаў аб жыхарах тагачаснага Бельскага павету.

### I Вонкавы выгляд

Бельскі павет знаходзіўся ў быўшым Беластоцкім ваяводстве, зараз у Гродзенскай губерні. Гранічыць ён з Беластоцкім, Брэсцкім, Пружанскім і часткова Ваўкавыскім паветамі. Граніцы яго вызначаюць рэкі: Варта, Буг, Нурчык і Лесна, а таксама Белавежская пушча. Жыхары яго маюць агульнае імя Падляшане і паходзяць у большай частцы ад „аднаго племені — рускага народанасельніцтва". Прыгожыя па вонкаваму выгляду, правільнага і суразмернага складу цела, яны не адзначаюцца асаблівым ростам. Звычайна росту сярэдняга, хаця і вышэйшыя бываюць, з колерам валос русым, галубымі вачыма, часам шэрымі, чорныя вельмі рэдкія.

„Просталюдзін" моцны і стала заняты цяжкімі работамі. Гэта не дае яму магчымасці для развіцця сваіх разумовых здольнасцяў і не можа ён пахваліцца асаблівай спрытнасцю, жвавасцю і кемлівасцю, хаця нельга сказаць каб быў незваротлівым, нецямлівы і дурны. Падляшане ў многім бываюць больш вывучаны, кемлівыя і знаходзяцца на вышэйшай ступені развіцця прыроднага розуму чымсьці жыхары некаторых іншых паветаў.

Галоўнай крыніцай сродкаў для жыцця з'яўляецца земляробства. Селянін задавальняецца гэтым, таму моцна прывязаны да месца свайго жыхарства і неахвоча аддаляцца на заработкі.

Сярод „просталюдзінаў" найчасцей сустракаюцца наступныя хваробы: каўтун, трасца, гарачка, панос, асабліва вясною; часам паяўляецца хвароба „крупа" (грып), ад якой вельмі многа ўмірае дзяцей. Яна ў 1856 годзе была прычынай смерці значнай колькасці дзяцей ад аднаго да чатырох год уключна.

У некаторых частках павету жывуць перасяленцы з даўняга Польскага Каралеўства, якія стварылі значную колькасць аколіц, асабліва каля Драгічына, Бранска, Мельніка, Цеханоўца. Яны не адрозніваюцца як тыя ад іншых жыхароў гэтага павета, але выдзяляюцца па адзенню і мове і называюцца „Мазуры". Трэба адзначыць, што



асноўная ўвага ў апісанні звернута на сялян, якія называюцца „Падляшане".

Як бачым апісальнік выразна выяўляе сваю прыхільнасць да простага люду, хаця і свае эмацыянальныя адносіны — сімпатыю і спачуванне выказвае даволі стрымана, заўвагі апісальніка пра польскае насельніцтва адпавядаюць фактычнаму стану.

### II. Мова

Асновай простанароднай мовы Бельскага павету з'яўляецца „стараруская мова блізкая да старaславянскай". Сведчаць аб гэтым канчаткі дзеясловаў незакончанага трывання, напрыклад: старатіся, сіяті, говорыті, ходіті, божытіся і інш. Пры гэтым варта заўважыць, што ў некаторых частках гэтыя канчаткі вымаўляюць цвёрда, сіяты, говорыты, ходыты, божытыся, умыватыся, просытыся, начынаты і інш.

З іншых асаблівасцей вымаўлення галосных і зычных гукаў варта адзначыць наступныя: „а" вельмі часта вымаўляецца як „о", асабліва, калі яно пачатковае: Ондрэй, Олексій, Оксэнтій, Олэксандра, Ортэмій, Онтоній і г.д.; „е" часам вымаўляецца як „о": — чоловік, Омэлян, Остапій, чому, для чого, часам як „іо": — іому, сіому, ніому; „о" вымаўляецца асабліва ў сярэдзіне слоў з нейкім прыдаткам у кароткага „ў": вўоз, вўол, нўож, рўог, пірўог, кўонь; „ь" (неіснуючая ў наш час літара „яць" заўвага мая — М.Л.) як „і": Олексій, замест Алексьй, чоловік — чоловьк, цілый — цьлый, болізнь — бользнь, рыка — рька, рычка — рьчка, ліс — льс, вік — вьк, жэлізо — жельезо ад гэтага творны склон у адзіночным ліку слоў, якія заканчваюцца на -ка, -га, амаль заўсёды заканчваецца на „і", а гукі „к" і „г" адпаведна мяняюцца на „ц" і „з": на руці, на рыці, у коробці, на порозі, на дорозі, на нозі.

З зычных гукаў зменам падвергнуты „л", „ф", і „о" (апошні зараз не ўжываецца — заўвага мая — М.Л.). „Л" асабліва ў канчатках дзеясловаў мінулага часу замяняецца гукам „в": — ходів, сіяв, бів, мовів, купів, назначыв, продав і інш.; „ф" на „х" і „п": — Хілімон,хранцуз, хорта, Піліп, Онупрый і „о" (фіта) на „т": — Тэкля, Тодар, Томаш.

Канчаткі слоў у некаторых склонах больш, або менш змяняюцца згодна з асаблівасцямі польскай мовы як напрыклад, назоўнікі ў давальным склоне адзіночнага ліку канчаюцца на -ові і -ёві: сосідові, волові, Ондрэіові, Олэксандрові, коневі, дегтеві і ў родным склоне множнага ліку на -ўов: сусідўов, коніўов, волўов, братўов. У зваротах таксама пры іх зблiжанасці да рускай мовы можна лёгка заўважыць паланізмы; напр.: вон ажэнівся з такою то дівчыною; прышов по воду, пошов до цэркві і інш.

Простанародная мова заключае ў сабе некаторыя словы агульнавядомыя, але з асаблівым значэннем, напр: „чуты" азначае ўласна слых, „злодій", „не дожджэм", „купіты", „твар", „тётка" у значэнні трасца. Нярэдка можна сустрэць такое слова, якое толькі тут і сустракаецца, напр.: „лоны", „пазалоны", „кемлю", „нэ кемлю", „бачыты", „авжэш" (так), „хучэй", „годытыся", „уеднатыся" (таргавацца, дамовіцца на службу), „вэртэль" (сажань дроў), „корэц" — 40 гарнцаў казённай меры, „чвіртка" (1/4 карца), „повчвірток" (1/2 чверткі) „тройный", або „троевый гарнец" (1/3 чвірткі), „чэтверный гарнец" (1/4 чвірткі), „мыто" (плата), „лягма" (час адыходзіць спаць), „вон пришоў у самае лягма", „ке (і), „хусты" (бялізна) і г.д.

Мова „Мазуроў" польская, з той толькі розніцай, што некаторыя гукі як „ч" (cz) і „ж" (ż) вымаўляюцца мягка, а менавіта „ч" як „ц" (c) і „ж" як „з" (z): „Cłowiek", „a zeby ciebie", „zaba" і інш.

Як бачым, пры апісанні мовы ёсць шэраг трапных і цікавых назіранняў, якія даюць даволі яснае ўяўленне аб гаворцы жыхароў Бельскага павету. Выдаецца, што яго простая характарыстыка мовы больш даходліва чым спецыялістычныя вывады.

### III Дамашні быт

Гэта найбольш шырокі раздзел у апісанні. Складаецца ён з 7 параграфаў, якія адпавядаюць падзелу ў анкеце ІРГО. Першы параграф ахоплівае пасяленні, жылыя і гаспадарчыя будынкі, інтэр'ер, хатняе абсталяванне і начынні ды прылады працы. У другім — апісваецца адзенне, абутак, галоўныя ўборы і прычоскі. Трэці прадстаўляе ежу. Чацвёрты знаёміць нас з некаторымі абрадамі і звычаямі, лячэннем людзей і свойскай жывёлы. Пяты прысвечаны заняткам насельніцтва, у тым некаторым промыслам і рамёствам. У шостым прадстаўлены народныя ўвесяленні і дзіцячыя гульні. У апошнім сёмым разглядаюцца сродкі ўтрымання і іх здабыванне.

Разглядаем іх больш падрабязна. Просты народ жыве ў сёлах і вёсках. Жыллё звычайна называецца хатамі. Хата складаецца з сяней, жылога памяшкання, „каморы" для складання розных харчавых запасаў, а таксама адзення, невялікага халоднага пакойчыка „прысценка", у якім найчасцей трымалі на зіму варыва, як напр.: капусту, буракі і інш. Побач з самаю хатаю пад адным жа дахам заўсёды будуецца адзін або два невялікія хлявы для гусей, свіней ці авечак. Кожны аседлы гаспадар, недалёка ад хаты, мае „гумно", якое складаецца з „клуні", двух або больш хлявоў для рагатай жывёлы і коней. У залежнасці ад магчымасці і заможнасці гаспадара гэтыя будынкі бываюць часамі, у некаторых і ў большай колькасці, але ўпамянутыя пабудовы, у крайнім выпадку, складаюць неад'емную прыналежнасць у гаспадарцы кожнага „просталюдзіна". Апрача таго амаль кожны гаспадар мае свіронак для захоўвання збожа званы „шпіхер", у якім ёсць 6-8 „засекаў", куды ссыпаюць асобна кожны від збожжа. Усе гэтыя будынкі драўляныя.

Абсталяванне хаты вельмі простае і прыстасавана выключна да неабходных патрэб селяніна. У жылым пакоі, апрача вялікай печы пастаўленай ля самага ўваходу з сяней з правага боку, у якой сяляне гатуюць штодзённую ежу і пякуць хлеб; невялікага „коміна", які абсталёўваецца асобна насупраць печы з левага боку ля самага ўваходу, дзе часам гатуюць ежу, а ў асноўным разводзяць зімой агонь для асвятлення пакоя вечарам, лаваў каля двух сцен; палацей абсталяваных ля трэцяй сцяны, дзе спяць гаспадары; „прыпечка" ля печы і стала — больш нічога няма.

На сцяне ў жылым пакоі насупраць самага ўваходу, пры якой звычайна стаіць стол з загорнутым у „обрус" хлебам, вешаюць абразы. У гэтай сцяне звычайна робіцца ўваход у прысценак; уваход у камору робіцца з сяней па правую руку, а ў жылое памяшканне, у якім бывае заўсёды тры невялікія ваконцы, па левую.

У ліку гаспадарчых прылад і абсталявання „жорна", хлебная „діжка", „ступа", „цэбэр", „вэдро", „шкопок", „сокіра", „сэрп", „коса", „соха", „сошнікі", „борона", „ярмо", звычайны воз, невялікая брычка на аднаго каня — „каляска", конская вупраж, якую складае „хомут", „дуга", „обротька", „лейцы", часам „набэдрык", „седэльцэ", „сідло" — якое між іншым рэдка ў каго можна знайсці. Пры аранні раллі селянін ужывае саху, у якой дышаль, за які валы цягнуць саху званы „вуйе", „закрой", „поліца" і „плаха", да якой прымацоўваюць „сошнікі"; вяроўка, што счапляюць валоў за рогі, канец якой араты трымае ў руках, называецца „наруожнік".

У месцах, якія знаходзяцца паблізу рэк просты люд займаецца лоўляй рыбы, сеці называе невадам; ужываецца таксама „кломля", „жак" з сеткі, які нагадвае конусападобны мяшок з двума крыламі, якім пры невялікай адлегласці паміж берагамі загароджваюць раку не даючы магчымасці ўцячы рыбе калі лоўяць не кломляю, яна нярэдка пападае і ў сам жак.

Верхняе летняе мужчынскае і жанчынае адзенне вельмі падобнае. Яно звычайна шыецца з шэрага, часам чорнага тоўстага сукна і называецца „жупіца", або „сермяга", якую апранаюць і ў зімовы час з тым, што для цяп-



**Сёння гэта ўжо перажытак.** **Фота: архіў.**

ла селянін апранае пад яе кажух з авечых аўчын. Пакрой жупіцы, або сярмягі і кажуха амаль аднолькавы і мужчын і жанчын, розніца толькі ў тым, што ў жаночых жупіцах каля каўнера на грудзях робіцца невялікая выразка. У апісанні не ўпамянута карот-кае верхняе адзенне „світка“ і „ворэчэк“. Паводле інфармацыі гэта амаль адно і тое ж, аднак можна меркаваць, што світка была суконная а „ворэчэк“ парцяны і больш адпавядаў пазнейшаму пiджаку.

Да іншых прыналежнасцяў простанароднага адзення адноніцца ў мужчын шапка, звычайна суконная — чорная або сіняя чатырох або шасцікутная — у версе шырокая з чорным або сівым аколышкам з аўчыны. Таксама носяць шапкі „капузы“ з цэлых аўчын, якія бываюць высокія, круглыя, накшталт клабука з аксамітным або суконным верхнім дном. Яны бываюць чорныя або сінія. Капузы найбольш ужываецца каля Бельска, Драгічына, Бранска, Нарвы і Цеханоўца, у іншых жа частках ходзяць у іх толькі старыя людзі. Нягледзячы на тое, што ўжо ў сярэдзіне XIX ст. у капузах хадзілі толькі старыя людзі, гэты галаўны ўбор захаваўся ў першых дзесяцігоддзях XX ст. Гэтыя шапкі носяць зімой і летам. Летам таксама ўжываюць саламяныя „капялюшы“, якія ў большасці маюць форму капялюшоў рускіх фурманаў. Толькі паблізу гарадоў гэтага павета можна заўважыць у капялюшах невялікае адрозненне — капялюш у версе ніколі не бывае шырэй аб'ёму галавы і ён з шырэйшымі палямі.

Мужчыны ходзяць у кашулях, якія называюцца „сорочкамі“, штанах — „ноговіцы“: летам палатняных, зімою суконных — „суконкі“ шэрых або чорных; „чоботах“ з доўгімі да кален халявамі; „поясе з клямраю“ з аленяй скуры.

Да жаночага адзення адносяцца: „хустка“, якую завязваюць у розных частках павету па рознаму; „чэпец“ з паркалю — неабходны ўбор замужняй жанчыны. ці ўдавы; „пацёркі“ на шыю, да якіх прывязваюцца рознакаляровыя ўстужкі — „куснікі“; спадніца — зімою суконная „саян“, летам палатняная „портяк“; „чаравікі“ і „пончохі“ — зімою з белай воўны, летам парцяныя.

Як у мужчын, так і жанчын для зашпільвання сорочкі“ звычайна ўжываецца гузік з каляровага шкла падробленага пад бронзу „шпонка“. Падгароднія жыхары і „Мазуры“ па свойму верхняму адзенню зусім адрозніваюцца ад сялян іншых частак. гэтага павету. Яны звычайна носяць род доўгаполых сурдутаў з шэрага, чорнага або сіняга сукна, абшытых белай або іншага колеру тасьмаю, якія называюць „капота з потшэбамі“. Так званыя „потшэбы“ — гэта прадаўгаватыя гузікі, да якіх прышываюцца для зашпільвання тасьмы. Такім чынам капота заўсёды зашпільваецца накшталт гусарскіх сурдутаў. У некаторых аколіцах, а менавіта каля г. Бельска, доўгаполыя „капоты“ носяць з невялікім капішонам — „каптур“, які ў час непагадзі надзяюць на галаву.

Варта адзначыць, што толькі дзяўчаты носяць валасы сплеценыя ў адну касу апушчаную на плечы, у канцы якой уплятаецца каляровая ўстужка „куснікі. Замужнія жанчыны і ўдовы сваіх валос ніколі не запля-

таюць, а ўкладваюць іх вакол галавы, якую пакрываюць чапцом. Трэба дадаць, што дзяўчатам, якія паводзяць сябе непрыстойна, асабліва тым, якія прыдбалі дзіця, сяляне забараняюць насіць косы.

Мужчыны гэтага павету носяць валасы падобна як сяляне ў Вялікарускіх губернях, з той толькі розніцай, што не раздзяляюць іх праборам па сярэдзіне галавы, падстрыгаючы на ілбе над самымі брывамі.

У падгародніх жыхароў і „Мазураў" валасы мужчыны стрыгуць коратка; жанчыны — як і дзяўчаты, так і замужнія — сплятаюць у косы, першыя носяць іх на плячах у т.зв. „варкоч", або ўкладваюць на галаве ў выглядзе карзінкі, або ў „кошык", апошнія ўкладваюць на галаве таксама ў „кошык", але прыкрываюць іх „чыпком".

У адносінах да ежы „просталюдзіны" мала разнастайныя і разборлівы. Палявыя хлебныя і гароднія коранеплодавыя расліны складваюць у большай частцы штодзённую і заўсёдную ежу. З хлебных раслін нарыхтоўваюць кашу: ячную, грэчаную, прасяную і інш., а таксама „куліш" прыгатаваны з дадаткам бульбы: з пшаніцы — „піруог", зацірку — палюшкі; з гародніны вараць: з буракоў „боршч", кіслую капусту — „капуста"; з морквы і бручкі пахлёбку — „брушка"; бульбу ядзяць цэлую, часам робяць кашу званую „товканіцою". У штодзённым быце, за выключэннем святочных дзён, рэдка і амаль ніколі не ядзяць мяса, а сваю ежу ў скаромныя дні закрашваюць свіным салам, якая ад гэтага бывае смачная і спажыўная. У посныя дні, ежу запраўляюць алеем нарыхтаваным пераважна з ільну і канапель.

Найчасцей штодзённую і заўсёдную ежу складаюць: „капуста", „боршч", „куліш" з бульбаю", „горох", „сачавіца", „боб" і якая-небудзь каша. У святочныя дні або пры якіх-небудзь нагодах, што даюць прычыну для лепшага пачастунку, нярэдка можна сустрэцца з некаторай роскашшу на стале: смажаныя з салам або мясам яйкі; мясныя стравы з гусей, качак, курэй, авечак і ялавічыны. Такая прымітыўная і мала разнастайная ежа дайшла да першых пасляваенных год. Традыцыя адыгрывае важную ролю ў харчаванні да нашага часу.

Сяляне ўжываюць гарэлку чыстую, а часам, асабліва ва ўрачыстых выпадках рыхтуюць з гарэлкі пераваранай з мёдам з сумессю некаторых прыправаў род варапухі — „крупнік".

Здзіўляе сцверджанне апісальніка, што пры нараджэнні і хрышчэнні асаблівых абрадаў няма. Паводле яго гаспадары абмяжоўваюцца толькі лепшым пачастункам сваіх родзічаў і суседзяў запрошаных з гэтай нагоды. Запрошаныя складаюць віншаванні і выказваюць пажаданні, каб нованароджанае дзіця расло на радасць бацькам і было іх падпораю ў старасці. Вядома, што радзінныя звычаі і абрады на апісваемай тэрыторыі даволі развіты і багаты.

Уступленне ва ўзмужленасць таксама не адзначаецца ніякімі абрадамі і звычаямі. Тады, калі юнак дасягне сталасці, бацькі пачынаюць клапаціцца аб тым, каб „мужэваті сына". Ужо ад сватання, якое называецца „дівоснубы" і ў час вяселля ёсць шэраг звычаяў і абрадаў. [2])

Пры пахаванні і памінках, як сцвярджае апісальнік, сяляне абмяжоўваюцца толькі запрашэннем сваіх сваякоў і суседзяў перад усім у царкву, дзе слухаюць літургію і паніхіду, а пасля дамоў да абедзеннага стала, які адрозніваецца ад іншых пачастункаў тым, што ў ліку разнастайных страў ёсць каша з цэлых ягляных круп — куця.

Памінкі называюцца хаўтуры. Пры агульных памінках усіх памёршых праваслаўных хрысціян, што праводзяцца царквою некалькі разоў у год, званых „помінальны суботы", сяляне рыхтуюць падобныя, як на хаўтуры абедзенныя сталы, на якія асабліва запрашаюць жабракоў.

Напярэдадні Каляд і Вадохрышча таксама сяляне рыхтуюць абедзенныя сталы, якіх галоўнай прынадлежнасцю з'яўляецца „кутя" з сытою і кісель, у першым выпадку, а ў другім толькі „кутя". Абед ядзяць вечарам і называюць яго „коляда", у так званых, „Мазураў" — „куця". Зразумела, што разнастайнасць і колькасць страў заўсёды залежыць ад заможнасці гаспадароў.

Варта адзначыць і так званы „жыльнік", які з'яўляецца нічым іншым як звычаем асабліва пашыраным сярод замужніх жанчын і ўдоў. Заключаецца ён у тым, што два апошнія дні перад Вялікаднем, гэта значыць, у пятніцу і ў суботу, яны прытрымліваюцца самага строгага посту. Не ядуць зусім ніякай ежы, нават не п'юць звычайнай вады. Гэта называецца „жыльнікаваць".

Да выпадкаў, якія суправаджаюцца абрадамі і звычаямі можна аднесці дажынкі. Гэта звычайна бывае так: на сваім полі ў канцы апошняга загона, з якога сабралі жыта, найчасцей дзяўчаты ўюць вянок з жыта з дадаткам палявых ці гародніх кветак, найсамперш пакінуўшы ў самым канцы загона крыху незжатага жыта, якое перавязваюць устужкаю каля самых каласоў і прыбіраюць уверсе кветкамі. Гэта называецца „пэрэпеліца". Звычайна гавораць, што ў гэтым месцы зрабілі „пэрэпеліцу". Сяляне прытрымліваюцца гэтага звычаю толькі паводле невядомага і немагчымага імі да тлумачэння падання — выясняе апісальнік.

Пасля нарыхтоўкі вянка работнікі і работніцы з песнямі

вяртаюцца дамоў, дзе чакае іх гаспадар з пачастункам.

Наконт звычак, якіх прытрымліваюцца сяляне пры неўраджаях, падзяжах жывёлы і ў час заразных хвароб, трэба адзначыць, што яны ў гэтых выпадках мала выкарыстоўваюць чалавечыя сродкі, за выключэннем звычайных перасцярог, якія дыктуе здаровы розум. Яны ў такіх выпадках звычайна шукаюць дапамогі і апекі толькі ад Бога.

З гэтай мэтай усе з акрэсленага пасялення ці вёскі ў вызначаны дзень сабіраюцца ў царкве. Пасля адбыцця бажэственнай літургіі і малітваў яны з крэсным ходам, г.зн. з абразамі і харугвямі ў суправаджэнні свяшчэнніка, абыходзяць свае засеяныя палі, дзе кожны гаспадар насупраць свайго надзелу зямлі са сваёй сям'ёй становіцца на калені, а свяшчэннік чытае евангелле над іх галовамі за ўсе іх просьбы. Пасля заканчэння крэснага ходу вакол палёў, ён накіроўваецца ў вёску, дзе перад кожным домам, на пастаўленым з гэтай нагоды стале з хлебам, паўтараецца свяшчэннікам тое ж евангелле.

У канцы крэснага ходу сельскія пастухі зганяюць у адно месца свойскую жывёлу, якую пасля прачытання малітвы аб ясе ахове, свяшчэннік кропіць свянцонай вадою. Пасля гэтага крэсны ход вяртаецца ў царкву, а людзі адтуль ідуць да самага заможнага гаспадара на пачастунак, які рыхтуюць у складчыну. Да гэтага трэба дадаць, што сяляне прытрымліваюцца гэтых звычак не толькі ў час няшчасця і непаводзін, але і ў спрыяльны час. Пры гэтым нельга лічыць, што хваробы, якія паражаюць людзей і свойскую жывёлу астаўляліся сялянамі на волю лёсу без розных лячэбных сродкаў і дапамогі — заўважае апісальнік, але як чалавек адукаваны належна ўмее ацаніць сродкі, якія прымяняюць сяляне. Гэта на яго думку — замест лекарскіх сродкаў, пошукі дапамогі і апекі ў Бога, або бабак ці лячэнне рознымі забабоннымі сродкамі.

Нягледзячы на тое, што ёсць фельчары, якія гатовы заўсёды аказаць дапамогу захварэўшаму чалавеку, сяляне больш за ўсё звяртаюцца за дапамогай да старых людзей, асабліва бабак, якія прыступаюць да лячэння сродкамі, што заснаваны больш на забабонах, чым сапраўднай дзейнасці гэтых сродкаў.

Для прыкладу адзначым спосабы лячэння тых хвароб, якія больш і часцей здараюцца ў сялян. Так трасцу, на простай мове „тётка" лечаць рознымі забабоннымі спосабамі і сродкамі а менавіта:

а) раяць — у бялізне, у якой чалавек захварэў гэтай хваробаю, выйсці на ростанні і там зняўшы яе пакінуць. Мяркуюць, што хвароба ад захварэўшага пяройдзе на таго, хто падняў бялізну;



**Даўней гэтак жылі.** **Фота: Міхася Шаховіча.**

б) вырываюць некалькі пярынак з маладой курыцы, асабліва з той, якая не знясла яшчэ ніводнага яечка і імі абкурваюць захварэўшага чалавека;

в) перавязваюць таксама хворага невялікім пасмам ільну і астаўляюць гэтую перэвязь на ўсю ноч. З наступленнем раніцы выносяць гэтую перэвязь на ростані, асабліва туды, дзе стаіць крыж і прывязваюць да яго;

г) у час трасцы, калі б у хворага да чаго-небудзь паявіўся апетыт, напрыклад, захацелася б яму малака, якое ведаем з вопыту, толькі яшчэ больш абвастрае гэтую хваробу, сяляне ўсімі спосабамі стараюцца задаволіць жаданні хворага і кормяць яго ежай, якую ён захоча да таго часу, пакуль у канцы выклічуць у хворага ваніты, ад чаго здараецца часам трасца пакідае чалавека.

Хваробу, званую „ураз" — парушэнне брушнай сістэмы пры пад'ёме празмернага цяжару, лечаць лясным зеллем, якое не траціць сваёй зелені ў час зімы і часта выкарыс-

тоўваецца для ўпрыгожання паміж падвойнымі вокнамі зімой, званым „уразнік“, які заварыўшы даюць піць хвораму.

Залатуху і розныя высыпкі лечаць свянцоным зеллем з гародніх і палявых кветак, якія звычайна свенцяць у дзень аб'яднання уніятаў з праваслаўнай царквою, або ў католікаў у дзень Божага Цела. У простанароддзі гэты дзень называецца „зэленэць“.

Некаторыя з сялян, свянцонае на зелянец зелле заварваюць і гэтай вадою абмываюць хворага, пасля чаго ваду, якая засталася, выліваюць кудынебудзь на дарогу, мяркуючы, што на таго, хто першы пяройдзе праз тое месца, куды вылілі ваду, пяройдзе і хвароба.

Панос, і нават крывавы, званы „бегунка“ лечаць гарэлкаю з перцам, або сушанымі чарніцамі, з якіх нарыхтоўваюць адвар і даюць піць хвораму.

Калі б здарылася каму захварэць курынаю слепатою — „курачэю сліпотою“, то рэжуць чорную курку, з якой вынятую „вонтробу“ пякуць і змазаўшы ёю вочы, даюць хвораму з'есці, асабліва нашча.

Некаторыя вераць у шкодныя вочы. Мяркуюць, што ад сустрэчы з людзьмі, якія маюць шкодныя вочы, асабліва, калі бываюць з імі ў кепскіх адносінах, можа чалавек захварэць. З мэтай засцярогі ад гэтага носяць часнык і соль на грудзях завязаных у шматку або кашулю.

Ёсць многа падобных лячэбных сродкаў, якімі карыстаюцца часамі сяляне ў час хваробы, але варта дадаць, што яны заснаваны больш на забабонах і часткова на сімпатыі, чым сапраўднай карысці ад іх.

Што датычыць лячэння свойскай жывёлы, трэба сказаць, што яно рэдка і амаль ніколі не праводзіцца за пасрэдніцтвам замоў; здараецца часам, што замовамі лечаць толькі ў выпадку, калі б у якой-небудзь жывёлы завяліся „рабакі“, але і гэтае бывае вельмі нячаста, таму што людзі якія ведаюць замовы ад іх, рэдка сустракаюцца.

Варта адзначыць, што тыя, хто ведае замовы; не хочуць здрадзіць вядомыя ім сімвалічныя словы, якія складаюць сутнасць замовы, спасылаючыся на тое, што разам з перадачаю слоў замовы, яна траціць сваю моц. Толькі перад смерцю можна яе перадаць каму-небудзь з родзічаў ці сяброў. Па сутнасці замоў не здраджваюць для ўласнай карысці. Па гэтай прычыне тады і зараз замоў нельга запісаць.

Замаўлянне рабакоў за пасрэдніцтвам заклінання крапівы некаторыя праводзяць наступным спосабам: выбіраюць дзе-небудзь куст крапівы, які завязваюць ніткаю або ўстужкаю і пагражаюць яму, што калі рабакі на акрэсленым валу, карове ці свінні не прападуць, то ён будзе знішчаны, напрыклад:

— чуеш кропіво, се нэ выпадут робакі із чырвоного вола, то я тобі голову здойму.

У выпадку, калі б свойская жывёла захварэла, то перш, у большасці выпадкаў, абкурваюць свянцоным зеллем, часам пускаюць ёй кроў, што завецца „справляють“.

Калі ж жывёла захварэе часоткаю — „хростою“, то некаторыя вылечваюць яе адварам з львінай лапкі, божага дрэва і падарожніка, якім змываюць жывёлу да часу выздараўлення.

У лячэнні жывёлы сяляне малаdвопытныя. Яны зараз больш і часцей звяртаюцца да сродкаў запісаных ветэрынарамі Дзяржаўных Маёмасцяў.

Галоўным і любімым заняткам сялян з'яўляецца хлебаробства і агародніцтва, якія з'яўляюцца адзіным сродкамі і крыніцамі падтрымання жыцця. У некаторых частках павету, асабліва каля гарадоў: Бельска, Драгічына, Нарвы апрача хлебаробства некаторыя вёскі займаюцца вырабам палатна, палаценка, тоўстага сукна і называюцца „ткачы“, нарыхтоўкай алею і плотніцтвам. Свае рукадзеллі збываюць унутры свайго або ў суседніх паветах.

Для вырабу палатна, палаценка і сукна выкарыстоўваюць станок — „кросьна“, прыналежнасці якіх складаюць: задні вал, на які навіваецца основа — „воротіло“; „нічаніца“ дзве, праз якія працягваюць ніці асновы; „бэрдо“, для прыбівання ніцей утку ў час ткання; „набілкі“, у якіх замацавана берда з двума ручкамі; „чэвнік“ з „цівкаю“ з бэзу, на якую наматваюць ніткі; „поножэ“ для прывядзення нічаніц да дзеяння пры дапамозе ног; „ключкі“, на якія ўвязваюцца нічаніцы і „запірня“, якая служыць для ўтрымання варацілаў.

Для вырабу „олею“ з льнянага або канаплянага семяя, няма асаблівых інструментаў. Алей выраблююць наступным чынам: — бяруць адпаведную мерку льнянага ці канаплянага семені, сушаць у печы, таўкуць у ступах, пасля чаго пражаць на вялікай скаварадзе, або ў якім-небудзь медзяным або чыгунным посудзе; затым запарыўшы добра кіпятком сыплюць у мяшок ( у адным месцах суконны, у іншых палатняны), які кладуць у прэс, які называюць „клешчы“. Ад забівання драўляных клінкоў мяшок з семям сціскаецца і з яго выцякае алей, які ідзе на продаж, або для ўласнага ўжытку.

Найбольш вядомыя з вырабу палатна вёскі: Малінава, Верпяхі, Фалькова, Вышкі, Невіно-Боровэ і Сасіны; з вырабу алею: Парцава, Аўгустова і Макаўка. У некаторых вёсках, як напрыклад, у Арэшкаве і Лядах пераважна займаюцца вырабам добрых калёс; у Кузаве, Гукавічах і Целяцічах[5] — драўляных лыжак.



**Драўляныя дзверы ў жылой хаце ў Кленіках, гміна Чыжы.**
**Фота: Міхася Шаховіча.**

Пры гэтых жа занятках найбольш увагі сяляне звяртаюць на хлебаробства, а карысць ад іх ёсць дапаможным сродкам для паляпшэння хатняга быту і займаюцца імі ў час вольны ад палявых прац.

Да народных увесяленняў можна аднесці: „вэчэркі", якія бываюць у час святак ад Каляд да Вадохрышча ўключна; яны заключаюцца ў тым, што маладыя мужчыны і дзяўчаты сабраўшыся ў хаце якоганебудзь гаспадара пяюць калядныя песні і апавядаюць казкі — „байкі"; на вячорках не бывае ніякіх асаблівых пачастункаў і „огулькі" ў час светлай сяміцы — Вялікадня. „Огулькі" звычайна адбываюцца ў карчме і там жа пяюць розныя вясёлыя песні, танцуюць і паводле магчымасці частуюцца, а часам на вуліцы, дзе толькі песні пяюць.

З простанародных танцаў вядомы толькі: „танец", „валец", якія падобны да сябе з той толькі розніцай, што ў „вальцы" крыху падскакваюць, а ў „танцы" круцяцца парамі вакол, без падскокван-ня і „козак" тое ж, што рускі „бычок".

Да дзіцячых гульняў адносяцца: „слепая баба", якая заключаецца ў тым, што аднаму якому-небудзь хлопчыку завязваюць хусткай вочы і ён павінен злавіць усіх іншых, якія гуляюць па пяць разоў, пасля чаго завязваюць вочы наступнаму. „Бабка", у якую гуляюць так: у акрэсленым месцы ўбіваюць палку, на якую вешаюць шапку і на павешаную шапку кладуць яшчэ другую і пасля па чарзе пераскокваюць так, каб не скінуць шапак. Калі які-небудзь хлопчык скіне шапку, яго ўсе караюць па аднаму ўдару, што называецца „кроз-трой" — скажоныя рускія словы „сквозь строй". „Проковэць" (пярсцёнак), гэта гульня заключаецца ў тым, што хлопчыкі ўсеўшыся колам бяруць „праковэць", які адзін з іх аддаўшы іншаму ўдзельніку гульні выклікае каго-небудзь і прапануе яму адгадваць у каго ён у руках; калі ж той не адгадвае, то з шукаючага насміхаюцца: — „корэць половы з'ів" і назначаюць яму якое-небудзь нязначнае пакаранне, а калі адгадае, то павінен ужо выступіць для адшукання той, у каго пярсцёнак выяўлены. „Купец" — пры гэтай гульні ўбіваюць у зямлю пугаўё з пугай і хлопчыкі накладваюць каля яго многа розных рэчаў, напрыклад: шапак, паясоў, жупіц і інш.; за самую пугу трымаецца адзін з хлопчыкаў, які называецца купцом і ахоўвае пакладзеныя рэчы, а іншыя стараюцца іх выкрасці. Няўдачнікаў купец б'е рукою або нагою, так, як атрымаецца. Калі ж усе паложаныя каля пугаўя рэчы будуць расхоплены, то купца ганяюць „кроз-трой".

Паказаныя тут гульні найбольш папулярны, але пры гэтым ёсць яшчэ і іншыя, якія не адрозніваюцца ніякімі асаблівасцямі вартымі адзначэння.

Усе сродкі для жыцця на аплату падаткаў і розных павіннасцяў сяляне атрымоўваюць з земляробства, агародніцтва а таксама некаторых упамянутых вышэй рукадзельных промыслаў. Звычайна селянін вылічыўшы колькі з сабраных ім хлебных прыпасаў трэба для ўтрымання сябе і сваёй сям'і на працягу года аж да новага ўраджаю, рэшту збожжа прадае ў самых блізкіх гарадах і мястэчках.

Калі б сабраная ім колькасць збожжа аказалася ледзь дастатковай для пракармлення сям'і, то грашовыя сродкі неабходныя на аплату падаткаў, соль, абутак, жалеза і інш. выручаюцца ім з продажы свойскай жывёлы: валоў, свіней, авечак, а таксама гусей, якіх трымаюць сяляне ў значнай колькасці і іншага, што аказваецца менш патрэбным у гаспадарцы. Пры гэтым варта адзначыць, што селяніну патрэбныя грошы на плату падаткаў і розных па-

віннасцяў, што прыкладна складае 20-25 рублёў срэбрам на сям'ю, таму што адзенне найбольш вырабляюць самі. Палатно, сукно, заўсёды тчэ амаль кожная гаспадыня. На жалеза, соль, абутак, дзёгаць і віно, што сяляне купляюць за грошы, выходзіць значна менш і станоўча можна сцвердзіць, што на пакрыццё ўсіх патрэб з падаткамі, уключаючы сюды і святочныя пачастункі, селяніну заўсёды спатрэбіцца 35-40 рублёў срэбрам.

У выпадку, калі з продажы грашовыя сродкі акажуцца недастатковымі, то яны папаўняюцца з заробкаў, як, напрыклад, з найму на работу да іншага гаспадара больш заможнага, або патрабуючага рабочых рук, а таксама перавозу якога-небудзь цяжару, толькі ў межах сваёй губерні і іншых работ, якія пападуць пад руку.

Пры гэтым апісальнік адзначае, што сяляне не толькі гэтага, але і суседніх паветаў знаходзяцца ў значна горшым становішчы чым 15 год раней. Перш з кожным годам гаспадаркі ў вёсках павялічваліся і прыходзілі ў лепшы стан, а зараз год ад году бяднеюць і там, дзе раней гаспадар пасля пакрыцця сваіх патрэб і дзяржаўных павіннасцяў мог яшчэ і сабе што-небудзь пакінуць, цяпер ледзь можа пакрыць самыя неабходныя патрэбы і то з вялікімі цяжкасцямі.

Прычынай гэтага, можна меркаваць, — сцвярджае апісальнік, — з'яўляюцца часткова неўраджаі і малапрадукцыйнасць жыхароў, а часткова і тое, што больш знайшлося патрабуючых, а менш сродкаў для іх задавальнення. Ад таго некаторыя нярэдка пакідаюць свае палі, дамы і нават сем'і і наймаюцца ў работнікі або падзёншчыкі. Вядома, у той час прымянялася экстэнсіўнае земляробства трохпольнай сістэмы, пры дапамозе прымітыўных прылад.

## IV. Асаблівасці грамадскага быту

У Бельскім павеце найбольш казённых сялян, якія да ўвядзення сельскіх управ знаходзіліся пад упраўленнем чатырох амптаў: Бельскага, Бранскага, Сталавацкага і Клейніцкага, у якіх вырашаліся ўсе іх справы, за выключэннем падсудных.

Службовыя асобы ампта гэта: обер-амптман — галоўны начальнік ампта; актыарыюс, на руках якога захоўваліся ўсе справы і падатковыя роспісі, які таксама выконваў функцыю пісьмавода; ключвойт, які раўняўся ўладай пяцісоцкаму; вахмістр, які збіраў і выпатрабоўваў усе падаткі і павіннасці, соцкія і дзесятнікі па вёсках.

З увядзеннем сельскіх упраў, агульныя грамадскія справы рашаюцца іх членамі пад старшынствам старшыні і збіраюцца імі ўсе дзяржаўныя падаткі і павіннасці згодна са статутам выданым Міністэрствам дзяржаўных маёмасцяў.

Прыгоннымі сялянамі кіруе Дваровая ўправа, якая складаецца з памешчыка, яго ўпраўляючага, або інакш эканома і некалькі войтаў, выбраных з прыгонных сялян.

Закранаючы праступкі, трэба адзначыць, што сярод сялян, апрача дробных пакраж, якія часткова праявіліся ў цяперашні час з прычыны неўраджаяў больш важкіх няма, — сцвярджае апісальнік. Гэта лічыцца вялікім праступкам, таму што ўлічаны ў пакражы, незалежна ад таго, што траціць агульную павагу і голас на грамадскіх сходах, публічна ў прыклад іншым караецца, а менавіта: украдзеныя рэчы вешаюць на віннага і ў такім выглядзе водзяць яго па ўсёй вёсцы, караецца ён цялесна ў канцах і сярэдзіне вёскі, асабліва на мастах (цікава менавіта тое, што на мастах — заўвага мая М.Л.).

Здараецца, што ўлічанага ў пакражы, у такім выглядзе часам прыводзяць у святочныя дні ці ў нядзелю ў царкву, такім чынам стараюцца на яго ўздзейнічаць сорамам. Гэтыя меры прымяняюцца толькі ад грамады, гэта значыць — поўнага сходу гаспадароў акрэсленай вёскі і называюцца дамашнікі, таму што не даводзяцца да ведама сельскай управы.

У сямейных адносінах і быце не заўважаюцца якія-небудзь асаблівасці. Бацькі ў кожным выпадку карыстаюцца заўсёды належнай і вялікай павагай іншых членаў сям'і, ім жа прадстаўляецца ўсялякае безумоўнае распараджэнне ў гаспадарцы.

## V. Разумовыя здольнасці, маральныя асаблівасці і адукацыя

Адносна характэрных рыс і маральных асаблівасцяў жыхароў, можна з вялікай верагоднасцю сказаць, што народ тут куды больш ветлівы, услужлівы, растаропны, чалавекалюбівы і дабрэйшы, чым жыхары некаторых суседніх паветаў, якія жывуць у Віленскай губерні, і ў гэтых адносінах ён здабыў сабе ў суседзяў славу добрага, больш адукаванага і культурнага. Асабліва ад увядзення Сельскіх прыхадскіх вучылішчаў адукаванасць сярод сялян значна пашыраецца і ў кожнай вёсцы зараз можна прыкладна налічыць 10-20 адукаваных мужчын. Жанчын з адукацыяй амаль няма. Жаночаму майстэрству і рукадзеллю, якое неабходнае толькі ў дамашнім быце, вучацца дома ў сваіх маці(ц)рэй.

Сярод так званых „Мазураў" адукацыя яшчэ больш пашырана і там можна знайсці многа адукаваных жанчын. „Мазуры" значна больш адукаваны і больш можна заўважыць у іх паліроўкі, чым у простага селяніна. Ад



© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

таго заселеныя імі аколіцы, у большай частцы называюцца шляхта, сярод якіх больш за ўсё аднадворцаў і ў адносінах адукаванасці з'яўляюцца яны як бы пераходным звяном ад дваранства да ніжэйшага класу людзей, гэта значыць, сялян.

### VI. Народныя паданні і помнікі

Помнікаў і асаблівых успамінаў старыны ў павеце і сярод сялян не існуе. Ад таго гэта ў песнях і казках нельга заўважыць нічога гістарычнага, што б адносілася бліжэй да гэтага павету. Таксама ў народных песнях і казках (байках), нельга заўважыць асаблівай замысловатасці і вынаходлівасці, а галоўныя рысы іх складае прастата, уласцівая ніжэйшаму класу людзей.

Новых песень і казак няма, а тыя, якія пяюць і расказваюць просталюдзіны, завучыўшы на вуснай перадачы ад сваіх прадзедаў крыху скажоны, асабліва песні церпяць ад няправільнага стопаскладу і рыфмы. У заключэнні апісання прадстаўлены фальклорны матэрыял і некалькі замалёвак.

Апісанне з'яўляецца каштоўнай крыніцай ведаў аб тагачасных рэаліях. Калі ўлічыць з усімі падрабязнасцямі стан этнаграфічнай навукі ў час складання апісання, якая на тым этапе, гаворачы вобразна, была яшчэ ў пялёнках, зразумеем веліч працы звычайнага свяшчэнніка Келясціна Брэна.

Доследы праведзеныя мною, якія адносяцца да пачатку XX стагоддзя. Многае прадстаўленае ў апісанні працягвала сваё бытаванне і ў міжваенны перыяд, водгукі ў некаторых выпадках дайшла да нашага часу. У вёсках былога Бельскага павету яшчэ і сёння сустракаем жылыя дамы і гаспадарчыя пабудовы як быццам бы выняты з апісання Келясціна Брэна.

Да пачатку XX стагоддзя хаты будавалі пераважна з колатых дылёў, якія цясалі „тэсакамі". У пачатку XX стагоддзя пачалі дрэва пілаваць падоўжнымі піламі. Хаты былі нізкія каля 2,5 метраў вышыні. Падрубы клаліся на каменнях. Добрая хата лічылася, калі яе шырыня была каля 4 метраў, шырэйшых чым 5 метраў хат не было.

З цягам часу паяўлялася ўскладнёная планіроўка жылля, выдзяляўся яшчэ т.зв. чысты пакой. Печы былі глінабітныя, каміны ў хаце выпляталіся з пруццяў і абмазваліся глінай, на гарышчы выпляталі іх з саломы сплеценай у выглядзе касы і таксама ўнутры і звонку абмазвалі глінай. Такія каміны некалькі год таму яшчэ зрэдку сустракаліся. Праўдападобна ў час паўстання апісання маглі быць курныя хаты, аб якіх у ім зусім не ўпамінаецца.

Так званы „прыстенок", які служыў для пераховування варыва, быў прыстасаваны як хлеў для каня. Гэта было выклікана масавым крадзяжом коней. Вонкавыя дзверы ў прысценак запіралі адмысловымі „заволокамі" з унутранага боку. Найчасцей „прысценак", які стаў выконваць ролю хлява для коней, быў ад вуліцы. У некаторых хатах яго ўжо не было. Коней трымалі ў іншых хлявах і забяспечвалі штабамі, сакрэтнымі замкамі „западэнькамі".

Крадзяжы коней, якіх паставлялі яўрэям, а тыя ж перапрадавалі, былі да такой ступені распаўсюджаныя, што сяляне вымушаны былі прымяняць шматлікія сродкі для іх папярэджання, тым не менш, зладзеі знаходзілі спосабы, каб украсці каня.

Звычайна сяляне трымалі пару валоў і аднаго ці пару коней. Сохамі аралі да I сусветнай вайны. Толькі напярэдадні яе частка гаспадароў пачала прадаваць валы. Недзе каля 1910 года пачалі паяўляцца першыя плугі. Былі яны драўляныя і мелі толькі некаторыя жалезныя часткі, якія выраблялі пераважна кавалі-яўрэі. Зусім перасталі карыстацца сахой пасля вяртання з бежанства. Сахой араць было даволі цяжка. Трэба было яе „дэржаты" ўвесь час на руках. Некаторыя чаплялі ручнік да сахі і закладвалі на шыю „коб нэ пойшла на той свет". Погляды на аранне сахой супрацьлеглыя. Некаторыя сцвярджаюць, што калі саху „справно" зробіць, то яна ідзе „ловко". Саху перавозілі на т.зв. „зволоку", які нагадвае крокву.

Да баранавання ўжывалі плеценую пруццевую барану „на гальвітках". Вядомыя бароннікі жылі ў Рэдутах. Да працы валы павінны былі быць прывучаны. Добрыя валы дасканала разумелі гаспадара. Абавязкова адзін з валоў павінен быць прывучаны і заўсёды рэагаваў на воклічы — „ксо" — у лева і —воць" — на права. Ад гэтага былі валы „ксобныя" і „воцьныя". Для валоў былі асобныя „пасовыя" і там трава была лепшая. Тыя гаспадары, якія аралі каровамі, туды заводзілі таксама сваіх кароў. Цікавай з'явай былі распаўсюджаныя ў вёсках хлебныя магазіны, у якіх можна было пазычыць збожжа, калі каму не хапала вясной.

Верхняе адзенне свае асаблівасці захоўвала даволі доўга, большыя змены кранулі іншыя часткі адзення, якія больш набліжаліся да гарадскога. Галаўныя ўборы таксама захоўвалі свае асаблівасці.

Распаўсюджаны быў абутак „постолы". У больш багатых вёсках хадзілі ў „ходаках", якія рабілі з „лобавай" скуры, якую куплялі ў яўрэяў. Аб жыхарах з Арэшкава гавораць, што калі везлі дровы на продаж, то былі абутыя ў „постолы", а другія, запасныя, віселі на пастронку.

Асаблівых змен у ежы сялян да пасляваеннага перыя-



**Узор колішняга будаўніцтва.** **Фота: архіў.**

ду не было. Куплялі найчасцей толькі сялёдку і нямнога цукру. Больш заможныя сяляне ўтрымоўваліся з земляробства, грашовыя сродкі здабывалі прадаючы збожжа і іншыя сельскагаспадарчыя прадукты. Тыя, у каго менш было на продаж, наймаліся да сезонных прац у лесе, на чыгунцы, да жніва. Жанчыны наймаліся да працы ў яўрэяў (мылі падлогі).

У іншых галінах нязгоднасць з апісаннем па сутнасці не выявілася. Звычаі і абрады ў большай ці меншай ступені вядомыя. Праўдападобна адышлі ў нябыт забабонныя спосабы лячэння людзей і жывёлы. Магчыма, што-небудзь з таго засталося ў астанковых формах, але аб іх жыхары вёсак прамоўчваюць.

Дзіцячыя гульні, пададзеныя ў апісанні, зараз невядомыя.

Выяўлена некаторыя звычаі і абрады, аб якіх у апісанні чамусьці не ўпамінаецца. Да іх можна аднесці: „маслену“, на якую рыхтавалі малочныя прадукты, якія елі цэлы тыдзень. На маслену ездзілі „куліка“. Быў звычай, што ў кутку пад абразамі стаяла бочачка з маслам. Хто калі хацеў, то еў яго. Цікавая роля адведзена сыру ў час „дівоснубаў“, які называецца „возлюбленік“.

Выяўлены таксама некаторыя аграрныя звычаі, аб якіх не згадваецца ў апісанні. І так, вясною бедны не меў права выйсці першы араць, заворваць згодна са звычаем трэба было ісці босым, у доўгім кажусе падпярэзаным поясам. Перад тым, як ісці сеяць, гаспадар павінен быў памыцца і надзець чыстую бялізну. Калі ішлі сеяць, дык глядзелі, каб не было з двух бакоў суседзяў.

Некаторыя, калі не хопіць бульбы каб закончыць пасадку, або і спецыяльна астаўлялі недасаджаны радок, каб дасадзіць тады, калі сусед пасадзіць.

У час засухі шукалі ў каго ёсць пража, калі зноўдуць — палілі.

У першы тыдзень посту, як сцвярджалі інфарматары паводле расказаў людзей, што памяталі паншчыну, „на колесе бабу возілі“.

На провады абліваліся сікаўкамі. У некаторых вёсках вадой аблівалі тых, што дажнуць жыта, або ізноў гаспадыня аблівала вадой гаспадара, які пасеяў збожжа — „хлюсне шклянку вады“. Многія з падобных звычаяў трактуюцца насельніцтвам як забабоны і меркаваць аб ступені іх бытавання даволі цяжка, бо якраз яны старанна і сарамліва скрываюцца.

Загадкавым можа быць тое, што жыхары не ведаюць сабраных Келясцінам Брэнам песень. Апрача 5-6 даволі далёкіх варыянтаў усе песні невядомыя. Выдаецца, што прычынай гэтага можа быць толькі тое, што ў сувязі з шырэйшымі кантактамі, іх замянілі песні перанятыя ад іншых, якія былі больш цікавыя, прывабныя і адпавядаючыя густам насельніцтва. Магчыма, агульнавядомыя і шырока бытуючыя песні апісальнік патрактаваў як нехарактэрныя для Бельскага павету.

Зразумела, ідучы па слядах „Этнаграфічнага апісання Бельскага павету...“ можна было б значна шырэй і глыбей вывучаць быт і культуру насельніцтва, закрануць шэраг пытанняў прапушчаных у ім.

Усебаковае комплекснае вывучэнне традыцыйнай народнай культуры і быту, а таксама змен, якім яна падвяргалася ад часу паўстання рукапісі да сённяшняга дня, патрабуе працяглых даследаў. Аўтару апісання можна б было рабіць закіды, што яго звесткі часта замала сканкрэтызаваныя, няпоўныя і павярхоўныя, часта малавата падрабязнага дэталёвага апісання.

У апраўданне трэба сказаць, што не быў ён спецыялістам у гэтай галіне, лаканічнасць вынікае з праграмы этнаграфічных даследаў. Не-

малаважнае значэнне адыграла і тое, што ён, як чалавек, які дасканала ведаў народны быт, але не займаўся вывучэннем яго, верна перадаваў факты ўпамянутыя ў праграме, а іншым добравядомым не прыдаваў значэння.

Яго заслугай можа быць і тое, што рэдка калі выказвае ўласныя думкі, тлумачэнні і погляды на пэўныя факты і амаль зусім не робіць ніякіх вывадаў, агранічыўшыся да добрасумленнага апісання.

Варта адзначыць, што гэта першая апісальная праца, якая адносіцца да канкрэтнай тэрыторыі. Да нашага часу нельга знайсці ні манаграфічных і больш спецыялістычных прац з гэтай тэрыторыі, у якіх так шырока ахоплівaецца этнаграфічная праблематыка.

„Этнаграфічнае апісанне Бельскага павету...“ Келясціна Брэна з'яўляецца добрай першакрыніцай для этнаграфічнага вывучэння значнай часткі паўднёвай Беласточчыны.

Апрацаваў **Мікола Лобач**

---

[1]) На старонцы разглядаючы хваробы, якія найчасцей сустракаюцца апісальнік упамінае „...у мінулым 1856 г. ...“, што непасрэдна сведчыць аб часе працы над апісаннем.

[2]) У далейшым для большай празрыстасці захаваю арыгінальныя назвы раздзелаў. Апісанне было адказам на анкету і гэта абумовіла яго ўнутраную структуру.

[3]) „Беларускі каляндар“ на 1982., Беласток 1982, стар. 163-174.

[4]) Пры спробе „о порондэк і крыніцу“ гаспадыня за кожным разам падае ручнік і міску з вадой, у якой маршалак мые рукі.

[5]) Мабыць Целяцічы (заўвага мая — М. Л.).

**Антон Міранoвіч**

# Трывалыя страты для культуры

Неадлучным элементам краявіду Беласточчыны з'яўляюцца царквы. Вылучаюцца яны манументальнай пабудовай і жывучасцю традыцыі, якая захоўвае найбольш вартасныя каштоўнасці ўсходняга хрысціянства. Першыя будынкі цэркваў на Падляшшы ўзводзіліся ў пачатку XIII стагоддзя і звязаны яны з старарускай каланізацыяй гэтых зямель. Разам з хрысціянізацыяй рускіх зямель побач з гарадскімі ўмацаваннямі ў Драгічыне, Мельніку, Бельску і Суражы ўзводзіліся царквы. Даследчык Падляшша Аляксандр Ябланоўскі пісаў, „што там жа, дзе толькі збудаваны гарадок ці замак зараз і царква ставілася“.

Культавая архітэктура таго перыяду была цалкам драўляная. Адзіным мураваным помнікам царкоўнай архітэктуры — гэта Каложская царква св. Барыса і Глеба ў Гродне.

Аб развіцці хрысціянства на Падляшшы ў XIII стагоддзі сведчыць паведамленне „Валынскага летапісу“ ад 1260 года аб існаванні развітага культу іконы Спаса ў Мельніку. Культ цудоўнай іконы Спаса ахапіў усё Пабужжа, аб чым сведчаць месцы паломніцтва і пабудаваныя ў яго гонар царквы ў Драгічыне, Грабарцы, Машчоне Панскай, Мельніку, Сямяцічах. Землі „пад Ляхамі“ сталі абшарам, на якім ішла вострая рывалізацыя паміж плямёнамі, а таксама ўсходнім і заходнім хрысціянствам. На гэтай тэрыторыі назіраем этнічнае, палітычнае і культурнае ўзаемапранікненне. Рускія падляшскія гарады з цягам часу станавіліся змешанымі там у нацыянальным, як і рэлігійным сэнсе. Кожная з нацыянальных грамадскасцяў стварала ўласныя культавыя аб'екты: царквы, касцёлы, зборы, сінагогі, часам мячэці. У сувязі са зменай этнічна-культурнага аблічча сённяшніх гарадоў Падляшша штораз больш каштоўнымі з'яўляюцца помнікі, якія сведкаць аб іх мінулым.

На Беласточчыне царквы прадстаўляюць сабой не толькі працяг шматвекавой традыцыі, але ў многіх выпадках



**Ікона святых Пятра і Паўла з XVII ст. Царква ў Сямяцічах.**
**Фота: а. Рыгора Сасны.**



з'яўляюцца непаўторным і жывучым да нашага часу элементам беларускай матэрыяльнай культуры і элементаў беларускага дойлідства ў прыватнасці. Натуральныя знішчальныя сілы ўсемагутнага часу, стыхійныя беды, пажары, войны аказалі значны ўплыў на змяншэнне колькасці цэркваў, або матэрыял з іх скарыстоўвалі праднамерана на іншыя чым іх прызначэнне мэты, пераважна замянялі на касцёлы, або будавалі касцёлы (Беласток, Аўгустаў, Саколка і інш).

Для прыкладу, у час пажару рускай часткі ў Драгічыне 5 чэрвеня 1653 года згарэў манастыр і царква Праабражэння Гасподняга, якія ніколі не былі адбудаваны.

Разам з ліквідацыяй царквоў у многіх мясцовасцях, як Тыкацін, Кнышын, Аўгустаў, Гладышэва, Высокае Мазавецкае адмералі ўсходнеславянскія традыцыі, у іншых, як Сураж, Драгічын, Бранск падвергліся значным абмежаваннем. Гэтая з'ява мае ўплыў на тое, што насуперак гістарычнай традыцыі нацыянальна-рэлігійныя адрозненні згладжваюцца і Беласточчына на той тэрыторыі становіцца ў сэнсе нацыянальна-рэлігійным аднароднай. Вядома, што тэрыторыя ўздзеяння ўсходнеславянскай царквы сягала ў мінулым этнічнай граніцы паміж усходнімі і заходнімі славянамі, адступленне яе азначала асіміляцыю ўсходне-



славянскага насельніцтва і перасоўванне граніцы ўсходнеславянскай нацыянальнасці на ўсход.

Зараз толькі вузкае кола даследчыкаў ведае аб існаванні ў XVI стагоддзі па пяць цэркваў у Суражы, Драгічыне ці Бельску. Наогул невядомай застаецца роля царквы Благавешчання Прасвятой Дзевы Марыі ў Супраслі і яе значэнне для беларускай і польскай культуры. Ці можа

быць інакш, калі ў іншых краінах пішуць на тэму гэтага манастырскага комплексу значна больш чым у Польшчы?

Прынята лічыць, што апека і ахова помнікаў матэрыяльнай культуры даволі незадавальняючая, тым больш недастатковай з'яўляецца ахова помнікаў царкоўнага дойлідства, якое прадстаўляе сабой каштоўныя прыклады беларускай культавай архітэктуры.

Вялікім смуткам напоўнілі нашае грамадства страты ў выніку пажараў двух каштоўных помнікаў — царквы ў Чыжах з XVII стагоддзя і царквы ў Крушынянах з XVIII стагоддзя.

Царква Успення Прасвятой Багародзіцы была збудавана ў канцы XVII стагоддзя на месцы папярэдняй, аб якой ўпамінаецца ў XVI стагоддзі. Яшчэ ў XIX стагоддзі даследчык гэтай тэрыторыі Пятро Пакроўскі ўспамінае аб Каралеўскіх дакументах, якія датычаць чыжоўскай царквы: Генрыка Валезага з 1573 года, Міхала Карыбута Вісьнявецкага з 1670 года, Яна Сабескага з 1676 г., Аўгуста II з 1698 года. Такая колькасць пацвярджэння наданняў царкве ў канцы XVII стагоддзя даволі здзіўляючая. Верагодна, што жыхары Чыжоў хацелі такім чынам атрымаць пацвярджэнне і запэўненне для царквы і духоўных іх маёмасці. Была гэта з'ява даволі папулярная нават тады,



**Драўляны крыж з распяццем Хрыста. Фота: архіў.**

калі правы царквы мець маёмасць не падвяргаліся сумненню. Як вынікае са сказанага вышэй, упамянутая царква была пабудавана перад 1670 годам, аднак дакладная дата яе ўзвядзення невядомая. Захаваліся шматлікія апісанні царквы ў час яе візітацый. Найстарэйшая запіс з 1727 года так прадстаўляе люстраваную тады царкву: „Генеральны візіт чыжоўскай царквы Успення Прасвятой Багародзіцы collatus Яго Каралеўскай Мосці, пры якой застаюцца ad praesens вялебныя айцы Грыгорый Керсноўскі стары і В. А. Лявон Керсноўскі caadjutor чыжоўскія прэзбітары. Царква драўляная, напалову старая. Могільнік мае навокал дбайна абпаркавання. Званніца seperatim мае на браме пад дахам добрым зверху з крыжыкам. На могільніку крыж вялікі з пасіяй. Дах на царкве гонтавы ўжо перастарэлы, купал таксама стары з крыжам вялікім, накрыты бляхай зверху замацаванай.

Галерэя царквы з даху запаўшая. Дзверы ў бабінец, дзверы ў званіцу і форты могільнікавыя на завесах з клямкамі і зашчэпкамі. Пры званніцы куна жалезная. Дзверы ў царкву на слупавых завесах з замкамі вонкавым і вісячым, ля парога фантаны драўляны з вадой свянцонай. Падлогі нідзе ніякай нямашака. Хору таксама няма. Крыласы два з пюпітрамі і з лаўкамі гладкай работы. І разам лавак добрых дзве. Вакол усіх шэсць зробленых. Deisis адзін. Навейшых Апосталаў з Празнічнымі акамадованы старасвецкі па рознаму ўпрыгожаны. На меншых абразоў чатыры з алтарыкамі без. Апрача таго Царскія Дзверы па сталярску, рэзаныя, старасвецкія апраўленыя маляваныя. Северныя на завесах з маляванне аблезлыя. Алтар вялікі на зрубе на якім sumborium мізэрны, крыжоў звычайных два для benedyktowania, крыжоў працэсіяльных таксама два з маляванай і гравіраванай пасіяй іншага няма. Ліхтары латунныя з падсвечні-



**Званіца з 1852 г. пры царкве ў Рагаўцы, гміна Сямяцічы. Фота: а. Рыгора Сасны.**

камі. Свячэй вялікіх грамнічных чатыры. Брацкіх факелаў пар дваццаць. Алтар той пад бальдахінам простым. Жэрственнік на звычайным месцы непрыбраны. Знаходзіць абразоў апрача вялікіх і старасвецкіх розных стаячых сорак і пяць, а меншых з маскоўскімі дваццаць і чатыры. Аленева галава з рагамі на галерэі вялікай ад царквы вісячая...

Пазнейшыя запісі з візітацый нічога новага, не ўносяць апрача дапісаў аб узбагачэнні святыні новымі рэчавымі ахвяраваннямі. Грунтоўны рамонт царквы Успення Прасвятой Багародзіцы ў Чыжах праведзена ў дваццатых гадах

XIX стагоддзя і ў пяцідзесятых таго ж стагоддзя пасля ліквідацыі царкоўнай уніі.

Найбольшыя змены ва ўнутраным убранстве царквы адбыліся ў 1888 годзе, калі ў час змены падлогі перанеслі іканастас у царкву на могілках, а арыгінальныя і цікавыя рэлігійныя малюнкі (алковатыя ізображэння, як адзначана) замалявалі алейнай фарбай. Царква была двойчы рамантаваная пасля сямідзесятых гадах. Падчас апошняга рамонту былі знойдзены каштоўныя метрыкальныя кнігі з XVII, XVIII і XIX стагоддзяў. Найстарэйшыя запісі ў гэтых кнігах паходзяць з з 1675 года, што разам з пацвярджэннем наданняў праз лопьскіх каралёў і датаваннем насценных малюнкаў дае часе збудавання царквы. Небывалай сенсацыяй сталі адкрытыя ў пачатку сямідзесятых гадоў фрагменты паліхроміі ў чыжоўскай царкве, датаваныя на сямідзесятыя гады XVII стагоддзя.

Пасля насільнага перавода ўніятаў на ўлонне праваслаўнай царквы, народныя насценныя малюнкі былі прызнаны неадпаведнымі для праваслаўнага ўнутранага ўбранства царквы і са шкодай для беларускай культуры ў 1888 годзе былі замаляваны.

Нанова адкрытыя сталі аб'ектам прац, мэтай якіх было вярнуць інтэр'еру царквы пярвічны выгляд. Павольнасць у гэтай працы не дазволіла цалкам пазнаёміцца з шэдэўрамі мясцовага народнага майстэрства. Да моманту пажару паспелі адкрыць толькі тры малюнкі на хоры і тры на бакавых сценках, якія вялі на хор. Выяўлена таксама існаванне малюнкаў пад іканастасам і ў іншых частках царквы некамплетных з прычыны пазнейшых пераробак царквы.

Чыжоўскае малярства ёсць цікавым і арыгінальным прыкладам народнага малярства, якое рэдка сустракаецца ў беларускім культівым мастацтве. Вызначалася яно багацтвам прадстаўленняў, арыгінальнасцю кампазіцыі, каларыстыкай. Мяркуецца, што былі зроблены двума малярамі мясцовага паходжання. З адкрытых сцэнаў выдзяляюцца малюнак Святога Яна Дамасцэнскага, постаць святой Марыі Магдалены, святога прарока Данілы, кампізіцыя, у якой прадстаўлены пяць дзевак разумных і пяць дурных, а таксама Хрыста пры студні Якуба. На ўсіх малюнках ёсць экзатычныя расліны і казачныя жывёлы. Малюнкі, якія былі цудоўным прыкладам культавага народнага мастацтва адрозніваліся адзін ад другога каларыстыкай і кампазіцыяй.

Значна менш даных захавалася аб царкве святой Ганны ў Крушынянах. Збудаваная ў XVIII стагоддзі была прыгожым прыкладам драўлянага культавага дойлідства. Царква мела многа супольнага з узорамі палескай цар-





**Ікона святой Параскевы з XVIII ст. Сямяцічы.**

**Фота: а. Рыгора Сасны.**



© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

коўнай архітэктуры. Некалькі разоў рамантавалася пад наглядам Ваяводскага кансерватара помнікаў. Апошні рамонт быў праведзены ў гадах 1977—1979, калі змянілі падрубу, дах пакрылі новым гонтам, унутры паправілі тынк і памалявалі.

Абедзве царквы ў Чыжах і Крушынянах згарэлі. На Беласточчыне ёсць яшчэ многа драўляных цэркваў, якія патрабуюць сталай кансерватарскай апекі, асабліва царквы святога Міхала ў Бельску, Тапалянах, Падбелі: капліцы ў Фальварках Вялікіх і Мілейчыцах і шэраг іншых. Усе яны — помнікі беларускай народнай культуры. З мясцовага асяроддзя паходзілі архітэкты і дойліды, таму іх лёс не можа быць абыякавы ўсяму нашаму грамадству.

**Антон Мірановіч**



**Дзеці з прыхода ў Рагаўцы.** **Фота: а. Рыгора Сасны.**



## Загадкі з роднай хаткі

А

1. Рассцілалі, збіралі, таптапі, круцілі, ткалі і на стол заслалі. *(Абрус)*
Нараўка.

2. Па лузе ходзіць, на сабе кажух носіць. *(Авечка)*
Сакі, гм. Бельск П.

3. Пакуль бацька нарадзіцца, сын ужо находзіцца. *(Агонь і дым)*
Крывяцічы, гм. Орля.

4. Тры разы гарэў, а раз будаваўся. *(Аддаў тры дачкі замуж і ажаніў аднаго сына)*
Гародчына, гм. Нарва.

5. У траіх абкралі, а адзін аддаў. *(Аддаў тры дачкі замуж і ажаніў аднаго сына)*
Даратынка, гм. Нарва.

6. Пяць валоў адну саху цягнуць. *(Аловак у руцэ)*
Нарва.

7. Шапкі пазбыўся і на зямлю зваліўся. *(Арэх)*
Церамкі, гм. Нараўка.

8. Аснова саснова, а шкляны ток. *(Акно)*
Пасынкі, гм. Бельск П.

9. Тонка расце, слаба вісіць, сам касматы, а канец лысы. *(Арэх)*
Сакі, гм. Бельск П.

Б

10. Хаця не рыба, а плавае, хаця не конь, а з хвастом. *(Бабёр)*
Рыбакі, гм. Міхалова.

11. Маці з дачкою і маці з дачкою, а ўсіх толькі трое. *(Бабуля, дачка, унучка)*
Зубава, гм. Бельск П.

12. Маленькі, але ўдаленькі, скрозь зямлю прайшоў і чырвоную шапачку знайшоў. *(Баравік)*
Кожына, гм. Больск П.

13. Праехаў пан мінулым годам, а сляды ў гэтым відаць. *(Барана)*
Арэшкава, гм. Гайнаўка.

14. Прайшло хлопцаў дваццаць пяць, пасля зімы сляды знаць. *(Барана)*
Дашы, гм. Кляшчэлі.

15. Маленькае, чорненькае, а ўсю калоду варочае. *(Блыха)*
Семяноўка, гм. Нараўка.

16. Чырвоны ад сораму ў зямлю схаваўся. *(Бурак)*
Орля.

17. Калі быў малы, то ў чатыры дудачкі іграў; калі падрос — зямлю пагараў, а па смерці танцаваць пайшоў. *(Бычок)*
Гародчына, гм. Нарва.

18. Баран у хляве, а рог на двары. *(Бэлька)*
Нурэц, гм. Боцькі.

19. Сам худы, а галава са два пуды. *(Бязмен)*
Баброўнікі, гм. Гарадок.

20. На слупах бялёных шапкі зялёныя. *(Бярозы)*
Рыбалы, гм. Заблудаў.

В

21. На чым знаку не палажыш? *(Вада)*
Міклашэва, гм. Нараўка.

22. Што бяжыць без повада? *(Вада)*
Кленікі, гм. Чыжы.

23. Што гэта за загадка, што праз жопу кладка? *(Валак на сагане бульбы)*
Семяноўка, гм. Нараўка.

24. З далёкага краю прыбыў дахаты, лычком падвязаўся і пад лаву схаваўся. *(Венік)*
Пагарэльцы, гм. Белавежа.

25. Каб не дзедаў кацюк, то бабіна махна да кален зарасла б. *(Венік да вымятання)*
Масева, гм. Нараўка.

26. Прыйшоў кароль з чужых старон, лычком падвязаўся і пад печку схаваўся. *(Венік)*
Мядзвежыкі, гм. Мілейчыцы.

27. Рук не мае, ног не мае, а дзверы адчыняе. *(Вецер)*
Сакі, гм. Кляшчэлі.

28. Два браты купаюцца, а трэці на беразе валяецца. *(Вёдры з каромыслам)*
Канюкі, гм. Заблудаў.

29. Чатыры кані маюць адзін хвост. *(Вілы)*
Рагачы, гм. Мілейчыцы.

30. Чырвоны колер, вінны смак, сэрца каменнае, што гэта такое? *(Вішня)*
Сакі, гм. Бельск П.

31. Вісяў вісіць, ходзя ходзіць, вісяў ўпала — ходзя зняла. *(Вішня і свіння)*
Сакі, гм. Бельск П.

32. Вісяў вісіць, ходзя ходзіць; вісяў ўпала, ходзя з'ела. *(Вішня і чалавек)*
Агароднікі, гм. Бельск П.

33. Круглае, маленькае да неба дакінеш, а праз хату не зможаш. *(Вока)*
Новае Ляўкова, гм. Нараўка.

34. Маленькае, кругленькае, а да неба дакінеш. *(Вока)*
Пілікі, гм. Бельск П.

35. Маленькае, махнаценькае, а як прыдзе бяда — пацячэ вада. *(Вока)*
Кнарыды, гм. Бельск П.

36. Пустыя палі, мокне зямля, дождж палівае — калі гэта бывае? *(Восень)*
Краснае Сяло, гм. Боцькі.

37. Два браты жывуць праз мяжу, а адзін другога не бачыць. *(Вочы)*
Клюковічы, гм. Нурэц Ст.

38 Праз мяжу, а брат брата не бачыць. *(Вочы і нос)*
Паўн. Востраў, гм. Шудзялава.

39. Каля бруха завіруха, а ў дзірцы вяселле. *(Вулей)*
Капітаншчына, гм. Нараўка.

40. Два стаіць, два ляжыць, пяты ходзіць, шосты водзіць, сёмы песеньку спявае. *(Вушакі, лежакі, чалавек, дзверы, завесы)*
Сакі, гм. Бельск П.

41. Што гэта за конь, што дугу да вушэй прычапілі? *(Вядро і почыпка)*
Нарва.

42. Ідзе на той свет — скача, з таго свету вяртаецца — плача. *(Вядро ў калодзежы)*
Трасцянка, гм. Нарва.

43. Ідзе туды — скача, а назад — плача. *(Вядро ў калодзежы)*
Старына, гм. Дубічы Царк.

41. Расстае сняжок, ажывае лужок, дня прыбывае — калі гэта бывае? *(Вясна)*
Шудзялава.

45. Крыламі махае, а ўзвіцца не можа. *(Вятрак)*
Катлы, гм. Бельск П.



Г

46. Без ног, а ходзіць *(Гадзіннік)*
Мельнік.

47. Круглы шпіталь, дванаццаць хворых і два лекары. *(Гадзіннік)*
Дубна, гм. Боцькі.

48. Усё жыццё ходзіць, а з месца не зыходзіць. *(Гадзіннік)*
Кузава, гм. Чаромха.

49. Стаіць поп, а на ім рызаў сто. *(галоўка капусты)*
Звяркі, гм. Заблудаў.

50. Без акон, без дзвярэй поўная царква людзей. *(Гарбуз)*
Макаўка, гм. Нарва.

51. Пры дарозе расце, хто не ідзе, той скубне. *(Гарох)*
Ласінка, гм. Нарва.

52. Жыў-жыў капітан, а калі памёр ніхто не пахаваў. *(Гаршчок)*
Чыжыкі, гм. Гайнаўка.

53. Стаіць цыган па калені ў золаце. *(Гаршчок у печы)*
Пухлы, гм. Нарва.

54. Ні акон, ні дзвярэй, а поўная хата людзей. *(Гарбуз, агурок)*
Дубічы Царкоўныя.

55. Быў я на капанцы, быў я на гулянцы, быў я на базары, быў я на пажары; як я малады быў усіх людзей карміў, як стары стаў ляніцца пачаў, а па смерці і сабака маіх касцей грызці не захоча. *(Гладунка)*
Янова, гм. Нарва.

56. Круглы дом без вуглоў, на дванаццаць вакон, па чатыры паны ў акно ўзіраюцца, а ў кожнага па сямёра дзяцей аднолькава названых. *(Год)*
Мілейчыцы.

57. Маці з локаць, бацька з сажань, а дзеці на палец. *(Граблі)*
Збуч, гм. Чыжы.

58. Маленькі, удаленькі скрозь зямлю прайшоў і чырвоную шапачку знайшоў. *(Грыб)*
Міхалова.

59. Стаіць у дзеразе на адной назе. *(Грыб)*
Гродочна, гм. Нарва.

60. Сухі Мартын гару баранує. *(Грабень)*
Дубіны, гм. Гайнаўка.

61. Маленькая Яўдося з Супрунішчам зыйшлася. *(Гузік і пяцелька)*
Навасёлкі, гм. Мілейчыцы.

Д

62. З хаты ў хату водзіць, а сама не заходзіць. *(Дарога)*
Маліннікі, гм. Орля

63. Лягла спаць Парася і на ўвесь свет расцягласяя. *(Дарога)*
Шарне, гм. Орля.

64. Чаго да хаты не прыставіш? *(Дарога)*
Сакі, гм. Бельск П.

65. На плечы ўскіну ды на сто вёрст адкіну. *(Дарога і воз)*
Пасынкі, гм. Заблудаў.

66. Стаіць пры дарозе на адной назе. *(Дарогапаказальнік)*
Белая, гм. Бельск П.

67. Усе мяне просяць, усе мяне чакаюць, а толькі з'яўлюся ўсе ўцякаюць. *(Дождж)*
Сакі, гм. Бельск П.

68. Адзін палівае, другі выпівае, а трэці ўгору падымаецца. *(Дождж, зямля і трава)*
Сушча, гм. Нараўка.
69. Цяпло прыдзе — апранаецца, холад настане — распранаецца. *(Дрэва)*
Сухавольцы, гм. Кляшчэлі.
70. Стары Хвядос пайшоў да нябёс. *(Дым)*
Міхнаўка, гм. Нараўка.

ДЗ

71. Не бываць брату ў сястры ў гасцях. *(Дзень і ноч)*
Крывая, гм. Орля.
72. Стары дзядок па хаце пройдзе — пыл стаўбом пойдзе. *(Дзеркач)*
Кнаразы, гм. Бельск П.
73. Дзе гэтак бывае, што дзірку мясам затыкаюць? *(Дзіця і грудзі маці)*
Рыбакі, гм. Міхалова.

Е

74. Паўзукі паўзуць, рагачы вязуць; там на балоце будзем пугача калоці. *(Ехаць валамі па сена)*
Доўнева, гм. Гарадок.

Ё

75. Многа на ёй іголак, а ўсе без вушак. *(Ёлка)*
Каралёвы Мост, гм. Гарадок.

Ж

76. Повен падпечак залатых яечак. *(Жар у печы)*
Мялешкі, гм. Гарадок.
77. Брат брата сячэ, а бела кроў цячэ. *(Жорны)*
Падазераны, гм. Гарадок.
78. Брат брата сячэ, а ў адну дзірачку кроў цячэ. *(Жорны)*
Бандары, гм. Міхалова.
79. Скрыпяць, калоцяцца, аб усім свеце забоцяцца. *(Жорны)*
Сакаляны, гм. Саколка.

З

80. Не брэша, не лае, а ў хату не пускае. *(Замок)*
Вараняны, гм. Саколка.
81. Вісіць карова — дзірка гатова, прыйшоў бык і ў дзірку тык. *(Замок і ключ)*
Жукі, гм. Кляшчэлі.
82. Дзед скрабоча, а баба не хоча; дзед за цела і баба захацела. *(Замок і ключ)*
Сакі, гм. Бельск П.
83. Пан паню ласкоча, а пані не хоча. *(Замок і ключ)*
Чыжы.
84. Па белай жэрдачцы чырвоны певень едзе. *(Запаленая запалка)*
Пянькі, гм. Міхалова.
85. Шчыкоткі, шчыкоткі счапіліся дзве цёткі. *(Запінка)*
Кузава, гм. Чаромха.
86. Было жоўтым, вырасла зялёным, сонца пацалавала і зноў жоўтым стала. *(Збожжа)*
Падазераны, гм. Гарадок.
87. Зароў вол на сем сёл. *(Звон)*
Кленікі, гм. Чыжы.
88. У зямлю крычыць, а голас да неба ляціць. *(Звон)*
Стары Корнін, гм. Дубічы Ц.
89. Выдла нязлічанае, а пастух рагаты. *(Зоры і месяц)*
Тафілаўцы, гм. Дубічы Царк.
90. Повен хлявец белых авец. *(Зубы)*
Курашава, гм. Чыжы.
91. У цёмным лесе дзве пары сарочак вісіць. *(Зубы ў роце)*
Мякішы, гм. Бельск П.



92. Карміць корміць, а сама есці не просіць. *(Зямля)*
Інсток, гм. Нарва.
93. Ці дождж, ці сонца, а яна ўвесь час пад зонтам. *(Зямля і неба)*
Гайнаўка.

І

94. Маленькая, стальненькая ўвесь свет адзене. *(Ігголка)*
Аўгустова, гм. Бельск П.
95. Бяжыць свінка з сярэбранай спінкай, з хвосцікам ільняным. *(Іголка з ніткай)*
Ялоўка, гм. Дуброва Бел.

К

96. Брата брата гоніць, а ніяк не дагоніць. *(Калёсы)*
Крапіўна, гм. Дуброва Бел.
97. Сярод хаты стаіць чорт рагаты. *(Калаўрот)*
Круглы Лясок, гм. Міхалова.
98. Стаіць певень над вадою і трасе чырвонай барадою, хто не ідзе, той за бараду пацягне. *(Каліна)*
Грузка, гм. Кляшчэлі.
99. Брат з братам адным поясам спавіты. *(Калкі ў плоце)*
Грузка, гм. Кляшчэлі.
100. Сярод сяла зарэзалі вала і да кожнай хаты нітачка. *(Калодзеж)*
Кругляны, гм. Кузніца.
101. Ляжыць баран, а на ім сто ран. *(Калодка)*
Ахрымоўцы, гм. Кузніца.
102. З кожным днём сохне. *(Каляндар)*
Харошча.
103. Не звер, не птіца, а нос як спіца; ляціць бзымчыць, сядзе — маўчыць; хто яго заб'е, сваю кроў пральле. *(Камар)*
Сакі, гм. Бельск П.
104. Што расце без кораня? *(Каменъ)*
Агароднічкі, гм. Васількова.
105. Дзесяць адзежак, а ўсе без засцежак. *(Капуста)*
Ціванюкі, гм. Міхалова.
106. Не кроена, не шыта, а рубцамі пакрыта. *(Капуста)*
Парослы, гм. Харошча.
107. Пасярод двара стаіць гара, спераду вілы, а ззаду мятла. *(Карова)*
Лыскі, гм. Харошча.
108. Чатыры тычкі, два патычкі, сёмае памахайла. *(Карова)*
Валілы, гм. Гарадок.
109. Зімою на суку, летам на лугу, на траву гляне і тая вяне. *(Каса)*
Пухлы, гм. Нарва.
110. Гарбаты дзядок палез па золата ў куток. *(Качарга)*
Хітрая, гм. Гайнаўка.
111. Поўны хлеў чырвоных кароў, а адна чорная ўвайшла і ўсіх выгнала. *(Качарга і жар у печы)*
Новае Беразова, гм. Гайнаўка.
112. Усадзіў як друк, а выняў як фляк. *(Кіслы агурок)*
Вітава, гм. Дубічы Царкоўныя.
113. У куточку на пруточку вісяць дзендзёлавы яйкі. *(Клубкі ў кошыку)*
Беражышча, гм. Чаромха.
114. Кругленькі, маленькі, а за хвост не падымеш. *(Клубок)*
Зубачы, гм. Чаромха.
115. На адным месцы крыжоў дзвесце. *(Клубок)*
Сакі, гм. Бельск П.
116. Сядзіць пані на сцяне, хто ідзе, той і кране. *(Клямка)*
Вяліка Апака, гм. Чаромха.

117. Без языка, а размаўляе і другіх навучае. *(Кніга)*
Ставішчы, гм. Чаромха.

118. Не чалавек, а з вялікім розумам. *(Кніга)*
Грэбяні, гм. Дуброва Бел.

119. Хаця з лістамі, то не дрэва, хаця пашыта — не апранеш. *(Кніга)*
Ячна, гм. Дуброва Бел.

120. Поле белае, насенне чорнае, сыпнеш, а ў галаве ўзыходзіць. *(Кніга, пісьмо)*
Козлікі, гм. Заблудаў.

121. Раніцай уздыхае, а вечарам пазяхае. *(Комін)*
Навасады, гм. Заблудаў.

121. Стаіць на страсе і чупрынаю трасе *(Комін)*
Сакі, гм. Бельск П.

123. Чатыры браты і ва ўсіх бароды ззаду. *(Конскія капыта)*
Хварасцяна, гм. Новы Двор.

124. Сямсот свішча, чатыры плешча, два слухае, два нюхае, два паглядае. *(Конь)*
Сынкоўцы, гм. Новы Двор.

125. Адкіўнуў адну, адкінуў другую і пхне туды галыша. *(Конь у аглоблях)*
Завыкі, гм. Сураж.

126. Гаспадар на гумно нясецца, а за ім тычка трасецца. *(Кот)*
Малешы, гм. Лубін Касц.

127. З пераду мыльца, з заду кольца, а пасярэдзіне палаценца. *(Кот)*
Шпакі, гм. Вышкі.

128. Па хаце ходзіць, венікам водзіць. *(Кот)*
Дзяціннае, гм. Боцькі.

129. Не агонь, а пячэ. *(Крапіва)*
Зубава, гм. Бельск П.

130. Стаіць пані пры дарозе на аднойназе, хто яе тыкне, той сыкне.*(Крапіва)*
Быстры, гм. Боцькі.

131. Каровы ў хляве, а рогі на дворы. *(Кроквы)*
Снежкі, гм. Боцькі.

132. Дыбы дыбаюць, жылы ўстаюць, голы свішча, дзіркі ішча. *(Кросны)*
Гародчына, гм. Нарва.

133. Мрыг вачыма, рух вусамі, шах кутасам, бах ямі. *(Кросны і ткачыха)*
Кленікі, гм. Чыжы.

134. Стаіць певень над вадою і трасе мокрай барадою. *(Крук над калодзежам)*
Слівава, гм. Чыжы.

135. Сядзіць на хаце дзядок выставіўшы гарбок *(Крук у сцяне)*
Ляды, гм. Чыжы.

136. Чайка ў вадзе, а хвост на сушы. *(Кубак у вядры)*
Арэхвічы, гм. Бельск П.

137. Два разы родзіцца, а раз памірае. *(Курыца)*
Стрыкі, гм. Бельск П.

138. Сарочак багата, а душа голая. *(Курыца)*
Дубяжын, гм. Бельск П.

Л

139. Сонца пячэ, ліпа цвіце, жыта даспявае — калі гэта бывае? *(Лета)*
Церамкі, гм. Нараўка.

140. Пакуль ляжыць, дык маўчыць, а памрэ — зараве. *(Лёд на рацэ)*
Войшкі, гм. Заблудаў.

141. Цела апранаюць, а голаў ядзяць. *(Лён)*
Сакі, гм. Бельск П.

142. Цела выкідаюць, шкуру апранаюць, а голаў ядзяць. *(Лён)*
Гародчына, гм. Нарва.

143. У лесе пасецца, а прыдзе да сяла — перад бабаю трасецца. *(Лісіца)*
Белавежа.

144. Еду, еду і ні дарогі, ні следу. *(Лодка)*
Канюкі, гм. Заблудаў.

145. Адно кажа— світай Божа, другое кажа — не дай Божа, а трэцяе кажа — мне ўсё роўна што ў дзень, што ў ночы вытрышчыўшы зіркачы. *(Ложак, дзверы, акно)*
Сакі, гм. Бельск П.

146. Чацвёра пятага трымаюць, а шосты ляжа і адпачывае. *(Ложак і чалавек)*
Ліпіны, гм. Гайнаўка.

147. Вязушка вязе, сякачка сячэ, а мокры Марцін падкладае і сапе. *(Лыжка, зубы, язык)*
Пасталова, гм. Гайнаўка.

148. Загадка, загадка ў сраццы ягадка; вазьмі абліжы і на тое ж месца палажы. *(Лыжка і міска)*
Грыбоўшчына, гм. Крынкі.

149. Вакол ямы сядзяць усе з кіямі. *(Людзі з лыжкамі вакол міскі са стравай)*
Крынкі.

150. Сядзіць пані на сцяне вырачыўшы зіркачы. *(Люстра)*
Таніца, гм. Міхалова.

М

151. Поўна бочка круп, а з верху струп. *(Макаўка)*
Відава, гм. Бельск П.

152. Стаіць паненка высока і ценка, зялёна галоўка, а чырвона суке нка. *(Макаўка)*
Нетупа, гм. Крынкі.

153. Стучыць, гучыць, сто коні бяжыць; трэба стаць і падумаць, што ім есці даць. *(Малатарня)*
Азерске, гм. Крынкі.

154. Без рук і без ног, а вокны малюе. *(Мароз)*
Грэбені, гм. Дуброва Бел.

155. Лезе праз вакно сівае сукно. *(Мароз)*
Палічная, гм. Дубічы Царк.

156. Сівы Вол выпіў вады дол. *(Мароз)*
Доўгі Брод, гм. Дубічы Царк.

157. Сядзіць пані ў склепе і цыцкамі клепе. *(Маслабойка)*
Войнаўка, гм. Дубічы Царк.

158. Вока ў вока глядзіць пільна, пуп ля пупа ляжыць шчыльна, кален пара ўгору ўзнята, у дзірку ўткнёна кусок мяса. *(Маці з дзіцём пры грудзях)*
Мастаўляны, гм. Гарадок.

159. Сяло Мікуліці — ні канца, ні вуліцы, там пеўні не пяюць і людзі не ўстаюць. *(Могільнік)*
Боўтрыкі, гм. Міхалова.

160. Сядзіць пані ў каморы, а яе косы на дворы. *(Морква)*
Новая Воля, гм. Міхалова.

161. Шатаецца, матаецца пад прыпечак хаваецца. *(Мятла)*
Новая Воля, гм. Міхалова.

162. Б'юць яго, а ён не плача — вясёленька ўгору скача. *(Мяч)*
Мядзвежыкі, гм. Мілейчыцы.

Н

163. Што гэта за загадка, што гэта за вапрос, што стра-

ляе ў пяткі, а пападае ў нос? *(Набздзець)*

Кожына, гм. Бельск П.

164. На адной яме сто ям. *(Напарстак)*

Сакі, гм. Бельск П.

165. Ішоў, ішоў ды дзве дарогі знайшоў, падумаў і ў абедзве пайшоў. *(Нагавіцы)*

Церамкі, гм. Нараўка.

166. Выйду на дарожку, разсцялю радзюжку, пасыплю гарошку, а пасярэдзіне баранчык. *(Неба, зоры, месяц)*

Сакі, гм. Бельск П.

167. Ішлі ўтрох, рассыпалі гарох, разаслалі кажух і палажылі хлеба круг. *(Неба, зоркі, месяц)*

Тыневічы Вял. гм. Нарва.

168. Поле не змерана, быдла не злічана, пастух рагаты. *(Неба, зоры, месяц)*

Шпакі, гм. Вышкі.

169. На нязмераным полі быдла нязлічанае і адзін пастух пасе. *(Неба, зоры, месяц)*

Мора, гм. Орля.

170. Хата з вокан, а ўцячы не ўцячэш. *(Нерад)*

Рыбакі, гм. Нарва.

171. Прыйшоў госць і пад лаву шусць. *(Ногі)*

Міклашы, гм. Орля.

172. Два кальца, два канца, а ў сярэдзіне гвоздзік. *(Нажніцы)*

Піліпкі, гм. Бельск П.

173. Што гэта за загадка дзве кулькі і арматка? *(Нажніцы)*

Парцава, гм. Бельск П.

174. Чорная карова ўсіх пабарола, а белая ўстала і ўсіх падняла. *(Ноч і дзень)*

Мілейчыцы.

П

175. Без станка, а палотны тчэ. *(Павук)*

Плюціцы, гм. Бельск П.

176. Нітак многа, а ў клубок не зматаеш. *(Павуціннe)*

Белавежа.

177. Мае чатыры рагі, а не бора. *(Падушка)*

Камень, гм. Чыжы.

178. Сюды рог, туды рог, айца і сына спаці лёг. *(Падушка)*

Міхнаўка, гм. Нараўка.

179. Белае поле, чорнае насенне, хто яго сее, той разумее. *(Папера і даўгапіс)*

Версток, гм. Дубічы Царк.

180. Каля носа ўецца, а ў рукі не даецца. *(Пах)*

Барысаўка, гм. Гайнаўка.

181. Два разы радзіўся, ні разу не хрысціўся, а чорта палохае. *(Певень)*

Сакі, гм. Бельск П.

181. Стаіць на варотах у чырвоных ботах. *(Певень)*

Крывец, гм. Гайнаўка.

183. Белая кабыла ўвесь лес з'ела. *(Печ)*

Гнецюкі, гм. Заблудаў.

184. Прыйшоў да яе, памацаў яе, сядзеў да поту, пакуль сагнаў ахвоту. *(Печ)*

Алексічы, гм. Заблудаў.

185. Прыйшоў да мяне, сеў ля мяне, сядзеў да поту, пакуль сагнаў ахвоту. *(Печ)*

Крывая, гм. Орля.

186. Хаця баба і старая, але ўсю зіму дзяцей агравае. *(Печ)*

Шчыты, гм. Орля.

187. Маці бялоха, дачка красоха, а сын перабой пайшоў сраці на двор. *(Печ, агонь, дым)*

Сакі, гм. Бельск П.

188. То ўперад, то ўзад, зжуе дрэва ў дробны мак. *(Піла)*

Пашкоўшчына, гм. Орля.

189. Пяць валоў адзін плуг цягнуць. *(Пісаць алоўкам)*

Нарва.

190. Не птушка, а за моры лётае. *(Пісьмо)*

Міхалова.

191. Колькі на небе зорак, толькі на зямлі дзірак. *(Пожня)*

Стрыкі, гм. Бельск П.

192. Поўны хлеў авечак і адзін баран бляе. *(Поп у царкве)*

Рагаўка, гм. Сямяцічы.

193. Ты сюды, а я туды і зыдземся на гары. *(Пояс і папружка)*

Сакі, гм. Бельск П.

194. Мяту, мяту — не вымяту, нясу, нясу — не вынясу, а пара настане — само адстане. *(Прамень сонца на падлозе)*

Сакі, гм. Бельск П.

195. Каціўся клубочак у куточак. *(Прамень сонца)*

Гародчына, гм. Нарва.

196. Чаго не абнясеш вакол хаты? *(Прамень сонца)*

Семяноўка, гм. Нараўка.

197. Рыжы жарабчук схаваўся ў раўчук. *(Прусак)*

Грыбоўшчына, гм. Шудзялава.

198. Без рук і сякеры, а хату збудуе. *(Птушка)*

Гаркавічы, гм. Шудзялава.

199. Бацька гарбаты, маці пляската, дочкі падлізухі, а сыны кручаныя на цвіку павешаныя. *(Пуня, ток, мётлы і цапа)*.

Крынкі.

200. Ляцеў птах цераз божы дах і ўсё крычаў: тут, тут мая сільця гарыць. *(Пчала)*

Нов. Беразова, гм. Гайнаўка.

201. Ёсць у нас такі баран, што на ім сто ран. *(Пянёк)*

Суковічы, гм. Шудзялава.

202. Чаго праз хату не пераківеш? *(Пяро)*

Кнышэвічы, гм. Шудзялава.

203. Што вып'е, тое і раскажа. *(Пяро)*

Страшава, гм. Гарадок.

Р

204. Без языка, а гаворыць. *(Радыё)*

Ст. Корніна, гм. Дубічы Царк.

205. Чорным родзіцца, а чырвоным паміраe. *(Рак)*

Аўгустова.

206. Што гэта за воз, што аглоблі ляжаць, а каня чорт панёс? *(Рака ў берагах)*

Ясьвілы.

207. Белая кабыла ўвесь свет пабудзіла. *(Ранак)*

Кленікі, гм. Чыжы.

208. Белы бык у акно рагамі тык. *(Ранак)*

Сакі, гм. Бельск П.

209. Вечарам нараджаецца, а раніцай паміраe. *(Раса)*

Рагаўка, гм. Сямяцічы.

210. Ішла пані ўначы, пагубіла ключы, месяц бачыў, а сонца падняло. *(Раса)*

Сакі, гм. Бельск П.

211. У куточку ў чарапочку стаіць смерць. *(Ружжо)*

Ялоўка, гм. Міхалова.

212. На тое я цябе зрабіў каб з сабою браў, сваё грэш-

 

нае цела ў тваю дзірку пхаў. *(Рукавіца)*

Зубава, гм. Бельск П.

213. Шусцю па запечку, знайшоў махнатачку, шусцю галыша — там мая душа. *(Рукавіца)*

Бялкі, гм. Нарва.

214. Шусць галыша ў махнатае. *(Рукавіца)*

Ласінка, гм. Нарва.

215. Вісіць махаецца кожны за яго хапаецца. *(Ручнік)*

Шымкі, гм. Міхалова.

216. Прыехалі камісары, гаспадароў палапалі, а хата акном уцякла. *(Рыбакі, сетка і рыба)*

Навасады, гм. Міхалова.

217. Сухая кабыла ўсё сена паела. *(Рэзгіны)*

Агароднікі, гм. Супрасль.

218. Адзываецца адзываецца, але ад людзей хаваецца. *(Рэха)*

Орля.

219. У бабіных руках бакамі трах, трах. *(Рэшата)*

Кажаны, гм. Юхновец.

С

220. Ляжыць пад ганкам, а хвост абаранкам. *(Сабака)*

Больск. П.

221. На сене ляжыць і маўчыць, а станеш прасіць і сам не гам і камусьці не дам. *(Сабака)*

Старасельцы, р-н Беласток.

222. Стаіць баба на масту і крычыць — усіх абасцу. *(Самавар)*

Курашава, гм. Чыжы.

223. Стаіць поп на масту і крычыць — абасцу. *(Самавар)*

Сакі, гм. Бельск П.

224. У небе дзіра, у зямлі дзіра, пасярэдзіне агонь ды вада. *(Самавар)*

Ласінка, гм. Нарва.

225. Зімой і летам адным цветам. *(Сасна)*

Баброўнікі, гм. Гарадок.

226. Гарыць сарочка, а цела мокне. *(Свечка)*

Мастаўляны, гм. Гарадок.

227. Хаця голы — сарочкі не апранае, а за пазухай трымае. *(Свечка)*

Пасынкі, гм. Заблудаў.

228. Цела расплываецца, а сарочка свеціць. *(Свечка)*

Кленікі, гм. Чыжы.

229. Ходзіць па зямлі, а неба не бачыць. *(Свіння)*

Падазераны, гм. Гарадок.

230. Шэрае сукно закрыла вакно. *(Світанне)*

Літвінавічы, гм. Нурэц.

231. Зубасты Хвядор усю сцяну прапароў. *(Свярдзёлак)*

Вейкі, гм. Гарадок.

232. Сівое валішча праз сцяну дрышча. *(Свярдзёлак)*

Малінікі, гм. Орля.

233. Стары згорблены дзядок мае доўгі насок, тне перад сабою лясок і складае ў снапок. *(Серп)*

Белавежа.

234. Маленькі, крывенькі, а ўсё поле збегае. *(Серп)*

Зубры, гм. Гарадок.

235. Маленькі, крывенькі, усё поле аббяжыць і дахаты прыбяжыць. *(Серп)*

Сычы, гм. Нурэц.

236. Чорненькае, маленькае ўсё поле праскакала, а прыйшло дахаты і цэлую зіму праляжала. *(Серп)*

Спічкі, гм. Орля.



237. З леса прыйшла і на руках расплакалася. *(Скрыпка)*

Крушыняны, гм. Крынкі.

238. Пакуль ляжыць — маўчыць, толькі ў рукі возьмеш — дзіцём крычыць. *(Скрыпка)*

Пілікі, гм. Бельск П.

239. Пад адным каўпаком сямсот казакоў. *(Сланечнік)*

Міхалова.

240. На плячах хату носіць. *(Слімак)*

Козлікі, гм. Заблудаў.

241. Прыйшла ўкрала, а даганяць няма каго. *(Смерць)*

Дзяціннае, гм. Боцькі.

242. На двары гарою, а ў хаце вадою. *(Снег)*

Гаўрылкі, гм. Боцькі.

243. Тысячу братоў адзін пояс абматаў *(Сноп)*

Юраўцы, гм. Васількова.

244. У вадзе родзіцца, а вады баіцца. *(Соль)*

Калодна, гм. Гарадок.

245. Што чалавеку наймілейшае? *(Сон)*

Мельнік.

246. Лучына малая, а ўсю зямлю асвятляе. *(Сонца)*

Такары, гм. Мельнік.

247. Мяту, мяту не вымяту, нясу — не вынясу, а пара прыдзе — само выйдзе. *(Сонца)*

Баравікі, гм. Нурэц.

248. Нясу, нясу не вынясу, мяту не вымяту. *(Сонца)*

Жукі, гм. Кляшчэлі.

249. Ідзе сястра да брата ў госці, а брат хаваецца. *(Сонца і месяц)*

Быстрая, гм. Боцькі.

250. Пад адной шапкаю чатыры браты стаяць. *(Стол)*

Дубіны, гм. Гайнаўка.

251. У дзеда вісіць, у бабы ззяе, — дзек да бабы заглядае. *(Студня з жоравам)*

Мялешкі, гм. Гарадок.

252. У дзеда вісіць, у бабы зяе — дзед да бабы дасягае. *(Студня з жоравам)*

Монькі.

253. У дзеда вісіць, у бабы зяе — дзед да бабы прыпадае. *(Студня і жораў)*

Левані, гм. Кнышын.

254. У дзеда вісіць, у бабы зяе, дзед папросіць — баба дае. *(Студня з жоравам)*

Крапіўна, гм. Дуброва. Б.

255. У дзеда вісіць, у бабы зяе, хто папросіць, таму і дае. *(Студня з жоравам)*

Сынкоўцы, гм. Новы Двор.

256. Поўна хата вераб'ёў, а ніводнага не выгнаць. *(Сукі ў дылях)*

Пуцілкі, гм. Саколка.

257. Бачыць — не бачыць, а чуць чуе. *(Сумленне)*

Пярожкі, гм. Шудзялава.

258. Сядзіць пані на мурку ў чырвоным каптурку, хто не ідзе, той паклоніцца. *(Суніца)*

Астравок, гм. Шудзялава.

259. У лесе на гары сядзіць пані ў чырвоным каптуры. *(Суніца)*

Тафілаўцы, гм. Дубічы Ц.

260. У рубашцы нарадзіўся, а голы ходзіць. *(Сыр)*

Малынка, гм. Заблудаў.

261. Адзін зуб і той стальны. *(Сякера)*

Дабрывада, гм. Кляшчэлі.

262. Ідзе ў лес — дамоў гля-



 

дзіць, ідзе дамоў — у лес глядзіць. *(Сякера за поясам)*
Вітава, гм. Дубічы Царк.

Т

263. Нагамі прэ, жыватом трэ, дзе раздзявіць, там і ўвапхне. *(Ткачка за кроснамі)*
Завыкі, гм. Сураж.

264. Той, што зрабіў, то прадаў; той, што купіў, то не меў; той, што меў, то не бачыў. *(Труна)*
Відава, гм. Бельск П.

265. Шасцёра працуе, а сёмы адпачывае. *(Тыдзень)*
Пагарэльцы, гм. Белавежа.

Х

266. Без ног, без рук, а палез на друк. *(Хмель)*
Сяневіцы, гм. Драгічын.

267. Толькі нарадзіўся і за кій схапіўся. *(Хмель)*
Леўкі, гм. Бельск П.

Ц

268. Кручоныя, гладжоныя на суку пачаплёныя. *(Цапы)*
Скраблякі, гм. Гарадок.

269. Ляцелі гусанькі з драўлянымі косанькамі і ўсё крычалі: „то-то мы“. *(Цапы пры малацьбе)*
Гародчына, гм. Нарва.

270. Крок у крок за чалавекам ходзіць. *(Цень)*
Даратынка, гм. Нарва.

271. Чаго не вырубіш? *(Цень)*
Церамкі, гм. Нараўка.

272. Сухая баба косьці гложа. *(Церніца)*
Малешы, гм. Вышкі.

273. Лата на лаце, а нідзе шва не знаць. *(Цыбуля)*
Шпакі, гм. Вышкі.

274. Мыш у нару схавалася, а хвост на двары матляецца. *(Цыбуля)*
Краснае сяло, гм. Боцькі.

275. Сядзіць дзявушка ў шасці кажушках, хто яе распранае, той заплача. *(Цыбуля)*
Страшава, гм. Гарадок.

276. Сядзіць Маруська ў сямі кажушках, хто яе распране, той заплача. *(Цыбуля)*
Ваські, гм. Нарва.

277. Сядзіць старушка ў сямі кажушках, хто яе распране, той заплача. *(Цыбуля)*
Камень, гм. Чыжы.

278. У чырвоным жупанку сядзіць пані на ганку, хто на яе гляне, той і заплача. *(Цыбуля)*
Орля.

279. Крыва махае, а проста б'е *(Цэп)*
Шарні, гм. Орля.

280. Сюды мах, туды мах, дзе ўдарыць, там і траф. *(Цэп)*
Сакі, гм. Бельск П.

Ч

281. Сорак тыдняў у турме сядзіць, на свет выйдзе — пад столлю вісіць, потым папаходзіць і зноў у турму ўцякае. *(Чалавек)*
Кнарыды, гм. Бельск П.

282. Што гэта за звер: шэсць ног, адзін хвост і дзве галавы? *(Чалавек на кані)*
Рагачы, гм. Мілейчыцы.

283. Клюкі, заклюкі, дзесяць ног, а тры сракі. *(Чалавек, які гарэ параю)*
Сакі, гм. Бельск П.

284. Клюкі, заклюкі, дзесяць ног і тры галавы ў адзін бок глядзяць. *(Чалавек, які гарэ параю коней)*
Нурэц, гм. Боцькі.



285. Стаіць у вадзе на адной назе. *(Чапля)*
Рыбакі, гм. Нарва.

286. Хутка бяжыць, што не дагоніш. *(Час)*
Белая, гм. Бельск. П.

Ш

287. Калі вітаюцца, то за мяне хапаюцца. *(Шапка)*
Нараўка.

288. Ля хаты стаяць салдаты. *(Штахеціны)*.
Дубічы Царкоўныя.

Я

289. Жоўты Піліп да палкі прыліп. *(Яблыка)*
Рыбакі, гм. Міхалова.

290. Румяны Піліп да палкі прыліп. *(Яблыка)*
Кошкі, гм. Орля.

291. Ляжыць калода пасярод балота — не гніе і не сохне. *(Язык)*
Трашчоткі, гм. Бельск П.

292. Адзін гаворыць, двое слухаюць, а двое глядзяць. *(Язык, вочы, вушы)*
Мядзвежыкі, гм. Мілейчыцы.

293. За белымі бярозамі скача талалай. *(Язык і зубы)*
Сакі, гм. Бельск П.

294. За белым плотам талалайка брэша. *(Язык і зубы)*
Кузава, гм. Чаромха.

295. Поўны хлеў авечак і адзін баран бляець. *(Язык і зубы)*
Ячна, гм. Дуброва Бел.

296. Касцяшка сячэ, дзеравяшка вязе, а мокры Марцін падкладае. *(Язык, лыжка, зубы)*
Грэбяні, гм. Дуброва Бел.

297. Без абручыка, без дна, а нідзе дзірачкі няма. *(Яйка)*
Сакі, гм. Бельск П.

298. Кругленькае, маленькае, а калом не падважыш. *(Яйка)*
Ставішчы, гм. Чаромха.

299. Маленькае, кругленькае, але рэшатам у куце не раздушыш. *(Яйка)*
Ракавічы, гм. Чыжы.

300. Поўная бочачка віна, нідзе дзірачкі няма. *(Яйка)*
Новая Воля, гм. Міхалова.

301. Поўная бочачка вінца, ні варонкі, ні дзенца. *(Яйка)*
Грабавец, гм. Дубічы Ц.

302. У адной дзежцы два цесты. *(Яйка)*
Рыбалы, гм. Заблудаў.

303. Вусы даўжэй за пана. *(Ячмень)*
Рутка, гм. Дубічы Ц.

Сабраў на Беласточчыне
**Міхась Шаховіч**

# На нашай ніве

Кастусь Масальскі

## Усё мае свой пачатак

Усё мае свой пачатак. Успаміны таксама трэба пачынаць з нейкай акрэсленай у часе падзеі. Будзе ёю канферэнцыя Гарадскога Праўлення Беларуска грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку, якая адбылася 11 снежня 1965 года. Выбранае на ёй новае Праўленне аддзела даверыла мне функцыю старшыні. З вялікім хваляваннем прыняў гэты ганаровы абавязак і верыў, што ўсе мае намеры, планы і эмацыянальна ўзмоцненыя імкненні — давесці да бурлівага ўздыму дзейнасці Аддзела — здзейсняцца. Як жа можа быць інакш? — думалася.

Напрамак дзейнасці Аддзела акрэсліла канферэнцыя, удзельнікі якой дбаючы аб утрыманні і развіцці беларускай культуры ў грамадскім асяроддзі шырока, поўна, канкрэтна і шчыра абмяркоўвалі ўсе праблемы з гэтым звязаныя. Усё было ясна і проста.

Склад новага праўлення аддзела прадстаўляўся наступна: Кастусь Масальскі — старшыня, Уладзімір Куршэль — намеснік старшыні, Вера Валкавыцкая — сакратар, Люба Кулыгіна і Пятро Стасевіч — члены прэзідыума. Члены праўлення: Васіль Баршчэўскі, Яўгіння Германа, Янка Дамброўскі, Аляксандр Каліноўскі, Кастусь Касперук, Мікалай Курцэвіч, Васіль Літвінчык, Язэп Маркоўскі, Кіра Радзіцкая, Яўген Рашкевіч, Сцяпан Сільвончук, Рыгор Скарыновіч, Янка Філіпін, Пятро Хомчык, Зоя Ясінская.

У Камісію Рэвізійную выбрана: Фёдара Садоўскага — старшыня, членаў: Анну Амбражэй, і Уладзіміра Навіцкага. З вялікім смуткам і жалем мы развіталіся з Аляксандрам Каліноўскім і Пятром Стасевічам, якія назаўсёды адышлі ад нас, выбылі таксама Люба Кулыгіна (выехала ў Англію) і Янка Дамброўскі (выехаў з Беластока).

Праўленне папоўніла свой склад новымі членамі, якія праяўлялі вялікае зацікаўленне працай БГКТ. Былі гэта: Віктар Лаўрэшук, Яўгіння Младзяноўская, Янка Стрышко, Мікалай Яроцкі.



**Удзельнікі навагодняй ёлкі арганізаванай Гарадскім аддзелам БГКТ у Беластоку. Фота: Кастуся Масальскага.**

Усе члены Праўлення да працы ў Аддзеле адносіліся з вялікім пачуццём. Аддавалі ёй свой вольны час, арганізатарскія здольнасці і найважнейшае — сэрца. Было таксама многа звычайных членаў БГКТ, якія штодзённа ўключаліся ў працу Аддзела і ўсімі сваімі дасятненнямі ў грамадска-культурнай працы Аддзел ім абавязаны, а недахопы, мабыць, прыпадаюць на долю старшыні.

Аддзел вырашыў, што пленарныя пасяджэнні Праўлення павінны праводзіцца мінімум раз на квартал, а Прэзідыум праўлення, якое мела дагляд над штодзённай дзейнасцю і выконваннем усіх пастаноў Праўлення будзе праводзіць свае пасяджэнні па меры патрэб, каб усе справы, якія вынікаюць вырашаць неадкладна.

Спецыфікай Аддзела было тое, што працаваў ён у гарадскім асяроддзі, а ўсе члены гуртаваліся ў адным гуртку. Гэта мела свае станоўчыя і адмоўныя бакі. Такое палажэнне аблягчала клубную працу, але не спрыяла супрацоўніцтву з установамі і грамадскімі арганізацыямі. Актыўныя члены, у клубе былі даволі пасіўныя ў месцах свaёй працы.

Дадатковую цяжкасць перажыў Аддзел у 1966 годзе, калі не меў штатнага працаўніка, але і тады ўсе планавання клубныя мерапрыемствы былі праведзены паспяхова.



Клуб Гарадскога Аддзела БГКТ меў дзве залы. У адной з іх можна было на штодзень паглядзець тэлевізійныя перадачы з Польшчы і БССР, пазнаёміцца з беларускай і польскай прэсай, гуляць у шахматы і шашкі, паслухаць музыкі. У глядзельнай зале дэманстраваліся фільмы, адбываліся выступленні мастацкіх калектываў, арганізаваліся танцавальныя вечары. Клуб быў адкрыты для членаў і сімпатыкаў БГКТ штодзень з 16 да 22 гадзін, за выключэннем панядзелка.

У Клубе заўсёды было поўна моладзі, якая знаходзіла тут даволі прыемную атмасферу. Заходзілі сюды і часта праводзілі свой вольны час многія палякі і цыганы, мала таго ў Аддзеле мы мелі некалькі актывістаў польскай нацыянальнасці, якія проста ўраслі ў нашу арганізацыю.

Не лішнім будзе ўспомніць і аб тым, што ў многіх выпадках галоўным сватам быў таксама наш клуб. Добра было б каб калі хто-небудзь і гэта падлічыў. Магчыма такая роля клуба Аддзела найбольш акажацца трывалым вынікам нашай сціплай дзейнасці.

Варта адзначыць, што працай гарадскога аддзела цікавіўся Гарадскі камітэт ПАРП, а яго прадстаўнік Мікалай Патэюк сістэматычна бываў на пасяджэннях, дапамагаў чым мог і служыў радай.

Ад імя Прэзідыума ГП БГКТ апекунам нашага Аддзела быў Кастусь Майсеня,



**Хор Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Фота: Кастуся Масальскага.**

які не гледзячы на тое, што жыў у Гайнаўцы, па меры сваіх магчымасцяў, удзельнічаў у пленарным пасяджэннях Аддзела і нашы праблемы прадстаўляў у Прэзідыуме ГП БГКТ.

Трэба таксама ўспомніць аб вялікім уплыве членаў нашага Аддзела на дзейнасць усяго Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Так напрыклад на V з'ездзе БГКТ 26 ці 27 лютага 1966 года ў склад Галоўнага праўлення ўвайшлі наступныя члены: Васіль Баршчэўскі, Юрка Валкавыцкі, Кастусь Масальскі, Аляксандр Сохар, Сымон Шыманюк, Міхась Хмялеўскі і Уладзімір Юзвюк. У галоўную рэвізійную Камісію выбраны: Лідзія Бялецкая, Піліп Кізевіч, Аляксандр Кунах, Вінцук Склубоўскі.

У дыскусіі на З'ездзе са шматлікімі праблемамі працы БГКТ выступілі: Васіль Баршчэўскі, Сяргей Гайдук, Янка Дамброўскі, Леанідас Другавец, Аляксандр Каліноўскі і я.

На гэтым жа З'ездзе адзначана за вялікі ўклад грамадскай працы наступных членаў нашага Аддзела: Леаніда Другаўца, Піліпа Кізевіча, Уладзіміра Куршаля, Язэпа Маркоўскага, Уладзіміра Навіцкага і, маю скромную асобу.

Выбранае на канферэнцыі Аддзела ў снежні 1965 года праўленне ўжо з пачатку 1966 года вялікую ўвагу звярнула на справы арганізацыйныя. Неяк так павялося, што пасля акрэсленага перыяду актыўнасці нашы члены часта парываюць сувязь з БГКТ, што вонкава выражаецца ў неаплочванні членскіх узносаў, сумы даволі сімвалічнай. Вырашана да ўсіх членаў, якія не аплочвалі членскіх узносаў выслаць пісьмы. На частку іх адгукніліся і справу ўзносаў урэгулявалі, некаторыя пісьмы вярнуліся таму, што члены БГКТ, пераважна моладзь выехала з Беластока. Прынята пастанову, каб усіх тых, што больш чым два гады не аплачвалі ўзносаў зняць з уліку БГКТ. Нягледзячы на гэта членаў гарадскога гуртка амаль не паменшылася, на месца знятых з уліку прынята ў 1966 годзе 202 асобы і гурток налічваў 730 членаў, у 1967 — 815, і ў 1968 — 977. Разам з праведзенай верыфікацыяй працэнт членаў, якія рэгулярна аплачвалі членскія ўзносы ўзрастаў. На VI з'ездзе БГКТ адзначана, што членскія ўзносы Гарадскога Аддзела ў Беластоку і Гайнаўскага аддзела складаюць палову ўсіх узносаў унесеных у касу ГП БГКТ.



Кастусь Масальскі. Фота: архіў.



Наймалодшыя ўдзельнікі хору. Фота: Кастуся Масальскага.

Вядома, што рэгулярна аплачвалі ўзносы тыя члены, якіх на штодзень хвалявала справа развіцця беларускай культуры і якія ўтрымоўвалі кантакт з Аддзелам, часта сюды заходзілі.

З перспектывы часу балючай выдаецца бязраднасць БГКТ у масавым расшырэнні сваіх радоў у горадзе, дзе прынамсі кожны трэці жыхар — беларус. Несумненна, частка віны прыпадае на долю Праўлення Гарадскога Аддзела ў Беластоку, што не змог устанавіць трывалых сувязяў з адпаведнымі і кампетэнтнымі ўстановамі горада адказнымі за развіццё культуры. Але ці толькі?

Здзіўляючая тут пасіўнасць самых беларусаў і адказных афіцыйных асоб з тых устаноў, таксама ў значнай частцы беларусаў, якія адкрытага напаміну аб беларускасці баяліся больш чым чорт крыжа і толькі на Варшаўскай 11 амаль у канспірацыі, шукалі прыстанішча. Мабыць, такія мы людзі.

Клуб лічыцца добрым тады, калі прыцягвае наведвальнікаў. На штодзень кожны павінен знайсці ў ім нешта для сябе. Калі будзе створана такая атмасфера ніхто не абміне яго, абавязкова забяжыць

 

нават тады, калі мае толькі некалькі хвілін. Гэта можа быць месца сустрэч сяброў, ці месца індывідуальнага правядзення часу ў чаканні на сяброўскую сустрэчу і месца, дзе сустракаюцца дзяўчына і хлопец. З часам сталыя наведвальнікі становяцца знаёмымі і сябрамі. І прыходзяць, нават выпадкова, з надзеяй, што хто-небудзь чаканы таксама прыдзе, або што-небудзь цікавае будзе.

Наш клуб тады быў такі, што прыцягваў многа свежай моладзі. Ветэраны, якія звязаліся з ім ад пачатку існавання БГКТ, таксама знаходзілі сабе месца і справы. Проста клуб жыў акрэсленым жыццём, якое цякло па свойму, выдавалася з вонку, нікім не кіраванае.

А ўся арганізаваная дзейнасць, выдавалася, адбываецца звычайна на фоне штодзённага жыцця клуба, як дапаўненне, каб узбагаціць тую прывабную звычайнасць. Было для каго працаваць і была ахвота рабіць яшчэ больш. Аб тым, што мы змаглі сарганізаваць у тыя часы хочацца падзяліцца з чытачамі.

Галоўнае месца ў нашай дзейнасці займала тое, што называюць у справаздачах не зусім папулярным словам „прапаганда“.

Жылі мы заўсёды справамі пашырэння ведаў аб беларускай гісторыі і культуры, жыццём нашай краіны, знаёмілі людзей з дасягненнем БССР і ўсяго Савецкага Саюза. Усё гэта спалучалася ў адзінае, цэлае. Вось і ўся наша „прапаганда“, аб якой хочацца шырэй расказаць. Адно цесна вяжацца з другім, але для большай празрыстасці неабходна неяк падраздзяляць розныя мерапрыемствы, якія мы праводзілі для дасягнення галоўнай мэты.



**На экскурсіі.** **Фота: Кастуся Масальскага.**

Такое разграніччэнне штучнае, таму, што для правядзення кожнага мерапрыемства выкарыстоўваліся розныя сродкі, аб якіх даводзіцца гаварыць асобна.

Штогод мы ўрачыста адзначалі важныя гадавіны і святы. Да іх належаць: 23 лютага — Дзень Савецкай Арміі, 8 сакавіка — Міжнародны Дзень Жанчын, 1 май — Свята Працоўных, 9 мая — Дзень Перамогі, 22 ліпеня — Свята Адраджэння ПНР, 7 лістапада — гадавіна Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Апрача гэтага наладжваліся святкаванні слаўных гадавін. У гэты перыяд нашай дзейнасці шанцавала нам на юбілеі.

Да іх належаць:

— 50-годдзе Вялікага Кастрычніка
— 50-годдзе Савецкай Арміі
— 50-годдзе Камсамолу
— 50-годдзе утварэння БССР
— 25-годдзе ПНР.

Гэтым важным гадавінам у перыяд, які папярэднічаў ім прысвячаліся лекцыі і гутаркі, наладжваліся выстаўкі, напярэдадні слаўных дат арганізаваліся ўрачыстыя акадэміі, вечары ўспамінаў. Адздел наладзіў цеснае супрацоўніцтва з Савецкай вайсковай часцю і прадстаўнікі яе ўдзельнічалі ва ўсіх афіцыйных мерапрыемствах, прысвечаных слаўным гадавінам. Савецкіх воінаў запрашалі мы, як нашых добрых сяброў і на сустрэчы актыву, якія адбываліся ў больш інтымнай атмасферы. Асаблівае месца займала святкаванне 50-годдзя БССР. Гэтай гадавіне былі прысвечаны шматлікія даклады і фотавыстаўкі, якія адлюстроўвалі дасягненні Савецкай Беларусі.

Трэба адзначыць, што святкуючы кожную гадавіну, стараліся мы спалучыць яе з роднай нам Беласточчынай. Да дакладаў, якія варта прыгадаць належаць: „Удзел беларусаў Беласточчыны ў Кастрычніцкай рэвалюцыі“ ці „Беларусы Беласточчыны ў Чырвонай Арміі“. Пры гэтых нагодах запрашалі мы ветэранаў Кастрычніцкай рэвалюцыі і былых чырвонаармейцаў і яны дзяліліся з намі ўспамінамі аб слаўных гадах. Цікавы вечар успамінаў адбыўся з нагоды 25-годдзя ПНР, на якіх сабраліся ветэраны ПНР і КПЗБ. Варта прыгадаць, што былыя КПЗБ-оўцы належалі да тых, хто адразу зразумеў, што

 

 



**Харысты.** **Фота: Кастуся Масальскага.**

ПНР з'яўляецца прадаўжальніцай ідэй КПЗБ.

Вартыя ўвагі таксама сустрэчы з дзеячкай КПЗБ Галенай Буднік, даклад Васіля Літвінчыка з нагоды 50-годдзя КПЗБ і першамайскія успаміны ветэранаў камуністычнага руху.

Актуальнай тэмай быў у той час V з'езд ПАРП. Было праведзена 6 гутарак у перадз'ездаўскі перыяд і прачытаны Ул. Юзвюком даклад прысвечаны V з'езду ПАРП, а таксама М. Баравіком — даклад аб дзейнасці ПАРП на Беласточчыне.

Варта прыгадаць таксама выступленне Д. Карповіча, прысвечанае партызанскай барацьбе на Беласточчыне і экскурсію па баявых шляхах партызанскага атрада імя Кастуся Каліноўскага.

Святкавалі мы ў Аддзеле таксама і беларуска-патрыятычныя гадавіны. З нагоды 450-годдзя беларускага кнігадрукавання. В Леўчук прачытала даклад прысвечаны пачынальніку кніжнай справы Францішку Скарыне.

Многа месца прысвечана адзначэнню 85 гадавіны з дня нараджэння беларускіх песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Завяршэннем гэтага святкавання была сустрэча, прысвечаная іх жыццю і творчасці.

Жыццю і творчасці беларускага пісьменнік і выдатнага палітычнага дзеяча Цішкі Гартнага была прысвечана змястоўная лекцыя. Урачыста адзначалі мы таксама 75-ю гадавіну нараджэння выдатнага беларускага вучонага і нацыянальнага дзеяча, пасла ў Сейм, стваральніка і кіраўніка стотысячнай Беларускай сялянска-работніцкай „Грамады“ Браніслава Тарашкевіча. Змястоўна расказаў аб выдатнай постаці нашага земляка, гарачага беларускага патрыёта Кастуся Каліноўскага Ю. Валкавыцкі, а В. Леўчук падрыхтавала рэчыталь — „Кастусь Каліноўскі ў беларускай літаратуры“.

З агульнапазнавальных лекцый не лішнім будзе прыгадаць „Археалагічныя доследы ў Беларусі“ Л. Побяла і Ул. Паўлючука аб рэлігійных сектах на Беласточчыне Тэматыка лекцый і гутарак была даволі разнастайная. Мелі яны актуальны, беларуска-патрыятычны і пазнавальны характар. У гадах 1966-68 было прачытана звыш 20 дакладаў і 45 гутарак. Гутаркі на актуальныя тэмы праводзіліся найчасцей перад фільмамі і выступленнямі мастацкіх калектываў.

Урачыстае адзначэнне гадавін суправаджалася мастацкай часткай. Пераважаў беларускі рэпертуар, але калектывы ніколі не забывалі падрыхтаваць паасобныя польскія, рускія ці ўкраінскія нумары.

Мастацкая самадзейнасць лічылася душой у працы Аддзела. Яна ў нас была баро-



**Праўленне. Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.**
**Фота: Кастуся Масальскага.**

метрам нашай папулярнасці як Аддзела, нашым штодзённым клопатам і трывогай. Песціліся мы з ёй як з далікатнай раслінай, мабыць, не зусім умела, але на яе мелі ўпрыў і незалежна ад нас прычыны.

Людзі былі ўчуляныя на адносіны да іх, але тыя, што кіравалі яшчэ больш былі капрызныя. Асабістыя антыпатыі і сімпатыі да кіраўніцтва ГП БГКТ, бумерангам траплялі ў нашу самадзейнасць, а эмоцыі „кіраўнікоў“ выбухалі бомбай у калектыве.

Восенню 1966 года ганарыліся мы новасарганізаваным хорам, які налічваў 28 асоб. Членамі яго былі:

Мікалай Алекша
Ядвіга Андрук
Ніна Богуш
Тэрэса Галкоўская
Яўгіння Гермаля
Уладзімір Годун
Яўген Домань
Люба Дубко
Таццяна Дудзіч
Янка Зданоўскі
Мікалай Іванюк
Уладзімір Іванюк
Люба Кулыгіна
Мікалай Курцэвіч
Яўгіння Мілка
Янка Младзяноўскі
Марыя Сакоўская
Вера Семаковіч
Янка Тарашкевіч
Галіна Хлябіч
Валянціна Цімашук
Галена Шарала
Лявонь Шылёнак
Вяслаў Янарскі
Зоя Ясінская
Сяргей Ясінскі
Яўген Ясінскі.

Гэты хор заявіў аб сабе як прапагатар беларускай песні і фальклору, некалькі разоў пасняхова выступаў, на агляддзе савецкай песні заняў 6 месца і быў узнагароджаны. Мог ён стаць вядомым і папулярным калектывам, але пасля адыходу яго кіраўніка перастаў існаваць.

Нельга не ўспомніць аб невялікай групе моладзі, дарэчы, у большасці палякаў, якую пры Аддзеле груртавала Ядвіга Лапінская. Амаль самастойна ў хуткім часе падрыхтавалі яны праграму, што адлюстроўвала назва гэтага эстраднага калектыву „Самасейкі“, з якой пасняхова выступала. Але гэта малалічная група як хутка нарадзілася, так хутка і перастала існаваць. Нядоўга праіснавала таксама сарганізаваная ў 1966 годзе балетная група, якая выступіла некалькі разоў. Спроды расшырыць склад балетнай групы не далі вынікаў і па гэтай прычыне была яна развязана.

На курсе ігры на акардэоне, які існаваў пры Аддзеле ў 1966-68 гадах займалася кожны год звыш 40 дзяцей членаў БГКТ. Неаднаразова ўдзельнікі курсу выступалі ў мастацкай частцы ўрачыстасцей арганізаваных Аддзелам.

Вялікім поспехам карысталіся выступленні эстрады „Лявоніха“, арганізаваныя ў памяшканні Аддзела. Такіх выступленняў адбылося 11.

Папулярнасцю карысталіся таксама савецкія фільмы недаступныя на нашых экранах. У гадах 1966-68 адбылося каля 130 сеансаў, на якіх пабывала каля 1000 гледачоў. Нажаль беларускіх фільмаў было толькі некалькі.

Да важных галін нашай дзейнасці належыць прапагаванне чытальніцтва беларускай кніжкі і знаёмства з беларускай літаратурай. У бібліятэцы Аддзела было 4610 кніжак, чытачоў 350. Аб'яўлены конкурс „Беларуская кніжка ў руках кожнага беларуса“. На жаль большых эфектаў у пашырэнні чытальніцтва гэта не прынясло. Значна лепш выглядзіць распаўсюджванне выдавецтваў БГКТ, таму, што многія члены лічылі сваім гонарам мець гэтыя выдавецтвы ў сябе, а спрыялі іх распаўсюджванню аўтарскія сустрэчы. Найчасцей выступалі ў нашым клубе Алесь Барскі і Віктар Швед, якія неаднойчы і выступалі з літаратурнымі дакладамі. Пры нагодзе семінараў літаб'яднання „Белавежа“ ў аўтарскіх сустрэчах удзельнічалі ўсе члены аб'яднання.

Не далі большых эфектаў дзве цікавыя ініцыятывы Аддзела. На сустрэчы маладой інтэлігенцыі абмеркавана шырока пытанні адносна працы, месца і ўдзелу інтэлігенцыі ў нашай арганізацыі, але ўсё скончылася на гэтым адзіным абмеркаванні.




**З дакладам з нагоды 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі выступае Уладзімір Юзвюк. Фота: Кастуся Масальскага.**

Сарганізаваны праблемны курс для членаў БГКТ закончыўся пасля трэцяй лекцыі. Заняткі курса пачаліся лекцыяй Ул. Юзвюка „Засяленне і загаспадараванне паўднёва-ўсходніх зямель беластоцкага ваяводства“. Пасля яшчэ лекцыі чыталі: Ул. Паўлючук „Рэлігійныя секты сярод праваслаўных на Беласточчыне“ і В. Склубоўскі „Гісторыя некаторых рэлігій свету“.

Супрацоўніцтва нашага Аддзела з прадпрыемствамі і ўстановамі горада было на штодзень даволі скромным. Тым не менш у звыш 20 установах мы наладжвалі фотавыстаўкі, арганізавалі канцэрты „Лявоніхі“ і самадзейных калектываў, паказвалі савецкія фільмы. Найбольшым поспехам карысталіся канцэрты мастацкіх самадзейных калектываў.

У сувязі з тым, што прыгнятаючую большасць нашых членаў складала моладзь, рэгулярна наладжвалі мы танцавальныя вечарыны. Адыгрывалі яны важную ролю і спрыялі расшырэнню нашых радоў, павялічвалі сімпатыкаў нашай арганізацыі сярод палякаў.

У традыцыю ўвайшлі навагоднія балы, на якіх на жаль не было месца для ўсіх ахвотных.

Прыемным і традыцыйным мерапрыемствам для дзяцей нашых членаў была навагодняя ёлка.

Аддзел сарганізаваў таксама некалькі экскурсій для сваіх актывістаў як напрыклад наведванне месц партызанскай барацьбы каля Валіл і Гарадка, выезд на мітынг дружбы ў Ялоўку, выезды на спектаклі ў Варшаву і наведванне Беларускага Музея ў Белавежы, на будову якога Аддзел і члены ўнеслі са свайго боку грашовы ўклад.

Варта таксама яшчэ ўспомніць аб адным акцэнце, які стварыў больш прыемную і інтымную атмасферу, а якім было адкрыццё ў клубе кафе-бара. Выдаецца невялікая справа, але аказала яна значны ўплыў на самаадчуванне наведвальнікаў клуба.

Асобнае месца займае святкаванне юбілеяў нашай арганізацыі, Аддзела і тыднёвіка „Ніва“. З гэтай нагоды адбываліся сустрэчы з пачынальнікамі БГКТ, актывам. Аб дзейнасці БГКТ расказвалі прадстаўнікі ГП БГКТ. Ю. Валкавыцкі, расказаў аб праблемах рэдагавання, распаўсюджання і чытальніцтва тыднёвіка „Ніва“. Выступалі і іншыя рэдактары.

Даволі прыемнай падзеяй было святкаванне 10-годдзя нашага Аддзела. З гэтай нагоды адбыўся ўрачысты сход, а нашы актывісты сарганізавалі вечар успамінаў. З перспектывы нядоўгага юбілею нашы штодзённыя клопаты набывалі ўзвышаны характар, кожнае дасягненне ўзнёсласць. Гэтым хочацца закончыць свае ўспаміны.

Апошняе слова аддаю першаму старшыні Аддзела Сакрату Яновічу, які гэтаму юбілею прысвяціў свой верш:





**Люба Кулыгіна сярод моладзі — 1966 г. Фота: Кастуся Масальскага.**

На 10-годдзе Аддзела БГКТ
у Беластоку
30 чэрвеня 1968 г.

Сёння дзень твой
Аддзеле —
Бязвусы, дзесяцігадовы.
Ліманадам зап'ю, закушу
пернікам
Размоваю,
Успаміны якія ж?
Брыкаеш
Ад цацкі да цацкі....
Задаволены
На парозе жыцця.
Зычу Табе!
„Сто лят“
Па святочнаму,
Не нашай мовай.
Так у нас павялося.
Расці
На славу дарослую,
Каб
Дарылі букет не папяровы
На Твой шлюб с прыгожай
Справаю.
Што?
Нецярпіцца Табе —
Надакучыла быць
маленькім,
Усё паслухмяным!
Гісторыя наша бачыла
меншых.
„Сто лят!“
Зычыць.

**Кастусь Масальскі**

**Аляксандр Іванюк**

# Не забывай ніколі родны кут

21 чэрвеня 1985 г. — гэта не толькі апошні дзень вясны, але ў жыцці Гайнаўскага белліцэя — апошні дзень вялікай падрыхтоўкі да наступных двух дзён, якія трывала мелі запісацца не толькі ў хроніцы школьнага жыцця, але і ў гісторыі самой Гайнаўкі, падрыхтоўкі да дзён I З'езду выпускнікоў. 21 чэрвеня быў найдаўжэйшым днём працы ў дырэктарскім кабінеце. Стрэлкі школьнага гадзінніка затрымаліся на 20, як на школьны панадворак заехала аўтамашына. Праз хвіліну ў кабінет увайшоў, як заўсёды, з лагоднай усмешкай і вялікай скромнасцю, старшыня Арганізацыйнага камітэта з'езду Анатоль Ахрыцюк. Сустрэча ў дырэктарскім кабінеце была апошняй з шматлікіх сустрэч, якія праводзіліся ў даз'ездаўскі перыяд. На гэтай сустрэчы, найбольш адказныя за ўвесь з'езд асобы — старшыня А. Ахрыцюк і дырэктар А. Іванюк — мелі правесці ацэнку канчатковай гатоўнасці ўсіх элементаў прадбачаных праграмай з'езду.

І ацэнка была праведзена з усёй сур'ёзнасцю і павагай, але ў небывалай форме — замест слоў было маўчанне, маўчанне, якое ў гэтым выпадку сталася найлепшай формай ўзаемаразумення і абмену думак. З вуснаў старшыні Ахрыцюка былі выказаны толькі наступныя словы: „Таварыш дырэктар, дай бог толькі, каб была пагода, а з'езд мусіць нам удасца". І сапраўды так сталася, 22 чэрвеня 1985 г. — першы дзень лета і першы дзень Першага з'езду абсальвентаў Гайнаўскага белліцэя. У гэты дзень стаяла цудоўная пагода, якая дабавачна падкрэслівала важнасць самога здарэння і непаўторнасць яго характару. Першая сустрэча адбылася ў школе. Старуха-школа таксама змяніла сваё буддзённае адзенне на святочную вопратку і ветліва вітала сваіх былых вучняў лозунгам: „Не забывай ніколі родны кут". Сустрэча ў школе мела вучнёўскі характар. Роўна ў дзесяць гадзін першы школьны званок паклікаў усіх на ўрачысты ранішнік, на якім дырэктар Аляксандр Іванюк між іншым сказаў:

„Паважаныя настаўнікі. Дарагія вучні! Шаноўныя госці!

У нас сёння выключная сустрэча, сустрэча з нагоды якой проста нельга падабраць словы, каб можна было пераказаць усё тое, што адчуваем, перажываем, аддаць стан нашай радасці, узрушанасці, хвалявання і трывогі. Дарагія вучні. Здаецца, што гэта было ўчора, як апошні званок абвяшчаў нам канец школьных заняткаў. Тоны апошняга званка заўсёды выклікаюць і вялікую радасць, і трывогу, і смутак. Апусцілі Вы сваю родную школу. Апускаючы яе часта пісалі на школьных дошках:

„Бывай школа!".

„Да мілай сустрэчы, школа!".

Гэтыя словы мусілі зраджаць у нас, настаўнікаў, радасць, але і смутак. Радавала тое, што многія з вас закончылі паспяхова навуку і распачнуць новы этап у сваім жыцці. Але яшчэ больш радавала тое, што, згодна з другім напісам, многія з вас выражалі пажаданне наведаць сваю школу, вярнуцца да сваіх класаў, настаўнікаў, да сваёй школьнай сям'і. Смутак вынікаў з таго, што разам з вашым адыходам — знікаў увесь пульс школьнага жыцця, знікла ўся гэтая непаўторная школьная атмасфера. Але час вашых „канікул" праляцеў. Надыйшоў дзень мілай сустрэчы з роднай школай, якая, як заўсёды, вітае вас сардэчна і цёпла, вітае ад душы і сэрца. Наш з'ездаўскі школьны год лічу адкрытым".

Гэтыя словы і адкрылі тую атмасферу, у якой былыя вучні маглі б прыпомніць свае юнацкія гады, пачуцца вучнямі, прыпомніць рэгулямін школьнага жыцця. Так, рэгулямін, бо праз дзесяць мінут перапынку школьны званок паклікаў іх усіх на ўрокі. І трэба сказаць, што гэтая форма сустрэчы са школай, з былымі настаўнікамі і выхаваўцамі была для ўсіх абсальвентаў найбольш цікавай, прыемнай, мілай і арыгінальнай. Той сам дзень, гадзіна 11[45]. Школьны званок аб'яўляе канец школьных заняткаў. Удзельнікі з'езду пераносяцца ў новае месца, у Дом Культуры „Леснік", дзе роўна ў 12[00] гадзін распачалася афіцыйная частка з удзелам найвышэйшых улад Гайнаўкі і запрошаных гасцей. Сярод іх прысутнічалі:

1. Сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку — Мікалай Козак
2. Сакратар гарадскога камітэта ПАРП у Гайнаўцы — Мечыслаў Охнё
3. Кіраўнік Раённага цэнтра партыйнай працы — Ян Войцюк
4. Старшыня Галоўнага праўлення БГКТ — Аляксандр Баршчэўскі
5. Начальнік горада Гайнаўка — Станіслаў Костэра

6. Сакратар Галоўнага праўлення БГКТ — Кастусь Майсеня

7. Інспектар Асветы і выхавання ў Гайнаўцы — Уладзімір Стэпанюк

8. Намеснік інспектара ў Гайнаўцы — Марыя Зданоўская

9. Кіраўнік Раённай установы ўнутраных спраў у Гайнаўцы — Ежы Зданоўскі.

10. Дырэктар Раённага дома культуры ў Гайнаўцы — Мікалай Бушко.

Урачыстасць адкрыў старшыня Арганізацыйнага камітэта з'езду Анатоль Ахрыцюк. Затым былі праведзены тры даклады. Ян Войцюк выступіў з шырокай інфармацыяй аб палітычных, грамадскіх, гаспадарчых і культурна-асветных пераменах і дасягненнях Гайнаўкі і Гайнаўшчыны на працягу 40-годдзя існавання Народнай Польшчы. Як заўсёды з вялікім зацікаўленнем і ўвагай прысутныя выслухалі выступленне Аляксандра Баршчэўскага, які з вялікай эмацыянальнасцю гаварыў аб працы БГКТ, праблеме нацыянальнага пачуцця сярод беларусаў у Польшчы, беларускім школьніцтве, культурна-літаратурным руху. Зразумела, што вядучым дакладам з'явіўся даклад дырэктара ліцэя Аляксандра Іванюка на тэму гісторыі і дасягненняў школы. У дакладзе, між іншым, сцвярджалася:

„Дарагія абсальвенты, шаноўныя госці! Сёння беларускі ліцэй у Гайнаўцы мае свой надзвычай урачысты дзень, адзначае сваё вялікае свята. У настроі вялікай радасці, узнёсласці, але адначасова сур'ёзнасці і павагі, сустракаемся сёння з важнай нагоды — з нагоды I з'езду выпускнікоў нашага ліцэя. Ідэя сяброўскай сустрэчы зраджалася часта ў паасобных выпускнікоў ліцэя, падносілася пры розных сяброўскіх сустрэчах, на афіцыйных сходах, але ніколі не знаходзіла свайго ажыццяўлення. Асабліва вострa патрэбу арганізацыі з'езду абсальвентаў Гайнаўскага белліцэя пачало стаўляць гайнаўскае асяроддзе, а ў тым ліку гайнаўская арганізацыя БГКТ, членамі якой і з'яўляюцца ў большасці нашыя абсальвенты. З іх ініцыятывы, у плане Гайнаўскага гуртка БГКТ на 1985 год было ўжо канкрэтна пастаўлена заданне аб арганізацыі з'езду. Да рэалізацыі гэтага задання з боку таварыства і школы былі вызначаны канкрэтныя людзі. Першая арганізацыйная сустрэча адбылася ў школе 10 снежня 1984 г., на якой быў пакліканы арганізацыйны камітэт у складзе:

1. Анатоль Ахрыцюк — старшыня
2. Янка Хіліманюк — намеснік
3. Марыя Сакоўская — сакратар
4. Мікалай Нікалаюк — член
5. Аляксей Харкевіч — член
6. Марыя Янчук — член
7. Зінаіда Петручук — член
8. Галіна Грамадская — член.

Такі быў пачатак нялёгкай працы, пачатак шматлікіх сустрэч, дыскусій, сяброўскіх спрэчак, разважанняў, мазольнай працы ў пошуках адрасоў, актуальных прозвішчаў і г.д.

Такі быў пачатак ажыццяўлення высакароднай ідэі — ідэі арганізацыі Першага з'езду выпускнікоў Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Сёння выражаем глыбокую падзяку для ўсіх, хто прыняў на сябе нялёгкі абавязак арганізацыі з'езду і адначасова сваю радасць, што нашая сяброўская сустрэча сталася фактам. Але гэты факт не можа зводзіцца толькі да факту. Сённяшняя сустрэча мае свой глыбокі змест. Ваш з'езд — дарагія абсальвенты — гэта багатая старонка нашай гайнаўскай зямлі, гэта багатая старонка ў дыдактычна-выхаваўчай працы нашага ліцэя, школы, у якой вы набывалі веды, прысвойвалі ўменні жыцця, перажывалі свае поспехі і непаводзіны, радасці і смуткі, перажывалі сваё першае каханне і расчараванні. Так яно было, бо такое ёсць жыццё. Сённяшняя сустрэча — гэта Ваша памяць аб школе, у якой вы аставілі трывалы след і добрую памяць, якая ўносіла і ўносіць вялікі ўклад у працэсе адукацыі маладога пакалення, а асабліва вялікі ўклад на ніве беларускай нацыянальнай меншасці. Першым дырэктарам школы з'яўляецца Базылій Бахар. У арганізацыі школы бярэ актыўны ўдзел настаўніца Ніна Нічыпарук з Янова каля Нарвы, якая ў хуткім часе стаецца дырэктарам. На жаль, гэты ахвярны і адданы педагог трагічна гіне ў 1945 г. у Беластоку ў час выконвання службовых абавязкаў.

У гадах 1945/46 — 1946/47 дырэктарам беларускай гімназіі ў Гайнаўцы быў вядомы дзеяч Васіль Літвінчук, які ў тыя нялёгкія часы з вялікай ахвярнасцю і адданасцю арганізаваў і ўмацоўваў школьнае жыццё і працу ў гімназіі. Вяртаючыся сёння думкамі да тых мінулых дзён, трэба мець поўную свядомасць таго факту, што гэта быў складаны і цяжкі час у жыцці нашай краіны. Гэта ж былі першыя гады пасля змрочнай ночы нямецкай акупацыі, якая спустошыла нас і матэрыяльна і маральна. У гэтым часе часта было так, што не было нічога: ні падручнікаў, ні прылад, ні школьных праграм, а часта нават — крэйды і дошкі. Але знаходзіўся неацэнны скарб — людзі, якія ахвярна і аддана стваралі новую рэчаіснасць — новую, бо сацыялістычную. Так яно было ў кожнай галіне нашага жыцця, так яно было і ў галіне асветы, а ў тым ліку і на ніве беларускага нацыя-

нальнага школьніцтва, якое ва ўмовах Народнай Польшчы набывала сваё права да быцця. Але гэтае права набывалася ў даволі складанай сітуацыі нашага тагачаснага грамадска-палітычнага жыцця. Вынікала гэта з розных прычын, але факт астаецца фактам, што на два школьныя гады г.зн. 1947/48 і 1948/49 Беларуская гімназія ў Гайнаўцы спыняе сваю дзейнасць.

Новы этап у гісторыі школы пачынаецца з 1949 г. Менавіта ў школьным годзе 1949/50 арганізуецца Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання. На гэтым этапе трэба ўспамянуць вялікія заслугі першага дырэктара ліцэя Сяргея Сарокі, пасла ў Сейм, які кіраваў школай да 1957 г. Гэта і быў пачатак таго шляху, па якім ліцэй пачаў крочыць у сваё заўтра больш ужо стабільна, больш упэўнена, выпрацоўваючы паступова свой нацыянальны характар, сваю спецыфіку, сваё аблічча. У гэтым працэсе на гэтым этапе вялікія заслугі паклалі такія педагогі як: Ежы Голуб, Уладзімір Занкевіч, Эліза Кшэўска, Яніна Суйкоўска, Таццяна Сафраненко, Васіль Дзун, Ціхон Антосюк, Мечыслаў Зярко, Міхал Врублеўскі, Параскева Грэчко і іншыя.

I так з бегам падзей надыходзіць важная ў гісторыі ліцэя дата 1953 г. Іменна ў гэтым годзе выходзіць першая (18 асоб) група абсальвентаў. Гэтымі піянерамі былі: Янка Хіліманюк, Тамара Бароўска, Аляксей Харкевіч, Юрка Дацэвіч, Тамара Дулько, Люба Леўчук, Юрка Лісіцкі, Янка Мацкевіч, Ніна Майсеюк, Анна Падлашчык, Уладзімір Ражкевіч, Люба Шахалевіч, Лідзія Шпаковіч, Віктар Шпаковіч, Люба Вашкевіч, Вера Вашкевіч, Янка Варэмюк, Марыя Пекач. То іменна яны першыя, дзеці з бедных сялянскіх хат выбралі Беларускі ліцэй як месца сваёй далейшай навукі, як месца свайго грамадскага авансу, які ва ўмовах народнай улады шырока раскрываўся перад кожным маладым чалавекам, не гледзячы на яго нацыянальнае паходжанне ці веравызнанне.

У наступных гадах ліцэй робіць далейшы крок у сваім развіцці: з кожным годам павялічваецца лік вучняў, прыходзяць новыя настаўнікі, умацняецца стан арганізацыйны школы, узбагачаецца дыдактычная база, выпрацоўваецца ўласны стыль працы і характар. Прыпамінаючы важнейшыя факты і здарэнні з мінулага ліцэя, варта вылучыць школьны год 1957/58. Іменна ў гэтым годзе на дырэктара ліцэя вызначаецца вопытны педагог Анастасія Тропак, якая ахвярна кіруе працай школы да 1968 г. Гэты перыяд прыносіць далейшыя поспехі ў развіцці ліцэя. Асабліва цэнным было тое, што да працы пачалі прыходзіць на настаўнікаў свае выпускнікі. Ад 1963 года ліцэй становіцца школай павышанай арганізацыі, бо ўсе класы з'яўляюцца ўжо падвойнымі (а і б). Такая структура захавалася да сёння. На гэты ж перыяд прыпадае і памятная дата для ліцэя — дзень 19 красавіка 1964 г. З ініцыятывы старшыні былога ПЗГС-у ў Гайнаўцы, вядомага дзеяча Беларускага таварыства таварыша Кастуся Майсені і актывістаў бацькоўскага камітэта К. Грыца і М. Сулімы быў уручаны ліцэю школьны сцяг, які стаўся сімвалам і найвышэйшай вартасцю ў гісторыі і традыцыі школы. Праз наступнае дзесяцігоддзе 1971-1981 ліцэем кіруе Уладзімір Стэпанюк — сучасны інспектар асветы і выхавання ў Гайнаўцы. У гэтым часе плануюцца і рэалізуюцца далейшыя важныя для школы мерапрыемствы, якія падносяць яе аўтарытэт у асяроддзі і павышаюць узровень дыдактычна-выхаваўчай працы.

У заключэнні варта гэтыя рэфлексіі аб гісторыі ліцэя папоўніць рэфлексіямі аб дасягненнях. Да будучага года Гайнаўскі белліцэй апусціла ўжо 33-я група выпускнікоў. У іншым пераліку значыць гэта, што 1466 маладых людзей з атэстатам сталасці або поўнай сярэдняй адукацыяй, якія пайшлі ў жыццё, гэта абсальвенты Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Кім жа становяцца яны ў далейшым жыцці? Гэта ключавое пытанне, якое ўзнікае перад кожным настаўнікам, перад кожнай школай. Адказ на такое пытанне з'яўляецца вельмі складаным, бо адносіцца і да вельмі складанай праблемы — да выхавання чалавека. Тым не менш, калі будзем яго адносіць да выпускнікоў Гайнаўскага ліцэя, то адказ гэты будзе напэўна станоўчы. Бо сапраўды, на аснове ўсіх даных знаходзім поўнае права сцвердзіць, што выпускнікі гэтага ліцэя — гэта ў далейшым добрыя студэнты, сумленныя працаўнікі ў розных прафесіях і на розных становішчах, гэта добрыя бацькі, гэта ўрэшце лаяльныя грамадзяне нашай краіны. Не менш станоўча трэба ацаніць і другую важную дзялянку працы школы — дыдактычны працэс. Наогул вучні нашага ліцэя паспяхова здаюць уступныя экзамены на ўсе вышэйшыя вузы ў Польшчы і ў Савецкім Саюзе. Варта прыпомніць, што першай асобай, якая накіравалася вучыцца ў Савецкі Саюз была абсальвентка першага выпуску, Марыя Пекач. Вялікімі дасягненнямі Гайнаўскага белліцэя з'яўляюцца поспехі ў галіне фізічнай культуры і спорту. Гэта ж дзяўчаты валейбалісткі з Гайнаўкі заваёўваюць першыя месцы ў ваяводстве, а нават змагаюцца з найлепшымі камандамі ў краіне. Салідна працуе настаўніцкі калектыў і ў пазакласнай працы, пашыраючы веды вучняў і рыхтуючы іх да

ўдзелу ў розных конкурсах і прадметных алімпіядах. У алімпіядах па рускай мове і ведаў аб Польшчы і сучасным свеце вучні нашага ліцэя бралі ўдзел у цэнтральных элімінацыях. На асаблівую ўвагу заслугоўвае праца ліцэя ў галіне культурнай дзейнасці. Гэта ж у Гайнаўскім беларускім ліцэі сарганізаваўся і паспяхова дзейнічаў слаўны вакальна-музычны калектыў „Гайтон 1“, які сваім нацыянальным рэпертуарам падкрэсліваў характар школы, расслаўляў яе добрае імя і распаўсюджваў у асяроддзі беларускую песню і паэзію. Актуальна яго традыцыі прадаўжае, можа яшчэ менш знаны, калектыў „Гайтон 2“. Шырока праходзіць таксама выхаваўчая праца на адрэзку развіцця вучнёўскага самакіравання. Гэты працэс адбываецца перш за ўсё ў рамках вучнёўскіх арганізацый, якія для сваёй дзейнасці знаходзяць у школе спрыяльныя ўмовы. Можна было б прадаўжаць пералік розных дасягненняў, але таксама і недахопаў у працы і дзейнасці ліцэя. Аднак магло б гэта страціць сэнс. У заключэнні варта падкрэсліць наступнае:

1. З усіх агульнаадукацыйных ліцэяў, у нашым ваяводстве Беларускі гайнаўскі ліцэй знаходзіцца ў найгоршых умовах.

2. Аднак і ў такіх умовах ахвярнасць і адданасць з боку дырэкцыі і ўсяго настаўніцкага калектыву, прычыняецца да таго, што па сённяшні дзень ліцэй з'яўляецца добра сарганізаванай школай, падрыхтаванай да рэалізацыі ўсіх заданняў, якія стаўляюцца перад сучаснай школай.

3. Сумленная і ахвярная праца прыносіць высокія эфекты на ўсіх адрэзках школьнай дзейнасці.

4. Добрыя вынікі прычыняюцца да таго, што ліцэй цешыцца ў асяроддзі высокім даверам і аўтарытэтам.

**Аляксандр Іванюк**

**Георгій Валкавыцкі**

# Пераклічка

Гэта будзе пераклічка не пад барабанны бой. Прысутнасць адыйшоўшых адчуваю паўсядзённа. Перш за ўсё ў справах, што не закончылі, у ідэях, якія вяшчалі. Хачу, каб і мой пераказ аб іх не быў святочна-афіцыйны.

Тады і пачнем ад будняў нараджэння нашай арганізацыі. У ініцыятыўнай групе, а затым і ў арганізацыйным (даз'ездаўскім) камітэце выключную ролю адыграў Аляксей Казёл. Выводзіўся з-пад Гарадка, але Беласток ужо добра абжыў, меў таксама вялікія сувязі ў павятовых цэнтрах. Ды быў яшчэ і незвычайна напорысты. Апошняя якасць (а хутчэй яе выраджэнне) прывяла потым да канфлікту з актывістамі, але ў час нашага арганізацыйнага нараджэння Аляксей Казёл быў для БГКТ накананаваны лёсам. І з'езд, які адбыўся ў вызначаным тэрміне і прайшоў на ўздыме — заслуга будучага сакратара ГП БГКТ. Ужо на гэтай пасадзе з не меншай энергіяй прыняўся Аляксей Казёл да арганізацыі павятовых аддзелаў, калектываў мастацкай самадзейнасці (славуты беластоцкі хор), завочнай настаўніцкай беларускай студыі ў Беластоку і беларускай кафедры ў Варшаўскім універсітэце. У той жа час вучыўся і збіраў фальклор. А многім з нас усё здавалася, што ГП бяздзейнічае і вінаваты ў гэтым сакратар. Пасля двух год грызні, перасвараны, затаіўшы крыўду, пакінуў Аляксей Казёл БГКТ і больш да нас не вярнуўся. Хоць жыць было з ім цяжка, але няраз сумаваў я па такіх прабіўных дзеячах, якім быў Аляксей Казёл.

І з'езд БГКТ адкрыў Аляксей Казёл, але вёў яго Піліп Кізевіч, намеснік старшыні арганізацыйнага камітэта, грамадавец і член цэнтральных улад ТБШ. Ён і стаў намеснікам старшыні ГП БГКТ. Лагодны і памяркоўны чалавек, хоць патрапіў часам і ўскіпець. Але ў такіх выпадках заўсёды верх браў розум. Так было і напярэдадні І з'езда. Піліп Кізевіч уваходзіў у склад калектыву, які рыхтаваў на з'езд даклад. Як і іншыя прадстаўнікі КПЗБоў-



**Васіль Дзун.**

ска-грамадаўскай плыні, Піліп Кізевіч стаяў на якары гісторыі. Відаць, сарваццa з яго не мог і ўвесь калектыў: выйшаў на даклад на ўрачыстую, як бы ні было, падзею, што мела вызначыць дарогу новай арганізацыі, а своеасаблівы плач над далёкім мінулым і статыстыка крыўдаў, якія на беларусаў звальваліся з усіх бакоў (на жаль, да сённня любім гэту стойку). Вядома, не пахавальным маршам адкрываюць вяселле, даклад быў адкінуты. Калектыўныя аўтары страшна абразіліся, старшыня арганізацыйнага камітэта, які таксама ўваходзіў у гэты калектыў і кандыдаваў на старшыню ГП, адмовіўся ад усіх абавязкаў і не прыйшоў на з'езд. Панеслі эмоцыі.

Абураны быў і Піліп Кізевіч, але праз дзень вёў з'езд і ніхто не падазраваў у якой толькі што ўдзельнічаў буры.



**Станіслаў Вагурка (Дзядзька Лявонь).**



**Пётр Ластаўка.**



**Яраслаў Кастыцэвіч.**

Асабістыя амбіцыі адыйшлі на задні план, перамагла грамадская пазіцыя!

З гэтай пазіцыі глядзеў ён на людзей і справы.

Я ўжо ўспамінаў аб шырокіх сувязях сакратара арганізацыйнага камітэта, а затым і ГП, Аляксея Казла. Без іх куды цяжэйшым быў бы наш грамадскі старт і далейшая хада. Як важна мець у такіх мерапрыемствах, як наша, саюзнікаў у мясцовых уладах. Такія ў нас былі ад самага пачатку. У Бельску быў ім сакратар прапаганды Павятовага камітэта ПАРП Віктар Цыунчык, а ў Гайнаўцы загадчык Аддзела асветы і культуры Павятовай рады нарадовай Мікалай Самоцік. Абодва адыгралі важную ролю ў падрыхтоўчай даз'ездаўскай працы і ў станаўленні БГКТ па мясцах. Абодва сталі членамі ГП БГКТ. У выпадку Мікалая Самоціка гэтае членства працягвалася да апошніх яго дзён. Быў ён вядомым палітычным і адміністрацыйным дзеячам. Плённа працаваў на пасадзе арганізацыйнага сакратара Павятовага камітэта ПАРП, а затым старшыні Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы. Быў папулярны сярод мясцовых актывістаў БГКТ, яны хіліліся да яго, лічыліся з яго апініяй. Маючы ў сваім складзе такога члена і Галоўнаму праўленню БГКТ аблягчалася праца ў найбольш беларуса-



Піліп Кізевіч.

моўным павеце. Усе гэтыя якасці праяўляў Мікалай Самоцік і будучы старшынёй ГП БГКТ. Быў скромным і добразычлівым чалавекам, выяўляў вялікую цярпімасць да сваіх апанентаў — рыса не надта характэрная ў нашых грамадзянскіх адносінах.

Ролю Мікалая Самоціка ў БГКТ, яго высокія якасці дзеяча і чалавека па сапраўднаму зразумелі мы, калі яго не стала.

Актывісты — жыватворчая аснова кожнай арганізацыі. Паасобныя іх рысы і ствараюць характэрнае аблічча арганізацыі. У жывапісным партрэце БГКТ яркімі колерамі ўпісаліся: непаседлівы і самаахвярны энтузіяст гурткоўскай дзейнасці Васіль Дзун з Гайнаўкі, загружаны па вушы грамадскімі абавязкамі Янка Азябла з Пянькоў, неўгамонны Якуб Базылюк з Бельска, адказны Пётр Бадавец з Сямяціч, настойлівы Сяргей Крэйза з Мілейчыц, добрасумленны Іван Кіндзюк з Дубровы, змагар за гарадскія гурткі Васіль Літвінчук з Беластока, гарачы патрыёт Аляксандр Каленік з Ячна і іншыя. Кожны з іх заслужыў на асобны партрэт, ды гэта не пад сілу рамкам гэтай публікацыі. Усе яны павярнулі на той бераг у дарозе, адышлі ад нас з незакончанымі справамі, за якія змагаліся. Іх голас жывы, патрабавальны, чуцен яшчэ на нашых сходах, а ў





Мікола Самоцік.

новых пастановах нашых форумаў я часта прыкмячаю іх нязздзейсненыя пастулаты.

Сярод кагорты дзеячоў, якія адышлі ад нас, але якія сваімі справамі часта грукаюць у нашы дзверы, выдзяляецца Яраслаў Кастыцэвіч, заслужаны педагог, выхавацель цэлых пакаленняў беларускай інтэлігенцыі, бязмежна адданы сваёй школе дырэктар Бельскага беларускага ліцэя. Ганарыўся сваёй школай. Як сёння бачу яго ў доўгіх ботах, як крокамі адмервае зарослую пустазеллем плошчу і радасна аб'яўляе: — „Тут будзе новы будынак ліцэя“. Тады месца, якое выбраў дырэктар пад свой ліцэй, выдавалася мне не вельмі ўдачным. Але Яраслаў Кастыцэвіч глядзеў лепш. Будынак беларускага ліцэя прыгожа ўпісаўся ў панараму горада. Цяпер ён аказаўся зацесны і „дух Кастыцэвіча“ падказвае разбудоўвацца: месца было ім прадбачана. Часта чую ад яго выхаванцаў пра „дух Кастыцэвіча“, які панаваў за іх часоў у гэтай беларускай школе. „Дух Кастыцэвіча“ значыць: любоў да роднага, вернасць традыцыям, дбайнасць пра гонар школы.



Сяргей Крэйза.

Выдатным памагатым дырэктара ў здзяйсненні гэтых ідэалаў быў настаўнік беларускай мовы Ільля Бернат, украінец па паходжанню. Умудраны жыццём, быў ён узорам міжнацыянальных суадносін. У параўнанні з ім, якімі ж блазнюкамі выглядзяць тыя наваяўленыя месіі, якія, ні адсюль ні адтуль, пачуўшы ў сваіх жылах кроў казацкіх атаманаў, намагаюцца ў разбітай падляшуцкай пячы варыць свае галушкі. Думаю, быў бы Ільля Бернат, не чулі б мы пра рэцыдыў старой „атаманскай“ хваробы.

На добры ўспамін заслугоўваюць таксама такія выдатныя настаўнікі беларускай мовы як Мікалай Лебядзінскі са Страшава, Фёдар Скок з Бельска, Арсень Зіневіч з Міхалова і Пётр Анапюк з Бельска. Усе яны прывівалі любоў да роднай мовы і культуры, былі актыўнымі прапа-



Янка Азябла.



Ільля Захаравіч Бернат.

гандыстамі нашага таварыства.

Куды ні круні, балючыя страты. Аляксандр Дзярманскі з Гарадка. Самародны артыст і таленавіты рэжысёр. Спаборніцтва яго з Мушынскай прынесла Гарадку і нашаму асяроддзю два тэатральныя калектывы. Ды якія калектывы! Па ўзроўню гэта былі амаль прафесійныя тэатры. І па дзейнасці таксама. Не абмяжоўваліся аколіцай. Бачыў я тэатр Дзярманскага і ў далёкіх ад Гарадка Сямяцічах з „Валодзіным гальштукам“. І бачыў абуджаныя спектаклем пачуцці ў вачах гледачоў. Не стала Дзярманскага, памерлі ў Гарадку і тэатры.

Падобную ролю вызначыў лёс і Сяргею Філіпюку з Рыбалаў. Малады, адданы настаўнік, згуртаваўшы вакол сябе мясцовых энтузіястаў тэатральнага мастацтва, сваімі пастаноўкамі выйшаў далёка за межы вёскі. Недарэчная смерць абарвала і рыбалаўскі тэатральны ўзлёт. Добра, што ў адным і другім выпадку, мясцовыя мастацкія традыцыі працягваюць песенныя калектывы.

А як песня, то „Лявоніха“ і яе вядучы саліст Аляксандр Каліноўскі. Сцэнічную загартоўку атрымаў у самога Шырмы. Адметны голас, акцёрскія здольнасці, патрапіў заваражыць любую публіку.

І яшчэ адна песня абарвалася на паўдарозе.

У Беластоку паспяхова дзейнічае вядомая ў краіне і



Аляксандр Каліноўскі.

за яе межамі фірма з таямнічай назвай Betesca=БГКТ=BTSK. У польскай абравіятуры заменена толькі на заходні манер апошняя літара, якая, як вядома, чытаецца як „к“. Фірма — наш водгук на тадышнія тэндэнцыі гаспадарчай актывізацыі краіны і пошукі павелічэння фінансавых магчымасцей БГКТ. Стартавала не надта ўдачна, але ўзяў яе ў свае рукі Пётр Ластаўка і паставіў на ногі. Быў скромным варшаўскім рамеснікам, яшчэ да вайны прымаў удзел у беларускім асветным руху, пісаў. І, выявілася, быў дасканалым гаспадарчым арганізатарам. З'ядноўваў людзей добрасумленнасцю і адданасцю грамадскім справам. Быў гарачым прыхільнікам беларускай літаратурнай і мастацкай дзейнасці. Апошнюю „слабасць“ дырэктара „Бэтэскі“ выкарысталі мы разыграць у першакрасавіцкім нумары „Нівы“ за 1962 год. На першай старонцы напісалі (дзеля жарту, вядома), што „як нас паінфармаваў дырэктар „Бэтэскі“, Пётр Ластаўка, на апошнім пасяджэнні Праўлення было пастаноўлена прыйсці з дапамогай мастацкаму руху на Беласточчыне. З гэтай мэтай зацверджана тры прэміі для ўдзельнікаў турніру на кубак „Нівы“ (І месца — 10.000 зл., II — 8.000 зл., III — 5.000 зл.), пастаноўлена найлепшыя калектывы абяспечыць платнымі інструктарамі, а самаму здольнаму самадзейніку ўстанавіць

 

стыпендый для вучобы ў адпаведных мастацкіх навучальных установах (не выключаецца вучоба заграніцай)".

Амбітны дырэктар тут жа прыслаў дэпешу: „Прапанову купляю". І ў гэтым быў увесь Ластаўка. Не паспелі мы разабрацца, сон гэта ці ява, як зверху пачуліся вокрыкі: „Грошы ў балота!" З нашымі начальнікамі было не да жартаў. Скончылася тым, што Ластаўцы вымылілі шыю, а нас прымусілі „адгаўкаць" першакрасавіцкую выдумку. Ведаючы дырэктара „Бэтэскі", я пераканаыны, што сваю „згоду" ён і так правёў бы, магчыма толькі ў іншай форме, але ў гаспадарчым жыцці змяніліся тэндэнцыі і неўзабаве „Бэтэска" перакачавала у кааперацыю працы. Застаўся толькі стары знак фірмы, цяпер толькі дзеля гандлёвай рэкламы.

І наша першакрасавіцкая выдумка ўсё чакае на багатага дзядзьку.

Вось дайшлі мы і да дзядзькоў. Былі яны ў нас, на жаль, багатыя толькі талентамі. Першым з'явіўся Дзядзька Лявонь і сказаў: „Чытачы сімпатычныя (каб вы жылі вечна), дазвольце вас спытаць, ці знаёмы вы з семячкамі?" Вядома, не семячкамі частаваў „ніўскі" гумарыст, гэта была толькі хітрунская прыказка Станіслава Вагуркі, казку трымаў за пазухай. Многа іх падарыў чытачам „Нівы". За іх і быў прыняты ў Саюз польскіх пісьменнікаў. Дзесяць гадоў яго гумарэскі прыцягвалі чытачоў „Нівы". Паяўляліся рэгулярна, з нумара ў нумар. Апошнюю прыслаў з бальніцы, з якой ужо так і не выйшаў. Быў самым папулярным аўтарам „Нівы".

Другі наш дзядзька — Міхась Красоўскі (Квас) норавам не ўступаў першаму, закаранелы рэаліст, да чырвані даводзіў наш мадэрніскі літаратурны маладняк, ды і са старымі любіў за чубы вадзіцца. Прапаведваў яцвяжскую радаслоўную беларусаў Беласточчыны і не верыў у асіміляцыю. Бязлітасна высмейваў вясковых выхадцаў, якія, драпануўшы ў горад, кракадзілавымі слязмі спраўляюць хаўтуры паміраючай вёсцы. Не цярпеў фальшы, бескампрамісна адстойваў свае погляды, за што прыняў на сваю філасофскую галаву нямала шышак. Пра сябе з іроніяй пісаў:

Дзядзька Квас у нас баёвы,
Толькі лёс яго храновы.

Лёс, сапраўды, ставіў яму нямала пастак, але і не быў скупы на славу. Хоць і прыйшла яна да Дзядзькі позна.

На трыццацігадовым шляху БГКТ вырасла нямала магіл і не ўсіх, што спачылі ў іх, выклікаў я на паверку. Гэтыя рыскі да зборнага партрэта патрабуюць працягу.

Не справы праходзяць — мы праходзім.

**Георгій Валкавыцкі**



**Вечар прысвечаны М. Пецюкевічу.**



 

# Нашы браты нашы суседзі

М. Іваноў

## Змітрок Бядуля: адраджэнец і „ордэнаносец”,

Змітрок Бядуля — класік беларускай літаратуры. Гэта факт бясспрэчны. Некаторыя ваяўнічыя прыхільнікі яго творчасці нават ставяць яго на трэцяе месца сярод найбольш выдатных прадстаўнікоў беларускай літаратуры, адразу пасля Я. Купалы і Я. Коласа. Ацэнка гэткая можа і занадта смелая, але не ў невялічкім юбілейным артыкуле вырашаць падобнае пытанне.

Змітрок Бядуля — гэта найбольш вядомы літаратурны псеўдонім Шмуела Плаўніка, які нарадзіўся 25 красавіка 1886 года ў невялічкім беларускім мястэчку Пасадзец, былога Вілейскага павета, Вілейскай губерні. Што ж прывяло ў рады беларускіх адраджэнцаў здольнага яўрэйскага хлопца, які атрымаў салідную класічную адукацыю спачатку ў хедэры*), а пазней у іешыбоце**), і меў даволі неблагія перспектывы працаваць на ніве тысячагадовай культуры свайго ўласнага народа. Што прыцягнула яго да самаадданага служэння народу, які ў той час яшчэ толькі перажываў родавыя пакуты і заявіў аб сваіх нацыянальных амбіцыях амаль апошнім у Еўропе. Каб адказаць на гэтыя пытанні, спатрэбіцца не толькі аналіз духовага вобліку канкрэтнай асобы, але і яснае ўяўленне аб сутнасці яўрэйскага пытання ў Беларусі і аб тых умовах, у якіх жылі тут тагачасныя яўрэі.

Вядома, што роля, якую адыгрывалі і адыгрываюць яўрэі ў сусветнай неяўрэйскай літаратуры, велізарная. Імёнамі Г. Гейне, Ф. Кафкі, А. Жыда, І. Бабеля, Ю. Тувіма і інш. па праву ганарацца іншыя народы, а некаторыя чытачы нават не падазраюць аб іх яўрэйскім паходжанні. Цяжка нават пералічыць усіх яўрэяў — выдатных прадстаўнікоў нямецкай альбо

*) хедар — пачатковая яўрэйская рэлігійная школа;

**) іешыбот — сярэдняя спецыяльная яўрэйская духоўная школа па падрыхтоўцы рабінаў.

рускай літаратуры. У Савецкім Саюзе канца 20-х гадоў нават ужываўся тэрмін „руска-яўрэйская савецкая літаратура“, галоўныя прадстаўнікі якой нагэтулькі актыўна заявілі аб сабе, што нават занялі ключавыя пазіцыі на так званым літаратурным фронце пралетарскай краіны. І. Эрэнбург, І. Сельвінскі, М. Кальцоў, І. Бабель, О. Мандэльштам і інш. рускія савецкія пісьменнікі яўрэйскага паходжання даміміравалі ў тагачасным літаратурным жыцці краіны. Гэта было выклікана тым, што Вялікая кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя ў 1917 годзе вызваліла велізарныя духоўныя сілы яўрэйскага народа, як і іншых народаў былой Расійскай імперыі. Былі скасаваны каля 600 антыяўрэйскіх законаў імперыі, распачалася паслядоўная барацьба з антысемітызмам. Яўрэі атрымалі правa не толькі жыць паўсюдна ў СССР, але і займаць самыя адказныя дзяржаўныя і партыйныя пасады. Цікава, што першы і другі старшыні вышэйшага заканадаўчага органа Савецкай улады (Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта) былі яўрэямі (Л. Каменеў і Я. Свярдлоў).

Але ў той час, калі З. Бядуля прыйшоў у маладую беларускую літаратуру, было яшчэ даволі далёка да нацыянальнага і сацыяльнага вызвалення яўрэяў. Абсалютная іх большасць жыла ў варунках амаль цалкавітай культурнай ізаляванасці ад суніцтва. Начальная сістэма самакіравання і сінагога манапалізавалі кантроль над развіццём духоўных творчых сіл народа. Пераадолець гэты кантроль маглі на пачатку нашага стагоддзя толькі сапраўды таленавітыя, цэльныя натуры, якія адчувалі непасрэдную, непарыўную сувязь з роднай беларускай зямелькай і яе шматпакутным народам. Гэтыя якасці якраз і былі ўласцівыя З. Бядулю.

На працягу стагоддзяў адносіны паміж беларусамі і яўрэямі не заўжды былі роўныя. Беларусь на рубяжы XIX і XX стагоддзяў была найбольш густа заселеным яўрэямі раёнам не толькі Расійскай імперыі, але і бадай што ўсяго свету.*)

Аднак гэтая акалічнасць не спрыяла значнаму росту антысеміцкіх настрояў, нагэтулькі характэрнага для іншых раёнаў імперыі. Антысемізм у беларусаў быў найслабей выражанай з'явай у параўнанні з усімі іншымі славянскімі народамі. Беларусі амаль не закранула паласа антыяўрэйскіх пагромаў 1881-1882 г.г. ды і страшэнныя пагромы перыяду першай рускай рэвалюцыі 1905-1907 г.г. ажыццяўляліся тут альбо царскімі войскамі, альбо небеларускім хрысціянскім нанасельніцтвам і не мелі тут такога паўсюднага і масавага характару, як, напрыклад, на Украіне. Не было тут і сапраўднага генацыду яўрэяў у час грамадзянскай вайны, як гэта назіралася на поўдні краіны.

У Беларусі яўрэі з'яўляліся элементам эканамічнага жыцця рэгіёну і, нават, сваеасаблівымі носьбітамі эканамічнага прагрэсу. Адсутнасць жа ў беларусаў выразных антысеміцкіх настрояў тлумачыцца ў першую чаргу падабенствам паднявольнага становішча абодвух народаў, а таксама наяўнасцю больш пагрозлівых ворагаў беларушчыны.

Прыход З. Бядулі ў беларускі адраджэнцкі рух не адпавядаў агульнай тэндэнцыі развіцця адукаваных слаёў яўрэйскага насельніцтва на пачатку нашага стагоддзя і тлумачыўся ў першую чаргу асабістымі спецыфічнымі якасцямі ягонай індывідуальнасці. Пераважная большасць яўрэйскай інтэлігенцыі ў Беларусі з'яўлялася носьбітамі традыцыйнай яўрэйскай культуры на старажытнаяўрэйскай мове (іўрыш), альбо на гутарковым жаргоне (ідыш) і вызнавала сіяністцкую ідэалогію. Другая, даволі значная частка адукаваных яўрэяў выступала ў якасці аднаго з найбольш дынамічных элементаў русіфікацыі краю. Прадстаўнікі гэтай групы перайшлі ў штодзённым жыцці на рускую мову і нават манапалізіравалі кантроль над сродкамі масавай інфармацыі ў беларускіх губернях, у тым ліку і афіцыйную дзяржаўную прэсу. Былі, праўда, у Беларусі і нямногалікія скаланізаваныя яўрэі. Яўрэй жа, самаахвярны ўдзельнік беларускага адраджэнскага руху — выключэнне з усялякіх правілаў. Таму прыход З. Бядулі ў рады нашых адраджэнцаў быў справай надзвычай нетыповай для таго часу і сведчыць аб шчырым захапленні маладога яўрэйскага хлопца родным беларускім краем і яго народам.

Аб моцы і рознабаковасці таленту З. Бядулі сведчыць і тое, што спачатку ён пісаў вершы на іўрыце, а потым на рускай мове. Рускамоўныя вершы паэта нават друкаваліся ў 1911-1919 г.г. у пецярбургскіх, віленскіх часопісах. Аднак па-сапраўднаму паэт адшукаў сябе толькі на беларускай ніве. У беларускую літаратуру прыйшоў не другародны яўрэйскі ці рускі пісьменнік, у якога не было іншага выхаду і які ў сувязі з адносна нізкім узроўнем, гэтай літаратуры заняў у ёй пачэснае месца, а надзвычай таленавіты ўраджэнец Беларусі яўрэйскага паходжання. Ён сэрцам адчуваў істоту нацыянальных праблемаў беларусаў, ён і сфармаваўся як літаратар разам са станаўленнем беларускай літаратуры.

З. Бядуля ніколі не забываў аб сваім сяміцкім паходжанні, не адмяжоўваўся ад яўрэйства. Не ўдаліся спробы некаторых нашаніўцаў

*) згодна з усеагульным перапісам 1897 г. яўрэі складалі амаль 14% насельніцтва беларускіх губерняў.

 

хрысціць Бядулю. Гэта, на іхную думку павінна было аблягчыць паэту не толькі творчы шлях у беларускай літаратуры, але і зрабіць лягчэйшым ягонае асабістае жыццё. Як вядома, на пярэваратаў, антыяўрэйскае заканадаўства царскай Расіі не расцягвалася. З. Бядуля цвёрда стаяў на пазіцыях своеасаблівага прадстаўніка яўрэйства ў беларускім руху. Ён шмат зрабіў для прапаганды беларускай справы ў яўрэйскім асяроддзі. Значная большасць выступленняў у яўрэйскім перыядычным друку, прысвечаных беларускай справе, належыць пяру З. Бядулі. Ужо ў 1913 годзе ў віленскім часопіце „Ды Юдышэ Вэльт" (Яўрэйскі свет) з'явіўся ягоны першы артыкул на гэтую тэму. У 1913-1915 г.г. ён быў адным з заснавальнікаў і вядучым аўтарам віленскага часопіса „Унзэрэ Гэгэнд" (Наш край), спецыяльна прысвечанага беларуска-яўрэйскім адносінам.

Асабліва ўзрасла роля З. Бядулі як пасрэдніка ў беларуска-яўрэйскіх справах падчас Вялікай рускай рэвалюцыі 1917 г. Менавіта ён быў галоўным прадстаўніком Беларускай сацыялістычнай грамады на перамовах з сіяністамі, у выніку якіх быў выпрацаваны адзіны беларуска-яўрэйскі спісак кандыдатаў на выбарах у Мінскую Гарадскую Думу ў 1917 г. Дарэчы, гэты спісак і атрымаў перамогу. Дзякуючы асабістым намаганням З. Бядулі, на Першым Усебеларускім Кангрэсе ў снежні 1917 г. прысутнічалі і выступалі з прывітальнымі прамовамі прадстаўнікі амаль усіх яўрэйскіх палітычных груповак: сіяністы, поалейцыністы, бундаўцы і сіяністы-сацыялісты. Сіяністы і колейцыяністы нават выказаліся на кангрэсе ў падтрымку ідэі незалежнасці Беларусі.

Пра тагачасныя погляды З. Бядулі сведчыць і ягоная карэспандэнцыя са з'езда сіяністаў Літвы і Беларусі (Мінск 30 снежня 1919 г.) надрукаваная ў газеце „Беларусь". Ён называе сіяністаў „нацыянальнымі героямі", якія ўжо правялі ў Палесціне аграмадную каланізацыйную працу. Стварэнне сіяніцкай дзяржавы на Блізкім Усходзе, на яго думку, адзіны слушны кірунак вырашэння яўрэйскага пытання.

Пасля грамадзянскай вайны З. Бядуля, як і большасць нашаніўцаў, пазітыўна ўспрыняў Савецкую ўладу і прыступіў да паступовага пераходу ў сваёй творчасці на савецкія рэйкі. Блізкі сябар З. Бядулі па „Нашай ніве", З. Жылуновіч, прымае яго на работу ў рэдакцыю газеты „Савецкая Беларусь", на пасаду загадчыка аддзела культуры, дзе ён прапрацаваў амаль 6 гадоў (1920-1926 г.г.). Пазней была праца ў этнаграфічнай камісіі Інбелкульта і ў Акадэміі навук — рэдагаванне, вельмі папулярнага ў 20-я гады, краязнаўчага часопіса „Наш край",



актыўны ўдзел у творчых пісьменніцкіх аб'яднаннях „Маладняк" і „Узвышша". Паступова адбывалася і сацыялістычнае перавыхаванне З. Бядулі. Вядома, што яшчэ ў першым сваім паслярэвалюцыйным выданні — зборніку паэзіі „Пад родным небам" — былі асобныя творы, прасякнутыя незалежніцкім духам. Вульгарыстычная тагачасная крытыка нездарма ахрысціла гэтую кніжку нацыяналістычнай і прыводзіла яе пазней як сведчанне, што З. Бядуля быццам бы, „не адразу адмовіўся ад барацьбы супраць Савецкай улады". Л. Бэндэ нават называў яго „дробнабуржуазным паднявалам..., які распачаў актыўную вайну супраць рабочых і сялян" (Л. Бэндэ. Пра нядаўняе мінулае беларускай контррэвалюцыі — „Маладняк" № 1, 1931, с. 75).

Нягледзячы на падобныя цяжкія абвінавачанні З. Бядуля перажыў не толькі часы змагання з нацдэмамі, але і нацыянал-фашыстамі, трацкістамі, левымі і правымі ўхілістамі і інш. Ягоная жывучасць тлумачыцца па-першае, тым выдатным месцам, якое займаў З. Бядуля ў беларускай літаратуры, а, па-другое, яго ўнікальнай здольнасцю своечасова распазнаваць сутнасць чарговай кампаніі па барацьбе з ворагамі народа і хутка выступіць з самаабвінавачваннямі і, нават, з выкрыццём сваіх былых сяброў па „Нашай ніве". Асабліва актыўна ён праявіў сябе ў пачатку 30-х гадоў, у час барацьбы з так званымі беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі. „Контррэвалюцыйныя дзеянні беларускіх нацыянал-дэмакратаў, — пісаў ён у „Звяздзе" ад 6 снежня 1930 г., — уся іх праграма, маюць адным з сваіх вытокаў буржуазны беларускі нацыянальны рух часоў „Нашае нівы"..., галоўным ідэалагічным кіраўніком яе быў цяперашні фашыст Антон Луцкевіч... Я, былы нашанівец, за апошнія гады паступова перавыхоўваюся ў кірунку няўхільнага набліжэння да задач пралетарскай рэвалюцыі..., рашуча адмяжоўваюся ад беларускіх нацдэмаў, як ад іх дзеянняў, так і ад іх праграмы, якая ставіла курс на стварэнне буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі, на сённяшні дзень буржуазна-фашысцкай Беларусі. Я адношуся да гэтай арганізацыі з непрымірымай нянавісцю і патрабую самай суровай кары нацыянал-дэмакратычным контррэвалюцыянерам".

Палітычныя і творчыя пазіцыі З. Бядулі значна ўзмацніліся ў канцы 32-х гадоў, калі афіцыйная крытыка нечакана залічыла яго ў ранг аднаго з заснавальнікаў метаду сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры. У 1939 г. ён, нават, адным з першых беларускіх пісьменнікаў быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.



 

Творчы шлях З. Бядулі, як і большасці беларускіх пісьменнікаў-адраджэнцаў, якія працавалі ў БССР у міжваенны перыяд, складаны і супярэчлівы. У 30-я гады ягоная мастацкая дзейнасць была цалкам падпарадкаваная задачам існуючай палітычнай кан'юнктуры. Грамадска-палітычная сітуацыя перыяду культу асобы Сталіна выклікала застой у яго творчасці і не спрыяла поўнай рэалізацыі літаратурнага таленту пісьменніка. Найбольш плённым, багатым на сапраўдныя літаратурныя здабычы назаўжды застаўся нашаніўскі перыяд ягонае творчасці, ад якога ён пазней з такой экспрэсіяй, катэгарычна адмаўляўся. Працуючы разам з Я. Купалам у рэдакцыі „Нашай нівы", З. Бядуля не толькі вёў аграмадную рэдакцыйную працу, але і замацоўваўся ў беларускай літаратуры ў якасці сапраўднага майстра слова. „Найлепшыя апавяданні 1912-1914 гадоў, — піша пра З. Бядулю вядомы англійскі літаратуразнавец А. Макмілін. — з'яўляюцца надзвычай цудоўнымі творамі, якія спалучаюць у сабе імпрэсіяніcцкую, рамантычную лірыку з псіхалагічнай сентыментальнасцю, невядомай у тагачаснай беларускай літаратуры". (A. Mc. Millin. 'A. History of Byelorussian Literature. Giessen, 1977, p. 290).

З. Бядуля — нашанівец непадобны майстар малых празаічных формаў. Выдадзеныя ў 1913 годзе „Абразкі" з'яўляюцца своеасаблівым гімнам патрыярхальнаму беларускаму сялянскаму жыццю. Іх рамантычны лірызм, апаэтызаваная любоў да ўсяго роднага, беларускага, сапраўды мастацкі рэалізм сведчаць пра станаўленне пісьменніка як аднаго з вядучых прадстаўнікоў беларускай літаратуры нашаніўскага перыяду. І невыпадкова ранняя творчасць З. Бядулі і сёння натхняе новыя пакаленні беларускіх літаратараў, уплывае на агульнае развіццё нашае літаратуры і мае сваіх паслядоўнікаў. У першую чаргу, тут хацелася б прыгадаць вядучага беларускага пісьменніка ПНР. С. Яновіча.

З. Бядуля — пісьменнік-гуманіст. Ягоная творчасць непарыўна звязана з лёсам беларускім, з рэвалюцыйнымі імкненнямі беларусаў у перыяд шырокага нацыянальнага адраджэння. Ён — спявак абяздоленага і пакрыўджанага народа, які нарэшце знайшоў у сабе сілы ва ўвесь голас заявіць пра свае права „людзьмі звацца". Большая частка творчасці З. Бядулі ўвайшла ў залаты фонд беларускае літаратуры.

Паказальным у гэтых адносінах з'яўляецца адно з ранніх апавяданняў З. Бядулі, „Святое гэта месца...", прысвечанае Івану Луцкевічу і рэдакцыі „Нашай нівы", (захоўваецца правапіс таго часу).

**Мікалай Іванаў**





**Змітрок Бядуля**

# Святое гэта месца!...

**Ахвяруецца**
**Івану Луцкевічу**

*У часе „нелегальнага" жыцця С. П. Івана Луцкевіча ў Вільні ён усе свае багатые зборы старасвеччыны, хаваў у рэдакцыі „Нашае Нівы". Гэтае „святое месца" і навеяла Змітраку Бядулі гэтыя думкі, ахвяраваныя Ів. Луцкевічу, калі Бядуля першы раз быў прыехаў у „Нашу Ніву" у 1912 г.*

*Рэд.*

Ціха...
Якое хараство схавана ў гэтай цішыні!
Якія глыбокія думы насеялі ў ей свае зярняты!
Якія таёмные казкі цудоўнае паэзіі наіграваюць на яе
Нявідзімых струнах нябеснае мэлёдзіі!
Ціха...
Я люблю гэту цішыню...
Я малюся ёй, як нейкаму сымвалу чыстаты...
Здаецца мне, што як Богу трэба было стварыць чалавека, то Яе райскім келіхам сваім набраў матэрыялу з мора цішыні для чалавечае душы...

У часіны самае нямое цішыні, быццам лебядзі сярод хваль усплываюць на вяршыны творчасці думы вялікіх геніяў...

У гэтых часінах цішы гараць у высі праменні розных вер, з каторых людзі снуюць сваё шчасце на зямлі.

У гэтых часінах цішы байцы за ідэю знаходзяць духовую сытасць і пазнаюць, які-мі быць трэба, каб-тка запраўды „людзьмі звацца".

У гэтых часінах цішы з'яўляюцца розные таёмныя мары і спаўняюцца жаданні чыстых сэрц...

Ціха...

Поўнач.

Я сяджу адзін у зале рэдакцыі беларускай газеты „Нашае Нівы" і ўслухіваюся ў гэтую гутарлівую цішыню.

Агонь вялікай лямпы кідае нейкае таёмнае святло спад блакітнага калпака на сцены і шафы.

Жудасна мне...

На сценах вісяць абразы даўнейшых беларускіх князёў, старасвецкія беларускія

вопраткі, шаблі, шаломы і панцыры вякоў XVI сталецця. Розныя тканіны народнай беларускай творчасці, паясы слуцкія, дываны, разьба розная. Музыкальные інструменты — дуда, цымбалы, труба пастырская, жалейка. У шафах ляжаць скарбы мінуўшых гадоў: манэты і мядалі, пячаткі, кнігі беларускае пісьменнасці.

Жывая паэма старыны!...

Глядзяць на мяне вялікіе кнігі з пажоўклымі лістамі.

Узіраюцца з старога палатна ваякі, ганорные, смелые князі.

І жудасна мне робіцца...

* ✲ *

— Ціха...

Крэпка пачынаець біцца сэрца маё ад нейкай абхопліваючай яго святосці. Не вачыма, а самой душою пачынаю я ўглядацца ў даль мінуўшчыны.

Мігацяць прад вачыма маімі старасвецкія пажоўклые вялікіе пэргамэнты святых летапісцаў, і быццам жывые ўстужкі цягнуцца пекные літары, пісаные гусінымі пёрамі. Нехта нявідзімы чытае мне старую гісторыю, і розные абразы старыны малююцца мне:

І беларускіе князі са сваімі дружынамі, у нацыянальные вопраткі прыбраные...

І народ, каторы не сароміцца мовы сваёй...

І паны, каторые з беларускіх кніг чытаюць святые пісанні ў беларускіх храмах...

Быццам карагоды ценяў, праходзяць слуцкія ткачыхі, прыгожые дзяўчыны, зморапые цяжарнай працай. І шэпчуць мне вуснамі сваімі:

— Мы хварбавалі ўзоры на паясох крывёй маладэю сваей!

— Мы блеск сваіх вачэй пералілі ў залатые ніткі тканін!

— Мы навыкручвалі свае пальцы над хітрым тканнём!

— Мы нагнулі крыжы нашые, сядзючы нахіленые без аддыху дні і ночы над панскімі кроснамі!...

* ✲ *

Устае малюнак „Забранага Краю“ з усім трагізмам сваім... Слёзы засцілаюць вочы мае.

Ці-ткі беларусы напраўдзі забыліся б аб асваёй старой багатай культуры ды сталіся нейкім страхаццем, якое рызызём сваім разганяець гусей з чужога аўса?...

Не! — усхапіўся я.

Жывуць у сэрцах пад старым попелам гарачые іскры. Задзьмець вецярок, зганіць стары налёт, і полымя разгарыцца аж да неба, і асвеціцца страшэнная жудасць і цемра. Тады ўбачаць беларусы ланцугі, каторыя цягнуць іх уніз, — усхопіцца, быццам гарачы смаляк, розум і аджывець сумненне!

Шчыры, справядлівы голас пачуецца з аднаго канца свету ў другі канец:

— Аддайце нам нашае!

— Аддайце нам нашае, і тады мы ўсім людзям агульна дамо больш карысці.

— Не засланяйце сонейка ад нас, бо і мы жадаем грэцца яго цяплом, і нам трэба жыць сваім уласным жыццём!

— Мы любім сваю зямельку, мы любім горапашных сярмяжных братоў нашых. Мы любім нашу дзедаўшчыну, і любоў наша не памрэ ўжо! Не памрэць, бо разгарэліся іскры ў вялікае вогнішча!...

* ✲ *

Усхапіўся я.

Ціха...

Толькі цень мой дрыжыць на абразах старых беларускіх князёў... Сур'ёзна пазіраюць іх вочы, і свеціцца ў іх моц і адвага.

— Святое гэтае месца!...

Нейкая гарачая хваля абнімае мяне ўсяго. Божа! Гэта ж тут пачатак адраджэння цэлага народу!...

Гэта ж прамень шчырага парыву беларускіх сыноў!

Гэта ж тут працуець сям'я маладых сіл, каторые не шкадуюць ахвяраваць сваё жыццё, свае шчасце да вялікі Беларускі Народ!...

— Святое гэтае месца, куды з самых глухіх куткоў краю прыходзяць оклічы, каторые з'яўляюцца на страніцах „Нашае Нівы“.

Сам мазалісты аратый апісваець сваё шэрае жыццё.

Пры цяжкай працы дзяўчына пяець сваю родную, зразумелую ёй песню.

У нядзелю шмат хто пакідаець паганую выпіўку і чытаець сваю родную газету, дзе ўсё напісана зразумелай яму мовай.

Ужо пачынаець ён разумець, што і бедны „просты“ мужык маець значэнне ў агульным жыцці ўсіх народаў, што і ён мае вартасць нейкую на свеце, што і на яго зварочваюць увагу і асвечаюць яго розум...

* ✲ *

Ціха ў зале рэдакцыі. Далёка за поўнач. У гэтай цішыні я з нейкай гордасцю думаю:

— Толькі сем гадоў працы, і сколькі паспелі зрабіць тры пастаянныя органы: „Наша Ніва“, „Саха“, „Маладая Беларусь“.

Сколькі пекных кніжак выдалі!

Сколькі здольных паэтаў і пісьменнікаў з'явілася!

Беларускі тэатр... беларуская музыка, песня... беларускіе святы — гульні...

Хутка нарастаюць працаўнікі на нашай роднай ніве.

Усё гэта даець энергію і надзею. Багата наша будучыня! Багаты наш Беларускі Народ! Многа шчырых сыноў ёсць на Зямельцы Яго!

* ✲ *

Святое гэтае месца, бо яно родзіць зярняты прасветы для ўсяго вялікага Беларускага Народу.

**Змітрок Бядуля**





© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

# Голас роднай зямлі

## (КРАЯЗНАЎСТВА)

*Тут жыў Міцкевіч,*
*Тут яшчэ гудуць*
*І веюць ветры тыя,*
*Што калісьці па свеце*
*Неслі хмары яго дум,*
*Пад вокнамі яму*
*шумелі лісцем.*
*(М. ТАНК)*

Навагрудчына — край спрадвечны, блакітны, зялёны, узнёсшыся паміж Нёманам мудрым і Свіцяззю-чараўніцай: край вялікай паэзіі, харства, прыгажосці. У гэтых слаўных мясцінах нарадзіўся і правёў свае дзіцячыя і юнацкія гады карыфей польскай паэзіі Адам Міцкевіч. Цераз усю творчасць паэта праходзяць неўміручыя тэмы і вобразы, навеяныя родным краем. Усё сваё жыццё А. Міцкевіч прысвяціў пачэснай мэце — служэнню Радзіме.

Наш край, як ніякі другі, багаты легендамі і паданнямі. У народзе яго называюць „Беларускай Швейцарыяй“. Калісьці наш вялікі зямляк А. Міцкевіч параўноўваў швейцарскія пейзажы з Навагрудчынай, аддаючы ёй пальму першынства. Ён уславіў родны край ва многіх сваіх баладах і паэмах — непаўторных жамчужынах паэзіі, якія стварылі цэлую эпоху ў гісторыі польскай літаратуры.

Гэтыя моцныя ніці звязалі творчую дзейнасць паэтычнага генія Польшчы з нашай Навагрудчынай, і прывілі нам шчырасць пачуцця да вялікага чалавека, чыё імя складае гордасць палякаў, беларусаў, літоўцаў, гордасць сусветнай літаратуры.

А цяпер пройдземся сцежкамі вялікага паэта... Навагрудак. Горад раскінуўся на высокіх узгорках. На фоне блакітнага неба выразна выдзяляюцца руіны старога замка і стромкія вежы святынь. Калісьці гэта была першая сталіца магутнага і вялікага Літоўскага княства. Каля сваіх сцен жыхары слаўнага горада мужна адбівалі атакі татарскіх полчышч і набегі рыцараў-крыжаносцаў.

Але не толькі бітвамі праславіў сябе горад. Навагрудак вядомы ўсяму чалавецтву тым, што тут рос, вучыўся, набіраўся жыццёвага вопыту і мудрасці слаўны сын сваёй зямлі — Адам Міцкевіч.



Курган бессмяротнасці.

Заходзім у дом-музей паэта, адноўлены на месцы, дзе стаяў дом бацькоў у акружэнні пірамідальных таполяў. Перад уваходам у музей вісіць мармуровая дошка, на якой залатымі літарамі высечаны загад Навагрудскага павятовага рэвалюцыйнага камітэта аб утварэнні ў горадзе Дома-музея Адама Міцкевіча 16 верасня 1920 года.

Гэта былі цяжкія дні для маладой Савецкай рэспублікі: ішла грамадзянская вайна. Напэўна, у перапынку паміж баямі, быў і напісаны гэты загад: „Савецкая ўлада, якая з'яўляецца носьбітам культуры і святла, памятае аб тых, хто на гэтай ніве працаваў, і памяць аб іх, увекавечаную іх працамі, шануе і беражэ“.

У сямі залах музея сабраны шматлікія рэчы і экспанаты, якія раскрываюць жыццёвы і творчы шлях паэта і з'яўляюцца сведчаннем народнай павагі, любві да вялікага паэта братняй Польшчы. Аб гэтым доме заўсёды памятаў наш народ. У гэтае гістарыч-

нае месца — дзяцінства і юнацтва — прыязджалі Марыя Канапніцкая, Эліза Ажэшка, Ігнат Дамейка, вядомыя дзеячы навукі і культуры Польшчы, сын паэта Уладзіслаў Міцкевіч, паэты і пісьменнікі суседняй Літвы.

У першай зале прадстаўлена скульптура М. Робермана, паказваючая паэта ў росквіце творчых сіл і жыццёвага захаплення. На сцяне на польскай і беларускай мовах выпісаны вядомыя словы з паэмы „Дзяды“, дзе паэт звяртаецца да прыгнечаных сялян з заклікам да барацьбы за вызваленне Польшчы і смела гаворыць ад імя ўсяго народа:

*Звацъ мяне — Мільён*
*за людзей*
*Цярпецъ катаванні мушу.*
*Гляджу я на край свой*
*змучаны,*
*Як сын, чыйго бацъку*
*ўздымаюцъ на кола.*
*Я чую пакуты народу,*
*Як маці ва ўлоннях*
*уздрыгванне плоду.*

Макет хутара Завоссе. Тут, у сям'і Мікалая Міцкевіча і Барбары Маеўскай, 24 снежня 1798 года нарадзіўся сын Адам. Гэты макет адкрывае залу, якая прысвечана паказу глыбінь народнай творчасці, тых вытокаў, якія паслужылі будучаму паэту для паэтычнага натхнення. На карце Гродзеншчыны абазначаны месцы, успетыя паэтамі. Тут жа прадметы сялянскага быту: сярпы, косы.

У трэцяй зале сабраны дакументы, якія расказваюць аб віленска-кавенскім перыядзе жыцця паэта. Наведвальнікі знаёмяцца з выкладчыкамі Віленскага універсітэта, які ў тыя далёкія гады з'яўляўся адным з вядомых цэнтраў еўрапейскай культуры. Гэта Ян Снядзецкі, рэктар універсітэта, вучоны і выдатны арганізатар; Яхім Лелевель, вядомы польскі вучоны, правадыр і настаўнік моладзі; Л. Бароўскі, прафесар літаратуры. Віленскі перыяд — гэта пачатак паэтычнай творчасці А. Міцкевіча. Ва ўсё жыццё запомніліся паэту вясёлыя студэнцкія гады, шумныя гарадскія кварталы Вільні, гасціннасць жыхароў Літвы.

У „Крымскіх санетах“ усхвалявана гучыць палымяная любоў да Радзімы, смутак па ёй, непераадоленае жаданне бачыць сваю Радзіму шчаслівай. Сэрца паэта імкнецца да родных мясцін:

*Як ціха! Спынімся!*
*Я жуpавоў лёт чую,*
*Якіх бы нават сокал*
*быстры не ўгледзеў;*
*І, як матыль калыша кветку*
*палявую,*
*Як з шорахам вуж прапаўзе*
*недзе,*
*У гэтай цішыні так чутна*
*усё лаўлю я,*
*Што чуў бы гук з Літвы, —*
*Ніхто не кліча, едзем.*

У гэтай зале прадстаўлены раннія творы паэта, першыя ў польскай паэзіі ўзоры палітычнай вольналюбівай лірыкі: „Песня філарэтаў“, „Ода да юнацтва“. Падтрымліваючы цесную сувязь з філарэтамі (тайнае таварыства, члены якога працавалі на карысць Радзімы, паважалі нацыянальныя традыцыі, родную мову), А. Міцкевіч пасылае ім усе свае вершы. У „Песні філарэтаў“ ён выражае сваё паэтычнае і грамадскае крэда. Паэт гаворыць, што народная песня вышэй за ўсё:

*І не мелі пустое —*
*У чары толькі мёд.*
*Спявайма толькі тое,*
*Што родны склаў народ.*

У „Одзе да юнацтва“ Міцкевіч страсна ганьбіць беззаконнасць, рабства, дэспатызм. У свеце завітае „зорка свабоды“ і засвеціць „сонца збавення“. Тут можна пазнаёміцца з рукапісамі балад і паэм: „Рыбка“ — трагічны расказ аб лёсе сялянскай дзяўчыны, падманутай і зганьбаванай маладым панам, „Свіцязь“ — самаахвярны подзвіг свіцязянкі дзеля выратавання роднага горада.

Асобны куточак экспазіцыі прысвечаны знаходжанню А. Міцкевіча ў маёнтку Туганавічы, яго хвалюючаму і пяшчотнаму каханню да сястры яго сябра Міхаіла — Марылі Верашчака. Тут размешчаны цікавыя дакументы, фатаграфіі, карціны, мэбля з Туганавічаў. Сярод карцін: „Адам Міцкевіч і Марыля Верашчака“ (мастак Люсін), партрэт Марылі (работа Панкевіч).

У 1823 годзе ўзмацнілася палітычная рэакцыя Аляксандра І, праваднікам якой у Літве стаў сенатар Навасільцаў. Паэма „Дзяды“ Міцкевіча выклікала незадавальненне і абурэнне знаці, з'явілася смелым пратэстам супраць прыгонніцкай сістэмы.

Пасля разгрому таварыства філаматаў у 1824 годзе разам са сваімі таварышамі А. Міцкевіч быў высланы ў Расію. З гадамі прабывання паэта ў Расіі знаёмяць нас чацвёртая і пятая залы. А. Міцкевіч хутка зыбліжаецца з дзекабрыстамі, многімі выдатнымі дзеячамі рускага вызваленчага руху і перадавой грамадскай думкі. Рускія пісьменнікі, літаратура, аказалі жыватворны ўплыў на паэзію Міцкевіча, сталі перыядам сапраўднага росквіту яго таленту.

Цесныя вузы дружбы звязалі А. Міцкевіча з нацыянальным паэтам рускага народа — А. С. Пушкіным. Яны пазнаёміліся ў кастрычніку 1826 года, у Маскве. Ідэйная блізкасць, агульнасць мастацкіх і гістарычных інтарэсаў збліжаюць А. Міцкевіча і А. Пушкіна. Вядома, якое моцнае ўражанне аказала імправізацыя Міцкевіча на Пушкіна: „Які геній! Які агонь! Што я ў параўнанні з ім?“ Сучаснікі адзначалі, што імправізаваны верш яго лёгка і выразна вырываўся з вуснаў гучным і бліскучым патокам. Тут была і думка, пачуццё, карціны і паэтычныя вобразы. Можна

было падумаць, што ён натхненна чытае напамяць напісаную паэму.

А. Міцкевіч заваяваў усеагульныя сімпатыі як чалавек і паэт. Вяземскі ў сваіх успамінах адзначыў, што А. Міцкевіч быў вельмі разумны, выхаваны, ветлівы. Пры адценні меланхалічнага выразу на твары, ён быў вясёлага складу, хуткі на меткія і дасканалыя словы. Ён стаў сваім чалавекам у літаратурным салоне княгіні Зінаіды Валконскай, які быў бліскучым месцам збору знакамітых і выдатных асоб таго часу ў Маскве. Ён заўсёды быў на сваім месцы: у кабінеце вучонага, пісьменніка, за вясёлым сяброўскім сталом.

У экспазіцыі прадстаўлены журналы „Сын Отечества" і „Московский телеграф", у якіх былі надрукаваны санеты, а таксама лісты рукапісаў і перакладаў, зробленых У. Казловым. Экспаніруюцца карціны Я. Я. Красоўскага „Міцкевіч у Гурзуфе", В. Ваньковіча „Міцкевіч на гары Айю-Даг". Да апошняй з іх вельмі падыходзяць словы Пушкіна:

*Здесь пел Мицкевич*
*вдохновенный*
*И посреди прибрежных*
*скал*
*Свою Литву воспоминал.*

Глыбокі роздум над лёсам народаў напаўняў вялікіх паэтаў. Аб гэтым сведчыць А. С. Пушкін:

*...Ён паміж намі жыў,*
*Сярод чужога яму племя;*
*злосці*
*Да нас не меў ён у душы;*
*і мы*
*Яго любілі. Мірны*
*і зычлівы,*
*Наведаў ён бяседы нашы.*
*З ім*
*Дзяліліся мы чыстай нашай*
*марай*
*І песняю...*
*...Бывала*
*Ён гаварыў аб будучыні*
*светлай,*
*Калі народы, звады ўсе*
*забыўшы,*
*З'яднаюцца ў вялікую*
*сям'ю.*

У вершы „Помнік Пятру Вялікаму" польскі паэт з асаблівай цеплынёй успамінае свае сустрэчы з А. С. Пушкіным:

*Быў змрок. Накрыўшыся*
*адным плашчом.*
*За рукі ўзяўшыся, стаялі*
*пад дажджом.*
*— Сустрэліся не многа дзён*
*назад,*
*А гаварылі так —*
*як з братам брат.*

У Расіі А. Міцкевіч стварае свае вядомыя творы — паэму „Канрад Валенрод", цудоўныя „Крымскія санеты", рэалістычныя балады „Будрыс і яго сыны", „Дазор", паэму „Фарыс". У музеі экспаніруюцца копіі ілюстрацый да твораў паэта мастакоў А. Андрыолі, М. Косака, старонкі лонданскіх выданняў. „Санеты" з'явіліся творчым дасягненнем А. Міцкевіча. З асаблівым захапленнем іх сустрэлі ў Польшчы і Расіі. В. Г. Бялінскі, прачытаўшы „Крымскія санеты", назваў А. Міцкевіча адным з „найвялікшых сусветных паэтаў".

У 1829 годзе А. Міцкевіч назаўсёды пакінуў Расію. Паэт падарожнічаў па Еўропе, пабываў у Германіі, Францыі, Італіі, Швейцарыі, сустракаўся з вядомымі людзьмі эпохі: Ж. Санд, Н. Гогалем, А. У. Герцанам, М. К. Агінскім. У Веймары, у дзень свайго 80-годдзя, вялікі нямецкі паэт Гётэ, падарыў А. Міцкевічу сваё пяро. Але дзе б ні быў паэт, ён заўсёды сумаваў па роднай Літве, успамінаў свой край дзяцінства і юнацтва — Навагрудчыну. Слухаючы творы Шапэна ў выкананні аўтара, не мог стрымаць слёз — яны напаміналі яму аб цяжкім лёсе польскага народа.

Экспазіцыя шостай залы прадстаўлена картай падарожжаў паэта па Еўропе, фатаграфіямі тых памятных мясцін, дзе ён пабываў.

У 1830 годзе ў Польшчы ўспыхнула паўстанне супраць царскага самадзяржаўя. Паэт ірваўся да месца падзей. Яго патрыятычныя вершы натхнялі паўстанцаў на подзвігі. Але паўстанне было жорстка падаўлена. У вершы „Маціпольцы" паэт звяртаецца да лёсу шматлікіх пакаленняў палякаў. Хоць паўстанне разгромлена, палякі разбіты, але ён будзе прадаўжаць барацьбу пяром. У Дрэздане паэт піша трэцюю частку паэмы „Дзяды". Адам Міцкевіч марыць аб тым часе, калі народы, аб'яднаўшыся, скінуць уладу тыранаў. Звяртаючыся да лепшых сыноў многапакутнага народа Расіі, польскі паэт піша:

*Ці помніце мяне? Я так*
*часта мару аб вас,*
*Загінуўшых у турмах,*
*у Сібіры.*
*Вашы чужаземныя*
*ўспамінаю твары,*
*Што маюць грамадзянства*
*ў маіх думках шчырых.*

У экспазіцыі прадстаўлены старонкі „Польскага пілігрыма" першага органа польскай эміграцыі, рэдактарам якога быў А. Міцкевіч. У чэрвені 1894 года, у Парыжы, выйшла першае выданне паэмы „Пан Тадэуш" — вяршыня паэтычнага майстэрства паэта, дзе спалучаецца глыбокі лірызм, чароўны дар пейзажыста, мяккі гумар.

Апошнія гады жыцця Міцкевіч прысвячае грамадскай дзейнасці: выкладае рымскую літаратуру ў Лазанскім універсітэце, славянскую літаратуру ў Парыжскім Каллеж дэ Франц. Аб беларускай мове польскі паэт гаварыў, што на ёй гавораць каля 10 мільёнаў, яна ўзнікла даўно і выдатна распрацавана.

У дні французскай рэвалюцыі 1848 года ён засноўвае і рэдагуе газету „Трыбуна на-



**Родны дом Адама Міцкевіча.**

родаў", якая смела выступала ў абарону ўсіх прыгнечаных народаў: палякаў, французаў, італьянцаў. Міцкевіч надрукаваў у ёй звыш 100 артыкулаў. Тут вы ўбачыце старонкі гэтай газеты, а таксама кнігі „Адам Міцкевіч" і „Трыбуна люду", выдадзеныя ў 1907 годзе, фотакопіі артыкулаў паэта з аўтографам.

З палітычнымі мэтамі, звязанымі з арганізацыяй польскіх легіёнаў у Турцыі, марачы аб нацыянальнай незалежнасці Радзімы А. Міцкевіч прыязджае ў Канстанцінопаль. Але здзейсніць свой высакародны намер яму не ўдалося. 26 лістапада 1855 года А. Міцкевіч памёр. У 1856 годзе астанкі паэта былі перавезены ў Парыж, на могілкі Монмарансі, а ў 1890 годзе — у Кракаў і пахаваны ў асобнай нішы старажытнага замка Вавеля.

У апошняй, сёмай зале, сабраны матэрыялы, якія расказваюць аб тым, як прагрэсіўнае чалавецтва, народы Савецкага Саюза захоўваюць памяць польскага паэта. Яго імем названы вуліцы ў Вільнюсе, Навагрудку, Брэсце, Гродна, пастаўлены помнікі ў Бургасе, Львове, Познані, Кракаве, Варшаве, Парыжы, Навагрудку.

Пры жыцці паэт марыў аб тым, каб яго творы сталі здабыткам простых людзей працы. У нашай краіне творы Міцкевіча выдаваліся больш сарака разоў агульным тыражом звыш 75 тысяч экземпляраў. Тут вы ўбачыце дарэвалюцыйныя пераклады твораў А. Міцкевіча, зробленыя К. Ф. Рылеевым, А. С. Пушкіным, А. А. Фетам, У. А. Буніным, а таксама перакладчыкамі савецкага перыяду: М. Святловым, Л. Мартынавым, С. Марам. Літоўскія паэты Э. Межалайціс, В. Мікалайціс-Пуцінас, Ю. Марцінкявічус, Э. Матузявічус пераклалі многія творы Міцкевіча на літоўскую мову. Першыя пераклады твораў польскага паэта на беларускую мову зрабіў В. Дунін-Марцінкевіч, затым гэтую нялёгкую але высакародную справу прадоўжылі Я. Купала, Я. Колас, К. Крапіва, М. Танк, Я. Семяжон.

З кожным годам расце цікаўнасць да немеркнучай творчасці вялікага паэта. Частыя госці музея — працаўнікі братняй Польшчы, суседняй Літвы, розных вугалкоў Савецкага Саюза. У 1974 годзе Дом-музей А. Міцкевіча быў узнагароджаны медаллю Польскай Народнай Рэспублікі за работу па прапагандзе польскай культуры і мастацтва. Галоўнае праўленне таварыства польска-савецкай дружбы ўзнагародзіла музей Залатым ганаровым знакам.

З усіх куткоў нашай неабсяжнай краіны і з-за мяжы прыходзяць у музей пісьмы. Вялікая дружба з музеем звязвае Іёзаса Петраускаса з Літоўскай ССР, які перадаў у дар музею мноства выданняў А. Міцкевіча, жыхара г. Вільнюса Я. Багдановіча... Мастак Чапскі прыслаў з Італіі медаль Міцкевіча, адлітую ў Парыжы. Аб неператходнай вялікай любві да паэта сведчыць мноства запісаў у кнізе водгукаў наведвальнікаў. Гэта летапіс усенароднага прызнання вялікаму паэту і грамадзяніну.

А цяпер выйдзем на цэнтральную плошчу. Тут выраслі новыя шматпавярховыя дамы, прадпрыемствы, установы. Гордасць горада — Навагрудскі завод газавай апаратуры. Яго вырабы можна сустрэць як у нашай краіне, так і за мяжой...

Калісьці Адам Міцкевіч марыў аб адкрыцці на радзіме свецкай сярэдняй навучальнай установы, дзе б ён па заканчэнні Віленскага універсітэта мог працаваць. Надзеі паэта збыліся. Сёння Навагрудак — горад новай савецкай культуры, горад моладзі, студэнцтва, інтэлігенцыі. Тут працуюць шэсць сярэдніх школ, 2 тэхнікумы, бібліятэкі, кінатэатры, Дом культуры. З кожным годам горад расце, маладзее, становіцца прыгажэйшым, уздымаецца ўвысь.

Узгорыстымі і звілістымі вуліцамі ідзем далей. Наведаем блізкія сэрцу паэта мясціны; якія былі крыніцай яго творчага натхнення. Вялікі Гётэ сказаў: „Той, хто хоча зразумець паэта, павінен ісці ў яго край“. Геній Міцкевіча сабраў шчырую мудрасць і тонкі гумар беларускага народа, вечна зялёны шум Белавежскай пушчы, непаўторную чароўную прыгажосць легендарнага возера Свіцязь, хуткую плынь сівога Нёмана.

...Замкавая гара. Які цудоўны краявід! Паміж палёў, сенажацей, бароў, бягуць дарогі, у густой зяляніне тонуць вёскі... Тут яшчэ хлопчыкам чуў ён загадкавы шэлест магутных дуброў, звонкую песню салаўя, бачыў рэшткі крэпасных валоў, каля якіх, нібыта, быў пахаваны літоўскі князь Міндоўг. У родным доме ад няні Гансеўскай і старога слугі Блажэя чуў ён фантастычныя апавяданні, якія захаплялі сэрца юнака. Прыходзіў сюды паэт, каб паслухаць меладычныя песні сялянскіх дзяўчат, паглядзець народныя гулянні.

Непадалёку ад Замкавай гары ўзносіцца фарны касцёл раманскага стылю, заснаваны ў 14 стагоддзі літоўскім князем Вітаўтам на месцы язычаскай святыні Перуна. Тут раслі тры велізарныя дубы, якім пакланяліся нашы продкі. На сцяне касцёла золатам высечаны на мармуры словы: „У сценах гэтага касцёла 22 лютага 1799 года ахрышчан Адам Міцкевіч“.

На малым замчышчы — месцы дзіцячых забаў, легенд, паданняў, святаў беларускай песні, мужненні паэтычнага даравання, — насыпан Адаму Міцкевічу Вечны помнік — „Курган бессмяротнасці“. Гэта памяць роднай зямлі.

Непадалёку ад горада, у маляўнічай даліне, раскінулася возера Літоўка. Тут, як гаворыцца ў паданні, бясстрашная дачка літоўскага народа княжна Гражына атрымала перамогу над крыжаносцамі. Яна ахвяруе сваім жыццём для выратавання радзімы, выступіўшы супраць волі свайго мужа, князя Літаўра, у бой з нямецкімі рыцарамі. Яна тайна надзела даспехі мужа і са зброяй у руках, узначаліўшы войска, выехала на поле бою, дзе геранчна загінула. Вобраз Гражыны — адзін з самых чароўных і непаўторных не толькі ў Міцкевіча, але і ў міравой паэзіі.

Паэт часта прыязджаў на возера са сваімі сябрамі: Янам Чачотам і Тамашам Занам. Гэтыя мясціны апявае паэт у паэме:

*Ёсць каля меж гарадскіх*
*недалечка, —*
*На гук ад стрэлу*
*з крыжацкае зброі, —*
*Мала каму тут вядомая*
*рэчка,*
*Што ўецца, блудзіць*
*па лясным спакоі;*
*Вузкая, плыткая, блізка*
*дарогі*





**Адам Міцкевіч і Марыля Верашчака.**



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

*Робіцца рэчка шырэйшай*
*і далей*
*Падае ў возера, тут яе хвалі*
*Пушча вартуе, з камення*
*парогі.*
*Па Карэліцкім тракце*
*прыбываем у Руту.*
*...Ля самага гаю*
*Вербы ўзнялі свае шаты,*
*Рэчка віецца далінаю*
*з краю,*
*Мосцік над рэчкай гарбаты.*

Маляўнічыя віды праносяцца перад намі. Каласіцца жыта, пшаніца, цвіце лён, зелянеюць лугі...

Вось і Шчорсы. Тут жывуць шчырыя і працавітыя людзі, якія заўсёды ахвотна сустракаюць гасцей. Успамінаюцца мары герояў паэта выступіць у паход, калі „За Шчорсамі запаліцца факел дня". Накіруемся ў стары цяністы парк. На яго ўскраіне расце таўшчэзны дуб, які мясцовыя жыхары называюць „дубам Міцкевіча". Клапатлівыя гаспадары ўмацавалі старое дрэва ланцугамі, абнеслі агароджай. Пад ім А. Міцкевіч адпачываў пасля працы ў бібліятэцы графа Храбтовіча, любаваўся велічнай панарамай Нёмана.

*Где струи прежние, о Нёман*
*мой родной?*
*Как в детстве я любил их*
*зачерпнуть горстями!*
*Как в юности любил,*
*волнуемый мечтами,*
*Ища покоя, плыть над*
*зыбкой глубиной!*
*О Нёман, где они, твои*
*былые воды?*
*Где беспокойные, но*
*сладостные годы,*
*Когда надежды все*
*в груди моей цвели?*
*Где пылкой юности*
*восторги и обеты,*
*Где вы, друзья мои, і ты,*
*Лаура, где ты?*
*Всё, всё прошло, как сон...*
*лишь слёзы не прошли.*

Тут А. Міцкевіч задумаў напісаць паэму „Гражына", дзе ўславіў адзінства славян і літоўцаў у іх агульнай барацьбе супраць нашэсця псоўрыцараў. Гэтай тэме прысвечана і другая паэма „Канрад Валенрод". Цэнтральны герой паэмы — літвін Альф, палымяны літоўскі патрыёт. Марачы аб вызваленні роднай краіны ад іншаземнага ярма, Альф пад імем Канрада прабраўся да рыцараў — крыжаносцаў, увайшоў да іх у давер'е і быў выбраны главою ордэна. Сваімі дзеяннямі ён наносіць вялікі ўрон ворагам, але сам гераічна гіне. Як сапраўдны патрыёт, ён аддае сваё жыццё за родную зямлю. Сіла мастацкага слова, рэльефнасць вобразаў, акутаных рамантычным туманам, карцін жыцця і прыроды, нарысаваных рукою сапраўднага майстра, хвалюе чытача.

Прыцягвае увагу, напісаны з незвычайнай сілай вобраз каханай Альфа — Альдоны, якая навечна замкнулася ў башні і адтуль вяла тайныя размовы з каханым і настаўнікам Альфа — літоўскім





вайдэлотам (жрацом, паэтам, прадсказальнікам), які хаваўся пад іменем манаха Гальбана, падтрымліваючы задумы Альфа. На ўзроўні лепшых твораў міравой паэзіі знаходзяцца ўступныя часткі паэмы як „Песня вайдэлота" і „Аповесць вайдэлота", балада „Альпухара" якую Канрад-Альф прапеў перад рыцарамі.

Праз Карэлічы, Гарадзішча мы накіроўваемся ў Завоссе. Уздоўж дарогі задумлівыя вербы, бярозы, яблыневыя сады.

Мястэчка Цырын. Адам Міцкевіч са сваім сябрам Янам Чачотам заязджаў сюды да знаёмых. Ян Чачот, равеснік і зямляк паэта, быў адным з першых беларускіх этнографаў і фалькларыстаў 19 стагоддзя. Сяброўства паміж імі завязалася ў Навагрудскай дамініканскай школе і працягвалася многія гады. У перыяд сумеснага навучання ў Віленскім універсітэце, яны прымалі актыўны ўдзел у студэнцкіх арганізацыях. Для многіх студэнтаў яны былі прыкладам чалавечай годнасці самаадданага служэння радзіме. Адам Міцкевіч і Ян Чачот былі звязаны паміж сабою ніцямі інтымных узаемаадносін. Ян Чачот цаніў і шанаваў паэтычныя здольнасці А. Міцкевіча. А кожны новы твор сябра сустракаў радасна. У дзень 20-годдзя з дня нараджэння Міцкевіча, Я. Чачот прысвяціў свайму сябру песню на беларускай мове „Едзеш, міленькі Адам", якая выражала пачуццё сяброўскай адданасці і павагі:

*Без цябе ўсё тут смутна,*
*Аб табе плача гай,*
*І рэчкі плывуць мутна*
*У жалобе ўвесь край.*

У адным са сваіх пісьмаў да Я. Чачота, А. Міцкевіч пранікнёна піша: „Што датычыцца дружбы, то, клянуся святым імем і ўсім, што мне было дорага і што цяпер найбольш дорага, я лічу цябе такім сябрам, якога толькі можна жадаць; я не хачу і не магу мець большага, я ні да каго не быў такім прыхільнікам і нікога не любіў у такой меры".

Пройдзем далей па прасёлачнай дарозе. Навокал раскінуліся струмкія, бялюткія бярозкі. Невялікі пад'ём па калдычэўскай дарозе і вось каменны абеліск, на ім блішчаць словы: „Тут, у Завоссі, 24 снежня 1798 года нарадзіўся вялікі паэт Адам Міцкевіч". Вакол растуць каштаны, ліпы, яблыні. Акуратныя палявыя дарожкі пасыпаны жоўтым пяском. Гэта месца нараджэння паэта. Дом, у якім нарадзіўся паэт, складаўся з двух палавін, пакрыты саламянай страхой. Тут жа быў свіран, хлеў, калодзеж. Бацька паэта Мікалай Міцкевіч з'яўляўся прадстаўніком дробнапамеснай шляхты. Гэта быў адукаваны чалавек: любіў паэзію, сам пісаў вершы. Мікалай Міцкевіч працаваў адвакатам пры Навагруд-

скім судзе, дзе карыстаўся славай заступніка прыгнечаных сялян і дробнай шляхты. Калі будучаму паэту споўнілася тры гады, бацька пераехаў з сям'ёю ў Навагрудак. Пазней, юнаком, А. Міцкевіч прыязджаў у гэтыя мясціны да сваякоў, любаваўся прыродай, хадзіў з сялянскай моладдзю на паляванне, а ў ноч, на свята Купалы, шукаў расцвіўшую, чароўную папарацькветку. Тут, на беразе Калдычэўскага возера, напісаў паэт першыя строфы балады „Ткай або выпрабаванне дружбы", якую закончыў яго сябра Эдвард Адынец.

Па шляху Міцкевіча праязджаем гарадскі пасёлак Гарадзішча, вёску Карчовую. Лес расступаецца перад намі і мы бачым старадаўні парк. Гэта Тугановічы. Вось і шэсць высокіх ліп, якія растуць, як казачныя, амаль з аднаго кораня, ствараючы незвычайнай прыгажосці альтанку. Калісьці, пад іх густымі шатрамі, сустракаліся Адам Міцкевіч і Марыля Верашчака. Цёплае пачуццё сапраўднага кахання да яе паэт пранёс праз усё жыццё і сваю творчасць. Гэтыя старыя дрэвы, як магутныя веліканы, горда ўзносяцца над паркам. А побач, як прадаўжэнне жыцця, растуць зусім малыя дрэвы. Знаходзячыся на чужбіне, паэт сумуе па гэтых дрэвах:

*Родныя дрэвы! Калі неба*
*дазволіць,*
*Каб да вас я вярнуўся, да*
*сброў сваіх старых,*
*Ці знайду яшчэ вас?*
*Яшчэ вы жывыя?*

Многае пабачылі гэтыя дрэвы на сваім жыцці... Вясной тут распускаецца духмяны бэз, белая акацыя, каштаны, цвітуць яблыні. Звесіўшы галіны, стаяць над сажалкай вербы. Непадалёку ад альтанкі знаходзіцца падмурак дома, дзе жыла Марыля Верашчака са сваімі бацькамі. Калісьці А. Міцкевіч пасадзіў у парку бярозку. Усе прыязджаючыя шукаюць гэтую бярозу. У парку іх многа. Але як адшукаць тую бярозу, якую пасадзіў паэт сваімі рукамі?!

Аб гэтым у народзе жыве такая легенда: аднойчы, пры сустрэчы, Адам сказаў Марылі: „Мы ніколі не будзем з табою шчаслівыя". Паэт выразіў, што лепшай сведкай іх няшчаснага кахання будзе бярозка, росшая побач. Ён выкапаў яе і пасадзіў у сялянскі кошык. „Няхай яна вырасце вялікай і стане памяццю аб тых часінах, калі дзяўчаты выходзілі замуж без кахання", — сказаў паэт. У гэтую ноч Марыля доўга плакала і хацела знішчыць бярозку. Але ці можна вырваць з сэрца вялікае каханне?! Раніцай Марыля прыйшла на месца спаткання і абсыпала кошык зямлёй, а затым прыходзіла сюды часта, беражліва даглядала бярозку. А яна набірала сілы, пусціла глыбока карэнні, стала высокай, танюткай, пышнай, як дзяўчына на выданні.

Прайшло некалькі гадоў і многае змянілася. На апошнім спатканні Марыля падае Адаму галінку і ў доўгай алеі знікае, як маланка. Марыля выходзіць замуж за багатага графа Путкамера, а Адам назаўсёды пакідае родны край.

А бярозка расла... Яна стала вялізным і магутным дрэвам. Галінкі яе былі доўгімі, танклявымі, як дзявочыя рукі, а лісцёвае ўбранне — раскошнае, бліскучае, як дзявочыя косы. А калі ішоў дождж, то людзям здавалася, што бяроза плача, і, як закаханая дзяўчына, пралівае свае слёзы па сваім дарагім каханым.

Ішлі гады, а бяроза не баялася вятроў, бур. Перад першай сусветнай вайной яна пачала павольна сохнуць, нягледзячы на стаpанні лесніка. Аднойчы нямецкі снарад параніў бярозку. І пацёк з яе горкі, ап'яняючы сок, які пілі закаханыя пары, каб назаўсёды стаць шчаслівымі. А затым бяроза загінула.

Многа прыгожых дзяўчат наведвае парк і шукае бярозу, не ведаючы, што яе няма. Мясцовыя хлопцы ахвотна расказваюць дзяўчатам легенды і паданні аб ёй. „Бяроза расце тут, толькі ўмейце яе адшукаць і яна прынясе вам шчасце і радасць кахання", — гавораць яны.

Праз парк, па сцяжынцы, пройдзем да глыбокай лагчыны, акружанай калінамі, палямі, дзе ляжыць велізарны камень. Ён напамінае нам трыбуну. Тут часта збіраліся члены вольналюбівага таварыства, якія пакляліся прысвяціць сваё жыццё радзіме, навуцы, народу. Сярод іх — і Адам Міцкевіч. І цяпер, у народзе, гэты камень называюць (каменем філарэтаў).

Па ўзгорыстай дарозе накіроўваемся ў пасёлак Варонча. Любуемся старажытным дубам — старэйшым жыхаром беларускай прыроды. Тут, пад густым шатром, часта адпачываў Адам Міцкевіч, знаходзячы ад спакоты ўкрыццё.

...А вось і Плужынскі бор. Сярод векавых соснаў і дубоў блішчыць асляпляльнай гладдзю непаўторнае возера Свіцязь.

*Калі Навагрудскія ўбачыш*
*прасторы,*
*Палеткі, лугі, верас*
*нізкі, —*
*Каня супыні між*
*плужынскага бору,*
*Каб глянуць на возера*
*зблізку.*
*Гушчар лесу пахне*
*чаборам і мёдам,*
*Жывіцы настоем смалістым.*
*Там возера Свіцязь, як*
*шыбіна лёду,*
*Ляжыць паміж дрэваў*
*цяністых.*
*Калі пад'язджаеш начною*
*парою*
*І станеш да возера*
*тварам, —*
*Мігцяць зоркі ў небе,*
*мігцяць пад табою,*

 

*Мігціць там і месяцаў пара.*
*Не ведаеш, — з-пад ног,*
*можа, гэта шкляная*
*Ідзе аж да неба дарога,*
*Ці неба шкляное скляпенне,*
*схіляе*
*Табе аж пад самыя ногі!*
*І той, другі, бераг убачыць*
*не ў сілах, —*
*З вышынямі возера зліта.*
*Нібыта вісіш ты на*
*птахавых крылах*
*У нейкай бяздонні блакіту!*

Навокал цішыня. Над вадою звісаюць танклявыя галінкі бяроз, стаяць магутныя дубы, грабы, яліны і сосны. А хвалі ласкава напаўзаюць на бераг, коцяцца назад... Якая непаўторная прыгажосць! Мноства легенд і паданняў склаў пра возера Свіцязь наш народ. Адна з іх расказвае, што на месцы возера быў слаўны і багаты горад, дзе правіў мудры князь Туган, каласілася пшаніца... Калі падступіў вораг да сцен літоўскай сталіцы Навагрудка, князь Туган выступіў на дапамогу кн. Міндоўгу. У горадзе засталіся толькі адны жанчыны. На плошчы яны наварылі кацёл яду, які тут жа пілі, каб не аддацца на здзек варожы. Па іх просьбе горад быў затоплены, а безабаронныя дзяўчаты ператварыліся ў белыя мармурныя лілії.

Другія легенды расказваюць аб з'яўленні ў возеры русалак, якіх завуць свіцязянкамі. Апоўначы яны выплываюць з возера і зачароўваюць юнакоў, абяцаючы ім вечнасць кахання, пацехі, жыцця...

У гэтым маляўнічым кутку А. Міцкевіч знайшоў сваё творчае натхненне, а народныя легенды і песні гулка і звонка прагучалі ў бессмяротных баладах і паэмах.

У пачатку чэрвеня сюды прыязджае моладзь Навагрудчыны, каб адзначыць свята беларускай песні. І гучыць над прасторамі возера музыка, разносяцца раздольныя песні, якія так любіў слухаць паэт. Затым іх змяняюць новыя песні — песні шчасця, працы, міру.

Хараство Навагрудскага краю, яго легенды і казкі назаўсёды застануцца для нас неўміручымі.

Праходзяць гады, але вечна гучыць над краем бессмяротны і мужны голас Адама Міцкевіча — паэта і патрыёта, сына роднай зямлі.

**Янка Лісоўскі,** выкладчык



# ЛІТАРАТУРНЫЯ ГОНІ



**„Белавежцы“.**



 

**Віктар Швед**

## *АЙЧЫНА*

*Мая тут вёска з роднымі бацькамі,*
*Я тут якраз на белы свет прыйшоў.*
*Тут першы раз сказаў я слова: мама,*
*Ды многа іншых з роднай мовы слоў.*

*Я рос і вырас на айчыннай глебе,*
*Карэнні тут глыбока запусціў,*
*Карміўся тут сваёй Айчыны хлебам,*
*Хлеб гэты ўласным потам акрапіў.*

*Да працы тут я здабываў пашану,*
*І здабываў пашану да людзей.*
*І роднае любіць стаў вельмі рана,*
*Любоў нашу ў глыбі сваіх грудзей.*

*Глыбока зросся я з Айчыны лёсам,*
*У Айчыны лёсе — ёсць жа лёс і мой.*
*Няшчасці пасылалі тут нябёсы —*
*З Айчынай мы жылі адной бядой.*

*Айчыну я нашу заўсёды ў сэрцы,*
*Яна ж адна, няма другіх айчын.*
*Бацькі мае ў айчыннай спяць зямельцы*
*І ў зямлі гэтай будзе мой спачын.*

*Тут першы крок і першая сцяжына*
*І першая за плугам баразна.*
*Таму так дарагая мне Айчына*
*І для яе я выгару да дна.*

## *ЗАПАВЕТ*

*Чым далей я ад Айчыны —*
*Тым Айчына мне бліжэй.*
*Тут у кожную часіну*
*Думаю аб ёй няспынна,*
*Мне яна ўсё даражэй.*
*Родная яна, як Маці.*
*Мне няма другіх айчын.*
*Мне Айчына — ўсё багацце,*
*Мне яе не адцурацца,*
*Я — Айчыны верны сын.*



## *МОЙ НАРОД*

*Тады ў народа ёсць паэты,*
*Калі ў паэтаў ёсць народ.*
*Р. Баравікова*

*Калі я еду на Радзіму,*
*Мінаю толькі Беласток,*
*Знаёмых мноства прад вачыма,*
*Мяне вітаюць тут здалёк.*

*А чым бліжэй бацькоўскай хаты,*
*Тым даражэй мне родны кут.*
*У цягніку нат і дзяўчаты*
*Мне прапануюць месца тут.*

*Я адмаўляюся, вядома,*
*А сэрца б'ецца гарачэй*
*Прыемна мне, што я ўжо дома,*
*Што я сярод сваіх людзей.*

*Што я заўжды тут у пашане,*
*Так у старых, як і ў малых,*
*Што любяць тут мяне сяляне*
*За гэта, што люблю я іх.*

*А да народа, да Айчыны*
*Любоў мая мацней штогод.*
*Свайго народу я часціна,*
*А ў маім сэрцы ўвесь народ.*

## *НЕКАТОРЫМ ІНТЭЛІГЕНТАМ*

*Сіла народа ў яго інтэлігенцыі.*
*А. Чэхаў*

*Пераязджаем з вёскі ў горад*
*І вёску забываем скора.*
*І вельмі хутка гарадскою*
*Мы пакрываемся лускою.*
*Чым лепш апрануты, больш сыты,*
*Тым роднае хутчэй забыта.*
*Так дасканала нам, вядома,*
*Што забываем нават, хто мы.*

## *МЫ, БЕЛАРУСЫ*

*Мы, беларусы,*
*Мы — народ такі,*
*Ахвотна забываем,*
*Што мы, хто мы.*
*Р. Барадулін*

*Мы, беларусы, мы народ такі:*
*(А гэта стала кожнаму вядома,*
*Былі такімі мы ўжо праз вякі),*
*Ахвотна забываем, што мы, хто мы.*

*Мы, беларусы, мы народ такі:*
*Калі пераязджаем з вёскі ў горад,*
*Становяцца чужымі землякі,*
*Мы найчасцей іх забываем скора.*

*Мы, беларусы, мы народ такі:*
*Ад роднага мы ўсё імкнемся недзе...*
*Усе суседзі — нашы сваякі,*
*Бліжэйшае ўсё тое, што суседзяў.*

*Мы, беларусы, мы народ такі:*
*Што, як сказаў паэт, людзьмі мы сталі.*
*Нам родныя цаніць трэба куткі,*
*Каб нас усе цанілі, шанавалі.*

## *ДЗЕСЯЦЬ ЗАПАВЯДЗЕЙ*

*Мову родную беражы.*
*Мовай роднаю даражы.*
*Мову родную шануй.*
*Мовай роднаю не гандлюй.*
*Мову родную любі.*
*Мову ў сэрцы май глыбі.*
*Мовы роднае не кідай.*
*Мову дзецям перадай.*
*Мовы не аддай на здзек.*
*З мовай роднаю жыві век.*



## *СЛОВА, ТЫ РОДНАЕ СЛОВА*

*Слова — маё дарагое.*
*Слова — радзіўся з табою.*
*Слова — нясу праз жыццё.*
*Слова — не йдзі ў забыццё.*
*Слова — ў табе закаханы.*
*Слова — з табою з'яднаны.*
*Слова — нашу цябе ў сэрцы.*
*Слова — не будзь ў паняверцы.*
*Слова — к табе я малюся.*
*Слова — цябе не зракуся.*
*Слова — ты клятва мая.*
*Слова — з табой заўжды я.*
*Слова — што іншым дару.*
*Слова — з табою памру.*
*Слова — ты роднае слова,*
*Мая беларуская мова.*

## БЕЛАСТОК

*Тут шмат жыве майго народу,*
*Сустрэнеш сябра тут заўсёды,*
*Калі прыехаў незнарок.*
*Ты, Беласток мой, Беласток!*

*На тваёй глебе урадлівай*
*Ўзыходзіла, расла нам „Ніва“,*
*Нажалі не адзін снапок.*
*Ты, Беласток мой, Беласток!*

*На вуліцах старых і вузкіх*
*Рух нарадзіўся беларускі,*
*Там не адзін зрабіў я крок.*
*Ты, Беласток мой, Беласток!*

*Я аб табе заўсёды мару,*
*Маім ты сэрцам уладаеш,*
*Цябе вітаю я здалёк.*
*Ты, Беласток мой, Беласток*

## *МАЯ ЗЯЛЁНАЯ ЗУБРОВІЯ*

*Мая зялёная Зубровія,*
*Ты ўжо стаяла над магілаю,*
*Цябе хаваць былі гатовыя,*
*А ты ўваскрэсла з новай сілаю.*

*І быццам фенікс адрадзілася,*
*Квітнееш краскай васільковаю.*
*Ты сёння зноўку мне прыснілася,*
*Мая зялёная Зубровія.*

*Я над адвечнаю дубровою*
*Пачуў зноў песні салаўіныя.*
*Мая айчынная Зубровія,*
*Цябе ўслаўляць хачу няспынна я.*

*Ты пакарай варагыні новыя,*
*Стварай каштоўнасці багатыя.*
*Ты несмяротная Зубровія,*
*Шчаслівай будзь ты і крылатаю.*

## *КВІТНЕЙ, РАДЗІМА!*

*Квітней, мая Радзіма,*
*Квітней і багацей,*
*Каб сталася магчымым,*
*Тут шчасце для людзей.*

*Каб мы жылі спакойна*
*І лепей з кожным днём,*
*Каб больш ніколі*
*Не нішчылі наш дом.*

*Каб ганарыўся працай*
*Стваральнай наш народ,*
*Квітнець і красавацца*
*Радзіме з года ў год!*



## *У ГЭТЫМ НАШАЯ ВІНА*

*Мы трацім словы, мы нямеем,*
*І хвалімся, што ўжо не ўмеем*
*Так гаварыць, як наша маці*
*І дарагую песню трацім.*

*С. Грахоўскі*

*Чыя, скажыце, тут віна,*
*Што з беларускасці да дна*
*Сябе мы выпаласкаць хочам?*
*Хто вінен, што ад родных слоў*
*Да непісьменнасці ізноў*
*У беларускай мове крочым?*
*Хто будзе вінаваты тут,*
*Што мы плюем на родны кут.*
*Адкуль выводзімся, паходзім?*
*Адкуль бярэцца гэта ў нас,*
*Што мы ніжэйшы быццам клас,*
*Што ты найгоршы, наш народзе?*
*Скуль набылі манер такіх,*
*Што проста ліпнем да другіх*
*І з роднай уцякаем хаты?*
*Ды трэба праўду тут сказаць:*
*На іншых нельга наракаць,*
*Калі мы самі вінаваты.*

## *МОВА, ВЕРУ Ў ТВАЮ НЕЎМІРУЧАСЦЬ*

*Калі заўтра мова мая счэзне,*
*Сёння я памерці ўжо гатоў.*
*Р. Гамзатаў*

*Мова несмяротная, святая,*
*Будзеш красавацца з года ў год!*
*Мова толькі тады памірае,*
*Калі памірае і народ.*

*А народ мой будзе жыць бясконца,*
*І як сцяг у вопытных руках,*
*Мову панясуць сваю пад сонцам*
*Пакаленні ў будучых вяках.*

*Роднай моваи будуць ганарыцца,*
*Мовы не ўкрадзе жыццёвы вір.*
*Як вадзіцу з роднае крыніцы*
*Будуць піць адвечны эліксір.*

*І сціскае сэрца боль пякучы,*
*Калі нехта з мовы роднай кпіць.*
*Мова, веру ў тваю неўміручасць,*
*Я памру, ты будзеш вечна жыць!*

## ЯК ЖЫЦЬ БЕЗ ВЕРЫ, БЕЗ НАДЗЕІ

*Хоць час і горбіць мае плечы,*
*Як перад многімі гадамі,*
*Люблю так ездзіць на сустрэчы*
*Я з дарагімі слухачамі.*

*А на сустрэчах свае кніжкі*
*Падпісваў я, як памятаю,*
*Надзеям, Верам, Васям, Мішкам,*
*Сярожам, Толям, Мікалаям.*

*А ў час апошні няма болей*
*У нашых школах Надзі, Веры,*
*Ды ёсць Данусі, Стасі, Ёлі,*
*Бэаты, Весі, Казімеры.*

*І мне заўсёды па спатканні*
*Сумна становіцца ўжо неяк.*
*Мучыць складанае пытанне:*
*Як жыць без веры, без надзеі?*

## ХТО МЫ

*У вёсцы пачаліся спрэчкі.*
*Жывем мы над адною рэчкай,*
*Адна зямелька ў апрацоўцы*
*І молімся ў адной царкоўцы,*
*Адно ў нас сонейка, нябёсы,*
*Адным спалучаны мы лёсам,*
*Адно нам толькі невядома,*
*І нас хвалюе гэта: хто мы?*



© PDF: Kamunikat.org 2011



*Азваўся Ян — тут найстарэйшы:*
*— Усё жыццё я быў тутэйшым.*
*Відаць, мы ад пачатку свету*
*Будзем тутэйшымі усе тут.*
*— Павінны кімсьці быць, вядома,*
*Негаваркі азваўся Сёма.*
*Усёткі людзі мы, не гускі,*
*Мяне завуць заўсёды рускім.*
*— Можа мы родам з Украіны?*
*Тут запыталася Паўліна.*
*Кажуць, што з украінскай мовы*
*Мы часта пазычаем словы.*
*Лявон дакінуў сваё слоўца:*
*— А можа ўсе мы тут літоўцы?*
*Было ж тут, пішуць летапісцы,*
*Княства літоўскае калісьці.*
*— Жывем мы ў Польшчы, мы палякі,*
*Запальчывы азваўся Якаў.*
*Жывем мы ў прагрэсіўным свеце,*
*Ужо палякі мае дзеці.*
*Нервова ўскрыкнуў тут Кастусь:*
*— Дзе ж наша, браткі, Беларусь?*
*Бачу, пазбыцца вы гатовы,*
*Нацыянальнасці і мовы.*
*І быццам бы нам невядома*
*Адкуль выводзімся і хто мы.*
*І сапраўды ўжо слухаць горка,*
*Што наша брыдкая гаворка,*
*Што быццам бы мы з горшай гліны,*
*Цурацца роднага павінны, .*
*Што быццам існуе прымус*
*Каб свайго зрокся беларус.*
*Ніхто нас не змушае, браццях,*
*Каб свайго роднага цурацца,*
*Каб пастаянна, з года ў год,*
*Мы паміралі, як народ.*
*Шануйма роднае, паверце,*
*Каб ведаць хто мы, каб не ўмерці.*

**Віктар Швед**



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

* ✲ *

*У зялёнай калысцы з лугоў
Прыкрытай блакітам высокім
Сярод дрэў-гаманлівых багоў
Пазнаваў рытуальныя крокі.
З маткай крок
З бацькам крок
І далей
Наступны ўжо самадзейны
Дык адважней
Дык толькі смялей
Да далёкай далёкай цэлі.
У калыску не вернемся больш
Калыску сваю зненавідзім
Толькі сёння ў сэрцы боль
Узнімаецца хваляй устыду.*

* ✲ *

*Вецер выдаіў імглу
З вымёнаў вербаў
Плёс ракі прачнуўся гаманлівы
Месяц папяровым сонным гербам
у нябёсах уміраў маўкліва.
А далёка і нізютка
У небакраі
Хтось касцёр распальваў праменны
Можа зоркі чэрці ўсе пакралі
І схавалі пад аблочны венік.
Крочыць дзень
І небу трэба сонца зараз
Як дзіцё блакітнымі рукамі
Прыпадняць па-над зямным абшарам
Над лугамі
Над палямі
Над лясамі.*

* ✲ *

*Не няма неабходнасці жыць
Але ёсць неабходнасць кахаць
Як жыццё ад жыцця ўсё бяжыць
Дык няхай
Дык няхай
Дык няхай я іду як усе
Дзе наперад ёсць толькі назад
О жыццё
О жыццё-карусель
Хтось разумны сказаў.
Ад пасеву так блізка дажын
Крыку кожнаму трэба сціхаць
Не няма неабходнасці жыць
Але ёсць неабходнасць кахаць.*

* ✲ *

*Месяц выцвіў ружай над дубровай,
Срэбрнай ружай выцвіў месяц сёння;
Дык навошта дарагая словы?
Зорку-кветку ты вазьмі ў далоні.
Як цудоўна!
Сінія спатканні...
Дзесьці сон далёка, дзесь далёка,
Хай ніколі не прыходзіць ранне,
Толькі ты і я, і свет шырокі,
Колькі раз яшчэ сказаць кахаю,
Колькі раз абняць і прытуліцца,
Пакланіцца месяцу і маю,
І даліне,
І каліне,
І крыніцы.*

* ✲ *

*Зноў беланогі снег
Пабег у глыб прыгумення
І стала мне шырока,
Стала вольна,
І вецер зачарпнуў сняжынкі ў жмені,
Пабег задзёрыста сабой давольны.
І я бягу ў дзяцінства белаю дарогай;
Няма праблем, няма ідэй, няма турботаў.
Я чысты, беласнежны, беланогі,
Заблытаны у беласнежны мотак.*

* ✲ *

*Ты была як кісці вінаграду
З сонцам, з вераснёвай прагай.*

*Ты была як ветраная радасць,*
*Не хапіла тут рукам адвагі.*
*Не ўзялі цябе, не прытулілі,*
*Вінаграды расплыліся недзе ў далі.*
*Лістапады над зямлёю квіляць*
*Жалем.*
*Колькі ж раз памылкі ў жыцці мы робім?*
*Смеласці за мала, то за многа,*
*І сабе як ворагі мы шкодзім,*
*Вінаграду не бярэм зямнога.*

* ✲ *

*Салодкі хмелю перамогі,*
*Як кружыш галаву натхненнем,*
*І чыніш ты мяне паўбогам,*
*Паходняй вечнага гарэння.*
*І зноў да бойкі,*
*У атаку,*
*На тых, хто не чакаў удару;*
*А хто з нас ад сяброў не плакаў,*
*Хто аб разгроме іх не марыў?*
*Здабыткі крыем агарожай*
*І расстаўляем вакол стражы,*
*А калі цалкам пераможам,*
*Што мы разгромлены заўважым.*

* ✲ *

*У вечнай калатні жывем*
*З круцельства чынім гоббі,*
*А подленькае робім.*
*І ўсё часцей бываем там,*
*Дзе грошы свет прыносіць.*
*І кожны з нас Ян Каліта,*
*А не святы Хрыстосік.*
*Нам багацеючы бяднець,*
*Вось парадоксу еднасць,*
*Чым у кішэні багацей,*
*Тым у душы мы бедней.*

* ✲ *

*У айчыне вялікае ўсё:*
*І бяроза,І песня,*
*І ціша,*
*А якая грамадная ноч*
*І чорная, быццам бы кліша.*
*У айчыне так чыстае ўсё,*
*Як мора блакіту над хатай,*
*Толькі я зноў з сталіцы прыйшоў*
*У сяло бруднаваты.*

* ✲ *

*Мы белым чорнае акрэслім,*
*І новым назавем старое,*
*І пасквіль назавем мы песняй,*
*І яму-гордаю гарою.*
*Залежыць з кім і для каго мы,*
*Свой погляд выкажам старанна,*
*І ў чым шаноўным панам,*
*Трывога сэрца не парушыць,*
*Зробім усё дзеля заплаты;*
*Спалучым шчырасць з крывадушшам,*
*Гратэск ажэнім мы з кантатай.*

* ✲ *

*Букет півонь*
*Быў цяжкі прыгажосцю,*
*Калі ўручыў табе,*
*Зваліўся з рук мне камень.*
*Чаго ж трэба маладосці?*
*Спатканняў!*
*Пад небам зорыстым, высокім,*
*Дзе добры лёс*
*Разгублены ад шчасця;*
*Мы як дзве зоркі сінявокія,*
*Раскрышымся на часці,*
*А пасля зноў адзінаю амфораю*
*І нераздзельнасцю мы станем,*
*Хай кіне ў яе лёс*
*Панеб'е зорнае*
*І вечнае спяванне.*
*Хай будзе свет такі як ёсць — вялікі:*
*З чаўном,*
*З канём*
*І з стогам,*
*І тапаляй завостранаю пікай,*
*І з вечнаю дарогай.*

**Алесь Барскі**

## ДЗЕНЬ У ЛЕНІНГРАДЗЕ

*Я зноў хаджу па чорных тратуарах*
*І ўспамінаю мой юнацкі час,*
*Калі рубцы прыкметныя пажараў*
*Напаміналі аб вайне не раз.*

*Але тут раны гоіліся хутка,*
*Сляды знішчэння зараслі травой.*
*І скінуўшы з сябе цяжары смутку,*
*Усё ўваскрэсла, як лісцё вясной.*

*На п'едэсталы помнікі ўставалі*
*Заззяў высока залацісты шпіль,*
*Пайшлі трамваі па мастах са сталі,*
*Пад імі судны абмывалі кіль.*

*Дварэц Зімовы запаўнялі госці,*
*Пад мурам шумна зараіўся пляж.*
*Нява плыла ў калёрах маладосці,*
*Бліщчала зноў, як радужны вітраж.*

*І вось тады прыехаў я здалёку,*
*Пасланец скромны з брацкай ім зямлі,*
*Вучыцца зноў ад раніцы да змроку*
*Кавацъ мой лёс, як плугі кавалі.*

*Вось альма-матэр маёй маладосці,*
*Прыстанак доўгі у полымях жыцця.*
*Прыйшоў сюды я не адзіным госцем*
*А быў для ёй, як роднае дзіця.*

*Яна заве цяпер вачамі вокан,*
*І кліча ўсмешкай радужны фасад,*
*І я іду ізноў спакойным крокам*
*Па калідоры, як на маскарад.*

*Чытэльню бачу, храм мой сузіральны,*
*Дзе я за кнігай забываў усё*
*Хоць нада мною абажур авальны*
*Ласкаў мой зрок вясёлкавай красой.*



*А там вось залы з партамі да столі*
*Дзе слухаў я і формул і парад,*
*Дзе я стаяў не раз пры антрэсолі*
*І мучыўся над сотнямі шарад.*

*А побач келлі з сотнямі прыбораў:*
*Тут нас вучылі магію машын*
*І тайну сілы, маланак, матораў*
*І як танцуе трыгер ці сельсін.*

*О дзе, вы, карыфеі таго часу*
*Што ажывілі гэты інстытут?*
*Што воз навукі пхалі да Парнасу?*
*Вы адыйшлі, другіх я бачу тут.*

*Сябры мае разбегліся па свеце*
*Не знаю нават дзе яны цяпер.*
*Адных мо песціць чарнаморскі вецер*
*Другіх шчыпае гават праз каўнер.*

*Прыйшло сюды другое пакаленне,*
*Яно не знала горычы вайны.*
*І у яго другія летуценні*
*Зусім другія погляды і сны.*

*Бывай тут частка дзён майго юнацтва.*
*І вуліца Пясочная, бывай,*
*А побач субтрапічнае мастацтва,*
*Аранжарыі, як біблійны рай.*

*Вось Карпаўка, вось дом мой ля канала,*
*Пяць год цікавай працы і забаў.*
*Як міг усё бясшумна прабяжала*
*Як сотні звыклых прамінуўшых спраў.*

*Калісь я тут з табой спаткаўся, Аня,*
*З тваймі вачыма поўнымі агня.*
*Такога, як з табой было, кахання*
*Я не забыў да сённяшняга дня.*

*Хвалілася, што носіш мой пярсцёнак.*
*Што ты мне жонка, хоць і без вянца,*
*Наш шлюб быў забаронены закона м.*
*Но мы маглі кахацца без канца.*

*Аднак закон мацнейшы ад кахання:
Табе сям'я патрэбная была.
Мы разышліся ціха без рыданняў,
Калі ты мужа новага знайшла.*

*Цяпер ты ўнучку прывяла за руку,
Каб паказаць мне плод пазнейшых дзён
І апісаць стыхіяй сочных гукаў
Прабыты свой жыццёвы маратон.*

*Унучкі вочы ззяюць бляскам дзіўным
І так глядзяць, як быццам ты тады,
На твары яе дзіцячым і наіўным
Відаць твае далёкія сляды.*

*Ты адыйшла на плошчы Льва Талстога
На вуснах мне аставіўшы пячаць
Ад'ехала ў метро, як у бярлогу,
Са свежаю расою на вачах.*

*І я зноў сам на Кіраўскім праспекце
Хаця натоўп струменнямі цячэ,
Іду туды, дзе з кпінаю турэцкай
Глядзіць на ўсё прыгожая мячэць.*

*Насупраць парк. Туды мяне вадзіла
Мая, ты, чарнавокая краса,
Мая непараўнальная Людміла
У доўгіх і пушыстых валасах.*

*Калісь мы многа вуліц прабяжалі
І берагоў аблітых у граніт,
Мы танцавалі ў мармуровых залах,
І на паркетах з каляровых пліт.*

*Ты руку мне сціскала на балетах
На операх я чуў твой цёплы твар.
А пацалункаў колькі ў парках летам
Браў з губ тваіх салодкіх, як нектар?*

*Цяпер ты дзесь далёка ў Закарпацці
Нямецкай мовай мучаеш дзяцей,
А вечарам нудна ў малой хаце
Калі няма ні мужа ні гасцей.*







*Тады мо ўспамінаеш дні і ночы
Калі былі мы разам цэлы час,
Пака сон не закрые цемрай вочы
Якія цалаваў я многа раз...*

*Мост стогне пада мной, як звон крышталю,
Праходзяць судны ўнізе, як міраж,
А залацістыя агні на хвалях
Падпальваюць зялёны Эрмітаж.*

*Шпіль з ангелам з сабора цень кідае,
Як піку, як нацэлены гарпун,
А з біржы на рыдване спаглядае
З жаглом трохзубым барадач Нептун.*

*Застылі ў рострах дзіўныя наяды
А статуі бялеючыя рэк
Глядзяць з маста, як грэцкая плеяда
Багоў, багінь забытых у наш век.*

*Перада мной стаіць палац з мармуру
І Марс мячом бароніць алтара
Іграе вецер з мора партытуру,
І славіць зодчых слаўнага Пятра.*

*А мо то плач ахвяр з часоў блакады
Якіх каварны не аставіў лёс,
Якіх забілі пулі і снарады,
Якіх замучыў голад і мароз.*

*Яны ляжаць на Піскарэўскім полі,
Іх матчын помнік верна сцеражэ.
Жывую памяць аб іх страшнай долі
Увесь народ нязломна беражэ...*

*На Полі Марсавым няма ўжо муштры
Даўно не адбываўся тут парад,
На клумбах кветкі ззяюць нібы люстры
Паміж грабніц рабочых і салдат.*

*Трамвай пабег па вуліцы Садовай
Дзе зелянее ціхі Летні Сад.
А мой кірунак — купал каляровы
Царквы за мурам сцен і каланад.*

*Праходжу парк па чысценькіх алеях,*
*Навокал бавяцца вясёла вераб'і.*
*Вось Мойка праплывае чорным змеям,*
*За мостам „Спас“ чароўны „на крыві“.*

*Відаць на храме дошкі рыштаванняў*
*З царквы здымаюць векавую гразь,*
*Калісь шэдэўр не мог знайсці прызнання*
*Цяпер памылкі сталі напраўляць.*

*Але нарэшце бачу мой прыстанак,*
*Дом, дзе чакаюць сёння на мяне.*
*І дзе ўжо вочы з-за крыла фіранак*
*Як два вуглі палаюць у акне.*

**Дз. Шатыловіч**







**Сакрат Яновіч**

# Рэмінісцэнцыі

Табе пад пяцьдзесят. Ты дабіўся для сябе невытлумачальна больш, чымсьці магло прысніцца тое табе, вырастаючаму на падпанка ў гады свае далёкія, калі ўсім тады пачынаўся гэты новы свет. І вось завяршаецца наша стагоддзе, пра якое некалі запытаюць: а чаму яно было такое — і ваеннае і дабрабытнае?

...На Багача слівы пасмугелелі. На іх пападаў быў дожджык і яны выглядалі незвычайна сакаўнымі. І ад таго яшчэ, можа быць, што дзень жа святочны і пры гэтым ціхі ўполудзень ды барвовы на зыходзе; парумянелая лістота, пахацяць выспелыя агароды.

Ад самюткага рання суседка спраўляла хрэсьбіны. На траве каля ганка яе, па-прыгараднаму вымаджанага дома паразлягаліся напоеныя мужчыны (храплі — у белых кашулях і ў чорных касцюмах, ад якіх яны трохі, як пінгвіны якія). З расчыненых вокан, што на паверсе, з-за далікацтва фіранак у іх далятала сварня ў застоллі, звяглівая і нясціхная (так, калі застануцца за чаркамі адны бабы). Таму вельмі дарэчы было пайсці адсюль у малінавы закутак і прысесці там сабе на камяні, выгратым сонцам. У настроі, які не параўнаць з адпачынам ратая або з існаваннем толькі, такім беспачуццёвым. Відаць поле як прасціраецца яно ад запушчанага парка, маянтковага. Яго прыгажосць бачыш ты у раптоўны цуд песні ці ў малітву верша, — панскімі вачыма культуры, памятай. Не-е трасучы гной, і не за плугам...

Засланяючы нанач спальны пакой, угледзіш месяц. Заўважыўшы яго фазу, табе падумаецца, усё-такі, што час прамінае ў нейкім чаканні, аднак жа, бяжыць ён, быццам па-зайчынаму вяртаючыся ў тое ж месца, і ўсё роўна што выгледжваючы вочы за кімсьці. Ці дзіва, чаму тваё жыццё не зусім каб патрэбнае, здалося яно табе да крыўднасці выпадковым, хоць і не хапае дзеля яго дня ды з вечарам...

У летняе ўставанне, у той перадспякотны халадок бярэ

ахвота папрацаваць — з радасным жаданнем быць прысутным у жывым, зялёным і светлым. У балаціне, што пад Лісіным грудам, крычыць тамашняя птушка. Ты ўспомніш аднакласніка з паўзабытай вялікагарадской школы; ён, зарабіўшы мільёны, памёр на рака.

Цябе гняце прымус закончыць сваё незакончанае, бо яно далося, хаця і ў звычнай табе хамутнай натузе, праз плойму гадоў шэра-шарых, і ты баішся, каб не апусціць залішне рук. Гэткі спех — твая змора і дакучнасць. Уласцівасць безвыходнага.

У замглёнасці ўзлесся, у бок Пачапка пасецца дзікі звер. Відацьме алень. Чаму ён якраз на відавоку? Гэта ж так небяспечна яму, знайсціся ў полі зроку чалавека!

Эх, аўтамашынай паімчацца б табе па шашы ў майскім дрэўі! Панаднейшы смак ад таго, калі ты далей, у глыбі мураванай Польшчы або ў, па-заходняму акуратным, замежжы. У бацькоўскім жа старонні дагніваюць пакінутыя вёскі, якімі, а каб не, зацікавяцца археолагі зацюканасці ды бядоты. Куды прападае людская праца? — палі зарастаюць хмызам, украпівелыя сядзібы нагадваюць сабою колішнія могілкі з руінаю капліцы, а ўнукам нашым манерным і не ў здогад нават тое, што ёсць жа і ў іх дзяды ды прадзеды... Народ мой хворы бяспамяццю, таксама.

Яблык падае блізка ад яблыні. Гэта так, як лёс маці паўтараецца ў дачцэ, праўда, па-свойму... Хвалімся, галытва ўчарашняя, вялізным кавалкам хлеба нарэшце і катэджамі з мансардамі, каб папанстваваць, не цямячы чамусьці, што знакі багацця сталі не тыя, і што ўсё гэтак жа міражныя яны там. Мінулае нацыі, бы абсалютная ісціна або прыцягненне зямное, што моцна трымае нас, — памслів ці як, не дае нам выпрастацца, пазбыцца анамаліі росту.

У Крынскай пушчы ўпаткацьмеш паляны з вывараценямі і лугі, ад хараства якіх затрымціць табе ўвачч. Адзін лес старасць упрыгожвае, і ён веквечны. Будзе мець рацыю той, хто прыраўняе да яго культуру (без яе свет сам не ведаў бы пра сябе, пра тое, што ён быў і ёсць!). Сядзеш, каб ногі табе адышлі, збоч ад сенакоснай траскаты касілак і на строме рэчкі ў лозах, над тою яе затокаю, у якой вудзяць маладых шчупакоў. Вада бруіцца ў ёй у водарасцях, а цябе пранізвае заедлівае: ну чаму гэта мы, чаму забедныя і забедныя? Дападаем да шанцаў сабе, а яны, выяўляецца, высмактаныя... Ачышчаючы з галчыных гнёздаў комін і апухі ўразіла цябе, што знаходзіў ты ў іх засушаны трупок піскляці, як заўсёды адно заморанае.

Еўропа нам даўно за гарамі. Нічога не скажаш, не мужыку ж палацы ў галаве, (прынята гаварыць у высокім тоне). А па-шчырасці, дык куды працей усенька ў нас адбываецца — будзь ты сабе, а кім хочаш, абы грашавітым! Ніштo ёсць усё золата і блакіт дня, тамы кнігаў ды старцаў развагі, сама існасць існасці, — хлісні долі нашай над нашымі, мазаля яе і ганьбы пакаштуй. Вымавіш тады: разумею, — і аціхнеш утомна, без болю, (бо ён у таго толькі, хто не пагаджаецца).

Племя маё нагамі дапераду выносяць унукі ягоныя тыя ж пачужэлыя і пажыткамі дзеляцца. Пасля яго і застануцца ўсяго сытасць бяздумная, якой будзе выгода параю? Калі так, дык пажартавала з нас асвячоная эпоха ўсеўладная, быццам ласкавая пані яснавяльможная каліcьці, што служкаў сваіх віншавала імянінна ды за стол свой запрасіла, а мы так жа цяпер наеліся за ім ажно да адрыжкі, усё роўна што за ўсе вякі мінулыя, а як жа глумныя над намі!

Верасень 1984 г. —
чэрвень 1985 г.

## Скарга на Гісторыю

Пішу я скаргу на Гісторыю, бо яна нам, як пані тая вялікая.

А мы ж так верна ёй служым працаю потнай і адданнем цалюткім, і ўсенька, што толькі трэба, робім жа і робім. Целам і душою парабкуем з кідкай ахвочасцю на тых пратсорах ейных без канца і краю, колькі адно змогі тае ў жылах маем. Нават і не прызнання банкетнага за тое ад яе мы чакаем, але ласкавае хоць слоўца мілае пачуць на сконе дзён сваіх. Без абразы і з надзеяй шчырасардэчнай пазіраем на палацы гэтыя ж светлаваконныя, прадзедамі нашымі чарнарабочымі яшчэ ўбудаваныя тут, у якіх грымяць аркестры гадавінныя ды па-бальнаму святкуюць дзеля векапомнасці ўдачаў усё чужых, аднак жа. Часам і мы возьмем ды закруцім польку „Янку“ на радасць плебейскую ў наваселле навабагатае, і тады даверліва пэўнімся ў тым, што моцна ж пашанцавала людзіну таму нашаму якраз вылупіцца, нарэшце, на свет белы, калі скінулі спачатку хамут яму з шыі замуленай да лішаёў і, потым, бізун цівунскі адабралі з рук

падпанка ягонага. І здзіўляемся, што ніхто чамусьці не віншуе нас са шчаслівасцю гэтакай, ды і самі мы, бадай, — здогадам не дурня аб тым, што няма чым хваліцца, — тоімся з ёю ж патроху, бы з грашом нейкім дарагім, усё роўна што той, хто спападаў быў выпадкам яго на тракце карэтамі ўезджаным.

І Гісторыя, вось, зусім не намерана перастаць быць паняй нам, можа і добрай такою цяпер, як гэта некалі ў Беларусі бывала, і таму, здаецца, а чаго ж больш хацець?...

Матачкай мы яе клікаць гатовыя, па навыку кроўным ад дзецюкоў колішніх у світцы ды лапцях векавечна, і ад таго ж таксама крыўдаванне камяком расце ў горле, бо не надта каб справядлівай яна ёсць дзецям родным, а найменшанькае з іх, беларускае, даўно павінна да грудзей прытуліць, песню часу і яму праспяваць. Але дзе там, усё пра старэйшых думае і калоціцца, пра іх гэта клопат увесь яе без упыну, ды што лепшае ім жа падсоўвае, быццам жыць яны іначай не змаглі б.

Сэрца ад жалю паліць, а ў душы ные нешта нясцерпнае, і свет клінам мне сыходзіцца.

Я поўны скаргаў на Гісторыю!



# Парады

**ПАВЫШАНЫ ЦІСК КРЫВІ**

Часта людзі недаацэньваюць такую хваробу, як павышаны ціск крыві. Вельмі ж ужо распаўсюджана ў нас яна, і людзі проста не здаюць сабе справы з яе небяспекі. І што тут, здавалася б, страшнага?! Ну, хутка мучыцца чалавек пры працы (а каму сёння лёгка?), крыху пабольвае ці кружыцца галава, а апрача гэтага нічога выразна не баліць. Нельга, аднак, адносіцца абыякава да такога стану рэчаў, паколькі павышаны ціск крыві можа быць прычынай кровазліцця ў мозг, а гэта найчасцей канчаецца частковым паралiжам, або нават смерцю.

Што выклікае павышаны ціск крыві? Перш за ўсё — пастаяннае нервовае напружанне. Ціск крыві павышаецца таксама пры некаторых хваробах (напрыклад, нырак), у перыяд клімаксу ў жанчын. Выступае ён таксама пры зменах, выкліканых склерозам.

У кожным выпадку павышаны ціск крыві павінен лячыць доктар, а пацыент павінен дакладна прымаць прыпісаньня лякарствы. Лячэнне павышанага ціску крыві вельмі складанае і для кожнага вельмі індывідуальнае. Яно залежыць не толькі ад прычыны, якая выклікае хваробу, але і ад арганізму хворага. Таму прымяненне якіх-колечы лякарстваў без доктара, з'яўляецца проста недапушчальным, бо тады арганізму можа пагражаць яшчэ большая небяспека.

Але найбольш нават стараннае прымяненне лякарстваў няшмат дапаможа, калі хворы не зменіць спосабу жыцця і ежы. Перш за ўсё трэба ліквідаваць прычыну хваробы. Тут якраз велізарнае значэнне можа мець дыета.

Абавязкова трэба абмяжаваць каларыйнасць страў. Лепей есці менш, але часцей, на прыклад, 5-6 разоў у дзень, але малыя порцыі. Вельмі шкодзіць арганізму, калі страўнік перапоўнены. З дыеты трэба абавязкова выключыць цяжкастраўную ежу, смажаную, занадта салоную, кіслую і вострую, фасолю, гарох і капусту, каву і алкаголь.

Жывёльны тлушч і марга-

рын трэба замяніць вадкімі раслiннымі алеямі, а перш за ўсё сланечнікавым, соевым, льняным. Масла ў абмежаванай колькасці можна спажываць толькі свежае.

У склад дыеты павінны ўваходзіць: варанае нятлустае мяса, усялякія кашы, клеікі, рыс, тварог, гародніна (апрача ўздуваючых).

Вялікае значэнне мае рэгулярнасць харчавання. Апошні раз у дзень можна есці толькі на тры гадзіны перад сном.

Трэба пазбягаць нервовага і паспешлівага спосабу жыцця, занадта цяжкай працы, асабліва такой, пры якой трэба нахіляцца.

■

■ У спёку малако, каб надалей яго захаваць свежым, трэба адразу ж пасля кіпення хутка астудзіць, пераліць у бутэлькі з шырокім рыльцам або ў слоікі, паставіць іх у міску з халоднай вадой, пакрыць марляй, каб канцы яе былі ў вадзе, і паставіць у цёмнае месца. Ваду трэба час ад часу мяняць, каб яна была заўсёды халодная.

■ Масла пакладзіце ў маслёнку або гліняны гаршчок і пастаўце ў міску з халоднай, крыху падсоленай вадой. Ваду мяняйце некалькі разоў на дзень, каб яна ўвесь час была халодная. Так масла доўга не сапсуецца.

■ Загорнуты ў чыстую, змочаную ў падсоленай вадзе марлю, тварог захаваецца свежым не адзін дзень і летам.

## КАБ НЕ СТАРЭЦЬ

Усе напэўна чулі пра корань жэнь-шэнь. Гавораць пра яго, што гэта корань жыцця. Як выглядае гэтая расліна, якой прыпісваюць лячэбныя ўласцівасці? Гэта расліна мае каля паўметра вышыні. Лісткі вострыя, ягады, колеру інтэнсіўнай чэрвені. Лячэбныя ўласцівасці мае толькі і выключна мясісты, тоўсты, на смак салодка-горкі корань. У цэласці корань гэты напамінае постаць чалавека.

Дзіка растучаму кораню жэнь-шэнь прыпісваюць цудоўныя якасці. Назвалі яго коранем жыцця, паколькі сярод людзей Усходу выкарыстоўвалі яго пасляхова пры лячэнні лёгкіх і сэрца, страўніка і пячонкі, рэўматызму і артрэтызму, а перш за ўсё пры папярэджванні працэсаў старэння чалавека.

Ужо шмат гадоў у Савецкім Саюзе вырошчваюць расліну жэнь-шэнь на спецыяльных палетках, выкарыстоўваючы яе корань для лячэбных мэтаў, а адначасова праводзячы шырокія доследы над вартасцю і прыгоднасцю жэньшэня ў лячэнні розных хвароб.

Доследамі савецкіх спецыялістаў зацікавіліся таксама французскія, японскія і амерыканскія вучоныя. Выдзеленыя з кораня субстанцыі сведчаць аб яго каштоўнасці пры лячэнні розных нервовых хвароб і псіхічнай стомленасці. Жэньшэневыя прэпараты зніжаюць ціск крыві і тармазяць працэс склерозу, што ў значнай ступені спрыяе пазнейшаму старэнню арганізма.

Вельмі добры супраць старэння таксама бальзам „Арашан", які можа быць латышскі, узбекскі, але найлепшы бывае кіргізскі. Яго прадукуюць з дзесяткаў раслін, багаццем якіх можа ганарыцца сонечная і горная Кіргізія. Гэты бальзам выкарыстоўваецца пры прастудзе, пры хваробе страўніка, але таксама і пры больш сур'ёзных хваробах, напрыклад, пры хваробе крываноснай сістэмы, пры нервовых хваробах. Хто п'е бальзам „Арашан", той не ведае, што такое нервовая стомленасць, у яго заўсёды добры настрой. Бальзам гэты цёмны, густы, мае цудоўны запах горных зёлак. Некаторыя гавораць, што налiўка з бальзаму з'яўляецца найлепшым і найздаравейшым алкагольным напіткам свету.

■

Абутак будзе служыць вам значна даўжэй, калі будзеце яго правільна дагледаць.

Вярнуўшыся дадому, не забудзьце пра запыленыя туфлі. Здыміце з іх гразь, прачысціце крэмам, адпаліруйце аксаміткай.

Калі на каляровым абутку з'явіліся плямы, паспрабуйце змыць іх халоднай вадой з мылам, а калі гэта не памагае (пры старых плямах), то разрэзанай цыбулінай ці анучкай, змочанай у бензіне або лімонным соку. Тлустыя плямы на скураным абутку можна зняць растворам нашатырнага спірту: 1 чайная лыжка на 1/2 шклянкі вады. Затым абутак выціраюць мяккай сухой анучкай.

Тыя месцы, дзе скура зацвярдзела, змажце свежым малаком.

А калі ідзе дождж і абутак прамок?

Набіце яго газетамі і пастаўце сушыць далей ад печы або батарэі, каб не перасохла, не патрэскалася скура. Туфлі, прызначаныя для дажджлівага надвор'я, зробіце непрамакальнымі: змажце на швах ільняным або касторавым маслам, а таксама сумессю роўных частак воску і тлушчу. Змазаць трэба некалькі разоў.

Замшавы абутак не надзявайце ў дрэннае надвор'е. А калі вы ў замшавых туфлях трапілі пад дождж, то, прыйшоўшы дадому, не спяшайцеся счышчаць гразь, няхай яна спачатку крыху падсохне. Чысціць замш можна жорсткай шчоткай, наждачнай паперай (асцярожна), дробнай соллю, скарынкай чэрствага хлеба.

Больш стараннага догляду патрабуе белы і светлы абутак. Захоўваць яго трэба асобна, загарнуўшы ў мяккую белую паперу або анучу. Чысціць такі абутак лепш за ўсё свежым малаком. Невялікія плямы можна зняць, пацёршы чыстай школьнай гумкай. Вельмі забруджаны абутак чысціць бензінам, у які дада-

юць крыху парашку паленай магнезіі.

Загрубелую скуру чаравікаў размякчае касторавае масла.

Калі абутак рыпіць, разатрыце на падэшве некалькі кропель алею і дайце туфлям прасохнуць.

■

■ Фрукты трэба трымаць нямытыя ў цёмным месцы, дзе ёсць доступ вялікай колькасці паветра.

■ Салат, зялёную цыбулю трэба памыць, прасушыць на сіце, пакласці ў закрытую эмаліраваную каструлю і паставіць у халоднае месца. Каляровую капусту лепш захоўваць загорнутай у лісце ў сетцы на скразняку. Радыску пакладзіце ў міску з невялікай колькасцю халоднай вады зелянінай уніз, пастаўце ў халаднаватае месца і час ад часу спырскайце вадой.

Гародніну і фрукты трэба захоўваць у цёмным і халодным месцы — на святле і пры высокай тэмпературы ў іх разбураюцца вітаміны.

■ Калі няма халадзільніка, найбольш цяжка летам захаваць сырое мяса. Найлепш яго гатаваць у той дзень, як прынеслі з крамы. Але калі гэта немагчыма, то толькі не мыйце яго, а адразу загарніце ў чыстую сурвэтку (ці палатняную анучку), змочаную ў сумесі воцату з вадой (1:1) і падвесьце на скразняку.

■ Калі вас уджаліла пчала ці камар, а пад рукою няма нашатырнага спірту, пратрыце ўджаленае месца кавалачкам цыбулі або часнаку — боль і пухліна зменшыцца.

■ Свежае малако трэба захоўваць у цёмным месцы, бо на святле яно страчвае значную частку вітамінаў А і С, а вітамін $B_2$ распадаецца.

■ Вельмі карысна ўранні нашча піць фруктовы або таматны сок. Гэта добра ўплывае на страваванне, а таксама забяспечвае арганізм вітамінамі. Карысна дарослым і дзецям. Выпіваць трэба шклянку соку маленькімі глыткамі.

■ Калі ў вас валасы робяцца хутка тлустымі, вельмі добра змачваць скуру галавы сумессю з сокаў лімона і морквы (2 часткі лімона і 1 — морквы).

## КАЛІ Ў ШАФЕ МОШКІ

Калі ў кухоннай шафе паявяцца мошкі, пратрыце паліцы і сценкі анучай, змочанай воцатам, праветрыце шафу і зноў пастаўце ў яе пасуду.

■ Памыйце фарфоравы посуд цёплай вадой з невялікай колькасцю нашатырнага спірту — знікнуць усе жоўтыя плямы. Але сачыце, каб вада не была вельмі гарачай, а толькі цёплай, бо можа змыцца малюнак.

■ На посудзе, які ставіце ў духоўку, з'яўляюцца карычневыя плямы. Вычысціце яго вільготнай соллю, змыйце вадой і зноў чысціце, пакуль плямы не знікнуць.

■ Пах падгарэлага мяса можна выдаліць, калі патэльню або каструлю апусціць у вялікі посуд з халоднай вадой. Праз 10 хвілін мяса перакладзіце ў чысты посуд са свежым тлушчам.

■ Перад тым, як падаць да стала свежыя фрукты або гародніну, іх трэба добра памыць. Каб знішчыць чарвякоў і іх зародкі, фрукты або гародніну трэба на 10-15 хвілін пакласці ў злёгку падсоленую ваду.

■ Каб бульбяная каша мела белы колер, яе трэба разводзіць гарачым малаком. Разведзеная халодным малаком яна набывае шэры колер. Каб каша атрымалася гладкай, лёгкай, пышнай, бульбу трэба праціраць гарачую.

■ Плямы ад суніц і маліны з ільняных тканін лёгка выдаліць, памыўшы іх у несалёнай вадзе, дзе гатавалася белая фасоля.

## САЛАТЫ

Хоць поўна ўжо зялёнай цыбулькі, салаты, агуркоў, якіх стараемся выкарыстаць як мага больш, то варта яшчэ раз зазірнуць у свае сховішчы: ці не засталася там якая гародніна з мінулага года? А калі што засталося, дык нельга нічога ў ніякім выпадку выкідаць. Трэба ўсё рацыянальна выкарыстаць! Гэта ж немалыя грошы і працы сюды ўкладзена шмат.

## САЛАТА З МОРКВЫ

2 вялікія морквіны, 2 яблыкі, лыжка сцертага хрэну, паўшклянкі смятаны, соль і цукар па смаку — гэта прадукты, патрэбныя для салаты. Моркву ачысціць і абабраць, яблыкі абабраць, сцерці на тарцы (бурачанай). Хрэн сцерці на вельмі дробнай тарцы. Усе прадукты змяшаць са смятанай, заправіць па смаку соллю і цукрам.

## САЛАТА З ПОРАЎ

На 2 сярэднія поры ўзяць 1 кіслы агурок, 1 яблык, соль, цукар, 3 лыжкі алею, лыжачку муштарды або 3 лыжкі маянезу. Поры вельмі дакладна ачысціць, перарэзаўшы кожны пор уздоўж і добра памыць. Паложаныя на дошачцы поры парэзаць тонка ўпоперак, агурок і яблыка сцерці на бурачанай тарцы. Гародніну змяшаць з алеем і муштардай, або з маянезам, дадаць солі і цукру. Калі дадамо да салаты 2-3 пасечаныя крутыя яечкі, можна падаваць яе як асобую страву на вячэру.

## САЛАТА З СЭЛЕРАЎ

На 20 дэкаў сэлера ўзяць 1 вялікі кіслы яблык, лыжку сцертага хрэну, паўшклянкі смятаны, або тры лыжкі алею і лыжачку муштарды, соль, цукар. Абабраны і памыты сэлер і яблык сцерці на бурачанай тарцы, дадаць дробна сцерты хрэн, спырснуць салату лімонным сокам, вымяшаць з алеем або смятанай і муштардай.

## СЕЛЯДЦЫ

Неабходна памятаць, што

салоныя селядцы трэба вымачыць. Мочым 10-12 гадзін, каб не вымачыць занадта моцна. У часе мачэння трэба 2-3 разы змяніць ваду. Калі селядцы хочам марынаваць, то пакідаем іх цэлымі, для іншых страў знімаем скурку і вымаем хрыбет (для „ральмопсаў" вымаем толькі хрыбет, а скурку пакідаем).

## СЕЛЯДЦЫ МАРЫНАВАНЫЯ

На 1 кг селядцоў трэба ўзяць 3 цыбуліны, 4-5 зярнятак перцу, англійскага зелля (пахучага перцу), гваздзікі, 2 чайныя лыжачкі цукру, 1 шклянку 6-працэнтнага воцату, 1 шклянку вады.

Памытыя, вымачаныя селядцы палажыць у слоік ці каменны гаршчок, пералажыць іх нарэзанай тоўстымі скрылёчкамі цыбуляй разам з прыправамі. Закіпяціць ваду з цукрам, дадаць воцат, астудзіць, а пасля гэтага заліць селядцы. Селядцы будуць гатовы праз 2-3 дні.

## САЛАТА З ФАСОЛЯЙ

На 20 дэкаў фасолі трэба ўзяць 2 цыбуліны, 1 кіслы агурок, 2 селядцы, 1 лыжачку муштарды, 3 лыжачкі алею, цукар, перац па смаку.

Фасолю перабраць, памыць заліць кіпячонай летняй вадой, пакінуць на некалькі гадзін і ў гэтай вадзе зварыць. Адцэджаную фасолю, дробна нарэзаныя цыбулю і агурок змяшаць з алеем і муштардай. У канцы дадаць дробна нарэзаныя селядцы. Вымяшаць.

## СЕЛЯДЦЫ СА СМЯТАНАЙ ЦІ МАЯНЕЗАМ

На 5 селядцоў узяць 1 яблык ці кіслы агурок, 1 шклянку смятаны ці маянезу.

Селядцы вымачыць, зняць з іх скурку і выняць хрыбет. Нарэзаць цыбулю, крыху яе пасаліць і пасыпаць цукрам, дадаць сцерты на бурачанай тарцы яблык ці агурок, вымяшаць са смятанай ці маянезам. На дно талеркі палажыць частку атрыманага соусу, палажыць на яго селядцы, заліць астаўшымся соусам. Праз 2-3 гадзіны селядцы можна есці.

## КАПУСТА З ЯЧМЕННАЙ КРУПОЙ

На 20 дэкаў свіных робрышак ці іншага мяса ўзяць паўкілаграма кіслай капусты, адну трэць шклянкі ячменнай крупы, 6 дэкаў сала, цыбуліну, некалькі зярнят англійскага зелля, крыху кмену.

Свіныя робрышкі або іншае мяса падварыць некалькі мінут, дадаючы каля 1,5 літра вады і ячменную крупу. У падвараную крупу з мясам палажыць кіслую капусту і варыць усё разам. Дадаткова яшчэ дадаць у капусту скваркі з падсмажанай цыбуляй. Можна яшчэ загусціць суп, дадаючы да растопленага сала лыжку мукі. Мяса выняць, аддзяліць ад касцей, дробна нарэзаць і дадаць назад у капусту. Падаем гэты суп з варанай бульбай.



## КМЕННЫ СУП

На 4 сярэдняй велічыні бульбіны ўзяць 2 шклянкі вады, 2 шклянкі сыроваткі, 2 шклянкі кіслага малака, 2 лыжкі мукі, палавіну чайнай лыжачкі кмену, соль, 4 кавалкі чорнага хлеба, лыжку тлушчу.

Абабраную і нарэзаную бульбу варыць, каб была мяккая, а тады дадаць сыроватку і кмен, пасаліць і яшчэ закіпяціць разам. Кіслае малако вельмі добра размяшаць з мукою, уліць у суп і закіпяціць разам. Кіслае малако вельмі добра размяшаць з мукою, уліць у суп і закіпяціць. Чорны хлеб дробна нарэзаць, падсмажыць яго, каб атрымаліся грэнкі. Падаючы суп, усыпаць у яго грэнкі.

## ХАТНІ ЖУР

На 2 шклянкі жытняй мукі трэба ўзяць 1,5 літра вады, зубок часнаку і скурку ад чорнага хлеба.

Цёмную жытнюю муку запарыць гарачай вадой у такой колькасці, каб атрымалася рэдкае ліючаеся цеста. Астудзіць. Тады дадаць літр кіпячонай, астуджанай вады, дадаць абабраны зубок часнаку і скурку чорнага хлеба. Усё гэта ўліць у вялікі слоік, або яшчэ лепш у каменны чыгун. Накрыць чыстай сурвэткай, абвязаць і паставіць у цёплае месца. Праз тры-чатыры дні рэдкі жур зліць у патрэбнай колькасці для падрыхтоўкі белага баршчу.

## ФАРШЫРАВАНАЯ БУЛЬБА

На кожнага чалавека ўзяць па дзве-тры бульбіны, абабраць іх і абпаласкаць. Пасля выразаць у бульбінах сярэдзіну, так каб сценкі засталіся тонкімі. Бульбу пасаліць і праз хвіліну выцерці сцірачкай. Абсмажыць бульбу на патэльні на гарачым тлушчы, каб мела прыгожы залацісты колер.

На лыжцы масла падсмажыць пасечаную цыбулю (дзве-тры ў залежнасці ад колькасці бульбы). Цыбулю, калі яна крыху падсмажыцца, пасыпаць мукою і заліць кіслай смятанай. Закіпяціць. Астудзіць. Убіць адно-два жаўткі, пасыпаць перцам, соллю, вымяшаць і класці гэту масу на дно бульбін. Пасля гэтага класці не надта дробна нарэзаныя кавалачкі варанай ялавічыны. Наверх зноў даем фарш з цыбулі. Пасыпаем цёртай булкай і кладзем бульбу на бляшку, змазаную тлушчам. Мінут на 20 устаўляем у духоўку.

Падрыхтоўваем соус з цёплай засмажкі, разведзены булёнам. У соус можна дадаць крыху лімоннага соку. Выняўшы бульбу з духоўкі, паліваем яе соусам.

## СОУС З МАЯНЕЗАМ

На соус бярэм 2 лыжкі маянезу, 2 лыжкі салодкай смятанкі, або булёну, або малака, дробна нарэзаную зялёную цыбульку, або свежы, сцерты

на тарцы хрэн, або лыжку таматнага канцэнтрату.

Размяшаць маянез з адным з пададзеных прадуктаў, пасля чаго дадаць дробна нарэзаную зялёную цыбульку, або свежы, сцерты на тарцы хрэн, або таматны канцэнтрат. Соус можна яшчэ пасаліць.

Соус гэты можна выкарыстоўваць да салатаў і яечак.

## ЗРАЗІКІ З ПЯЧУРЫЦАМІ

На 30 дэкаў мяса без касцей узяць 25 дэкаў пячурыц, адну цыбуліну, соль, перац, паўшклянкі смятаны, лыжачку мукі, крыху тлушчу.

Мяса нарэзаць косткай, пасаліць, пасыпаць перцам. Цыбулю дробна пасячы, палажыць на патэльню, падліць пару лыжак вады і тушыць. Мяса абсмажыць на тлушчы і палажыць у каструльку. Пячурыцы памыць, нарэзаць і таксама ўкінуць у каструльку. Дадаць цыбулю і тушыць на малым агні, пакуль мяса не стане мяккім. Падаваць з варанай бульбай, кашай, ці макаронам.

## ГРЭНКІ З ПЯЧУРЫЦАМІ

На 30 дэкаў пячурыц узяць адну цыбуліну, соль, перац, маргарын і доўгую булку.

Пячурыцы памыць, дробна пасячы, дадаць пасечаную цыбулю і даліць чатыры лыжкі вады. Тушыць разам на тлушчы, пакуль соус не адпарыцца. Булку пакроіць на тонкія скрылёчкі, памазаць маргарынам (або маслам) і класці наверх пячурыцы. Кожны кавалак булкі пасыпаць зверху цертай булкай і класці на змазаную тлушчам бляху. Уставіць у гарачую духоўку і запячы так, каб булачка стала румянай. Адразу падаваць.

## СОУС З ПЯЧУРЫЦ

На 25 дэкаў свежых пячурыц узяць адну цыбуліну, паўшклянкі смятаны, лыжку масла (або маргарыну), лыжку мукі, соль, перац.

Цыбулю пасячы, палажыць у каструльку з тлушчам, тушыць. Даліць вады і дадаць памытыя і тонка нарэзаныя пячурыцы. Тушыць каля 15 мінут. Муку вымяшаць са смятанай і дадаць да соусу. Заправіць па смаку соллю і перцам. Соус падыходзіць да ўсялякіх каш, да макарону, да яечак, да рыбы, але перш за ўсё, да рознага гатунку мяса.

Класічны соус з пячурыц падрыхтоўваецца з сушаных пячурыц. Тады трэба іх на дзень наперад заліць гарачай вадой ці малаком.

## ПЕЧАНАЯ БУЛЬБА

На 10 вялікіх бульбін узяць 10 дэкаў раслліннага масла, 10 дэкаў смятаны, 10 дэкаў сцертага на тарцы вострага сыра, соль, перац. Бульбу вышараваць, абсушыць, палажыць на бляшку і ўставіць у духоўку. Калі бульба спячэцца, выняць мякіш і палажыць на разаргэтае на глыбокай патэльні масла, дадаць соль і перац і хвіліну смажыць на вялікім агні, а пасля ўсыпаць 3/4 цертага сыра. Усё вымяшаць, палажыць у вогнетрывалы посуд, змазаны тлушчам і пасыпаны цёртай булкай, выраўняць зверху, паліць смятанай і пасыпаць застаўшымся сырам, на некалькі мінут уставіць ізноў бульбу ў гарачую духоўку.

## ПЭЙЗАНКА

Пэйзанка, гэта вясковы бульбяны суп. На 10 бульбін бярэм 1 моркву, 1 пятрушку, 1 невялікі пор, 5 дэкаў вэнджанага бочку, лыжачку мукі, 1/2 яечка і паўшклянкі мукі. З мукі і яечка (без вады) замясіць вельмі цвёрдае цеста і сцерці яго на гароднінай тарцы, крыху перасыпаючы мукой. Гародніну абабраць, нарэзаць, закіпяціць літр вады, пасаліць, палажыць гародніну, варыць 15 мінут. Тады ўсыпаць зацірку і варыць, не накрываючы, яшчэ 5 мінут. У той час падсмажыць нарэзаны бачок, дадаць муку і яшчэ хвіліну смажыць, дадаць засмажку ў суп і, памешваючы, закіпяціць. Суп пасыпаць зелянінай.

## ЗАЛІВАЙКА З КАЎБАСОЙ

На 10 бульбін узяць 3/4 шклянкі журу, 30 дэкаў каўбасы, 1 невялікую цыбуліну, соль, лаўровы лісток, 2 зубкі часнаку, 2 поўныя лыжкі жытняй мукі заліваем у гліняным чыгунку летняй вадой, вымешваем, дадаем скурку чорнага хлеба, зубок часнаку і пакідаем у цяпле на некалькі дзён, накрываючы марляй. Нарэзаную бульбу заліваем у каструлі літрам кіпетню, солім і варым. Абіраем і рэжам каўбасу і цыбулю, падсмажваем на патэльні. Калі бульба будзе амаль мяккая, палажыць у суп каўбасу з цыбуляй, дадаць зубок часнаку, уліць жур і варыць яшчэ 5 мінут.

## ГАЛУБЦЫ З ЯЧНАЙ КАШАЙ

На галоўку салодкай капусты (лісцяў 8-12) узяць 50 г сушаных грыбоў, шклянку ячнай кашы, 2 шклянкі вады, лыжку тлушчу, 100 г вэнджанага бочку або сала, 1 вялікую цыбуліну, соль, перац, крыху майранку, засмажку з лыжкі мукі і лыжкі тлушчу.

Лісткі капусты палажыць у гарачую ваду і падварыць мінут дзесяць, каб яны сталі мяккія. Выняць з вады, зрэзаць з іх сярэднюю тоўстую „жылку“. Фарш робім наступным чынам. Памытыя грыбы намачыць на дзень раней, пасля чаго зварыць іх у той вадзе, а калі будуць мяккія, выняць з навару і пасячы. Крупу ўсыпаць у пасолены кіпень, у які дадаем крыху тлушчу, крыху падварваем, пасля чаго загортваем у газеты і плед і пакідаем на некалькі гадзін. Добра было б кашу зварыць на дзень раней. Дробна нарэзаную цыбулю падсмажыць разам з дробна

нарэзаным бочкам або з тлушчам, дадаць грыбы, кашу, прыправы, усё добра вымяшаць. Класці фарш на лісце, загортваць галубцы. Галубцы цесна складаем у каструльку, а яшчэ лепш у брытфану, заліваем выварам з грыбоў, солім і тушым, пакуль капуста не стане мяккая. Тады запраўляем соус засмажкай з мукі і тлушчу.

### ХУТКІЯ ПІРАЖКІ

На 200 г масла ці маргарыну бярэм чвэрць кілаграма мукі, 200 г тварагу, крыху солі, мушкаталовую галку (мускатны арэх).

Усе кампаненты змяшаць разам, а калі цеста акажацца занадта рэдкае, дадаць крыху мукі. Палажыць у халадзільнік на паўгадзіны, пасля чаго цеста раскатаць і рабіць піражкі. Фарш можна падрыхтаваць з грыбоў, з грыбоў і капусты, з пячурыц, з мяса, з рыбы. З падрыхтаванага цеста смачныя таксама салодкія піражкі з арэхавай масай (крыху змеленых арэхаў, цукар і крыху салодкай смятаны), з густым джэмам, расцертым з некалькімі кроплямі алкаголю.

Піражкі з гэтага цеста трэба пячы ў моцна нагрэтай духоўцы, пакуль яны не запякуцца.

### ПІРАЖКІ З ФАСОЛЯЙ

На шклянку фасолі ўзяць 2 вараныя бульбіны, 5 дэкаў пячурыц, цыбулю, лыжку тлушчу, яйка, соль, перац, 40 дэкаў мукі, ваду, соль.

Фасолю зварыць, адцадзіць. Цыбулю і пячурыцы падсмажыць на тлушчы. Змалоць у мясарубцы фасолю разам з варанай бульбай і падсмажанай з пячурыцамі цыбуляй (калі хто не мае пячурыц пад рукой, то можна іх не дадаваць). У змеленыя прадукты дадаць яйка, заправіць па смаку, вымяшаць. Цеста на піражкі робім, размешваючы муку з цёплай вадой, пасля чаго добра месім. Раскатваць тоненькія бліны, выразаць велікаватыя кружкі. Фарш раскладаць на кружкі, залепліваць піражкі. Зварыць піражкі ў кіпетні, выняўшы з вады, паліць скваркамі. Падаем піражкі з нейкай салатай.

### ФАСОЛЯ ПА-БРЭТАНСКУ

На 2 шклянкі фасолі ўзяць 5 дэкаў тлушчу, цыбуліну, лыжку мукі, лыжку таматнага канцэнтрату, соль, змеленую папрыку.

Намочаную фасолю зварыць у невялікай колькасці вады. Дробна нарэзаную цыбулю падсмажыць на тлушчы, дадаць да фасолі. Застаўшуюся частку тлушчу растапіць, размяшаць з мукой, заправіць фасолю, калі яна будзе ўжо зусім мяккая, соль і папрыку. Вельмі добра было б дадаць да падрыхтаванай такім чынам фасолі дробна нарэзаную каўбасу, або звараны вэнджаны бочак.



### ПІРАГІ. „НЕГРЫЦЁНАК“

На 2 шклянкі мукі ўзяць 2 шклянкі цукру, 4 вялікія яечкі, 250 г маргарыну (або масла), паўшклянкі вады, 2 лыжачкі какао, міндальны алей і крыху арэхаў, разынак, можа быць смажаная апельсінная скурка — хто што мае пад рукой.

Закіпяціць тлушч з вадой і какао, мяшаць на агні, пакуль цукар зусім не распусціцца. Адліць паўшклянкі гэтай вадкасці (на паліўку), да рэшты, астудзіўшы, усыпаць муку з парашком, тады дадаць жаўткі, бакаліі, абсыпаныя мукой, а ў канцы дадаць пену з чатырох бялкоў і лёгка вымяшаць. Палажыць цеста ў дзве вузкія бляшкі, змазаныя тлушчам і пасыпанай цёртай булкай, і ўставіць у духоўку сярэдняй гарачыні. Пячы каля 45 мінут. Выняўшы з духоўкі і астудзіўшы, паліць паліўкай.

### ТОРТ З ЯБЛЫКАМІ

На 5 жаўткоў трэба ўзяць дзве шклянкі мукі, паўтары шклянкі цукру, палову пачкі растопленага масла. Усё гэта дакладна перамяшаць і збіць. Потым да масы дадаць лыжачку парашку для пячэння і вылажыць цеста на разагрэтую бляху. На слой цеста пакласці цёртыя яблыкі. Так запякаць у негарачай духоўцы мінут 20. Потым дастаць торт з духоўкі і пакрыць яблыкі збітымі бялкамі і здробненымі арэхамі. Торт пячы яшчэ 15 мінут.

### ПІРОГ З ДЖЭМАМ

На 3 яечкі трэба ўзяць шклянку мукі, шклянку цукру, лыжачку парашку для пячэння, лыжачку ванільнай эсэнсіі, паўшклянкі малака, 1/5 пачкі маргарыну ці масла.

Збіць яечкі з цукрам, дадаць муку, змешаную з парашком для пячэння, і ванілін. Усё добра збіць, каб не было грудак. Закіпяціць малако з маргарынам, крыху астудзіць яго, але яшчэ добра цёплае дадаць да масы, вымяшаць. Уліць у тартоўніцу сярэдняй велічыні, змазаную тлушчам і пасыпаную цёртай булкай. Пячы ў нагрэтай духоўцы каля паўгадзіны. Астудзіўшы, перарэзаць, пералажыць джэмам і абсыпаць цукровай пудрай.

### ПІРАЖКІ

Намнога хутчэй робяцца вялікія піражкі, чым маленькія з кружкоў, выразаных шклянкай. Гэтыя піражкі патрабуюць, аднак, намнога больш фаршу. Вялікія піражкі трэба варыць значна даўжэй, вада павінна кіпець вельмі паволі, у іншым выпадку піражкі палопаюцца і расклеяцца.

### З КАПУСТАЙ І ГРЫБАМІ

На паўкілаграма мукі трэба ўзяць яечка, лыжку алею, ваду. На фарш: 60 дэкаў кіслай

капусты, жменьку сушаных грыбоў (могуць быць і пячурыцы), 2 цыбуліны, яечка, 2 лыжкі тлушчу, лыжку цертай булкі, соль, перац і крыху сала.

У муку дадаць яечка і алей, а таксама столькі летняй вады, каб атрымалася не надта густое цеста на піражкі. Цеста добра вымясіць, палажыць у місачку, накрыць і пакінуць на паўгадзіны. Зварыць капусту з грыбамі, адцадзіць і пасячы на дошцы. Падсмажыць дробна нарэзаную цыбулю на тлушчы, дадаць капусту, цертую булку, яечка, вымяшаць усё, заправіць па смаку, астудзіць. Раскатаць тонкі блін цеста. Выразаць кружкі большым кубкам, або рэзаць нажом квадраты, велічынёй 12x12 см. На кружкі ці квадраты раскладаць фарш, і толькі тады ўсе піражкі залепліваць разам. Трэба старацца, каб краі не былі занадта тоўстыя, паколькі яны будуць патрабаваць больш часу для варкі, чым усё цеста на піражкі.

Каб мацней зляпіць, можна краі піражкоў, кладучы іх на беражку дошкі, дадаткова заціснуць, а яшчэ і аздобіць, прыціскаючы краі чатырохзубовым відэльцам.

Піражкі кладзем варыць у вялікую колькасць пасоленай вады; палажыўшы, асцярожна памяшаць і варыць адкрытыя да таго часу, пакуль цеста не страціць запаху сырой мукі. Адцэджаныя піражкі раскладаць на вялікай талерцы, каб не зляпліваліся, можна спырснуць іх тлушчам.

### ТОРТ

На **цёмнае цеста** трэба ўзяць: паўшклянкі маргарыну, 3/4 шклянкі цукру, 4 яечкі, 20 дэкаў мукі, 2/3 шклянкі малака, поўную лыжку кавы „Інка“, паўлыжачкі парашку для пячэння. На **светлае цеста** бярэм усе тыя ж прадукты, як і на цёмнае цеста, толькі без кавы. На **крэм** бярэм: 2 пачкі маргарыну, 4 яечкі, шклянку цукру, лімонны алей, некалькі лыжак джэму. Каб торт быў **вільготны,** трэба ўзяць 2 шклянкі чаю, 2 лыжачкі цукру, лімонны алей, крыху лімоннай кіслаты.

Падрыхтаваць дзве тартоўніцы, змазаць іх маслам, пасыпаць цёртай булкай. Маргарын сцерці з жаўткамі і цукрам, дадаць муку і малако, парашок для пячэння, з бялкоў збіць пену і вымяшаць. У палову цеста дадаць разам з малаком кашу. Пячы торт у не надта гарачай духоўцы. Спячы яго трэба прынамсі на дзень раней. Калі пірог крыху счарствее, перарэзаць кожны на два кружкі. Чаем паліць кожны кружок.

Маргарын расцерці на пену. Яечкі ўбіць у міску, дадаць цукар і збіваць на пары, пакуль маса не стане густой. Тады зняць і, збіваючы, астудзіць. Дадаць яечную масу да расцертага маргарыну, усё расцерці, дадаць лімонны алей. Цёмны кружок цеста знізу змазаць 1/4 часткай масы, накрыць белым кружком. Белы кружок змазаць джэмам, накрыць наступным белым кружком, змазаць яго крэмам і накрыць цёмным кружком. Цэлы торт аблажыць крэмам і зрабіць зверху дэкарацыю. Можна таксама ўпрыгожыць торт фруктамі з варэння або палавінкамі валошскіх арэхаў. Бакі торта можна абсыпаць пакрышаным пячэннем. Пры дапамозе двух шырокіх нажоў палажыць торт на падстаўку і вынесці ў халоднае месца. Калі будзем рэзаць торт, трэба падрыхтаваць шклянку цёплай вады. Нож трэба мачыць у вадзе, тады маса не будзе крушыцца і не разламваецца.

### МАЗУРКІ.
### АРЭХАВЫ

На 5 яечак трэба ўзяць 20 дэкаў арэхаў, 15 дэкаў цукру, ванільны цукар, лыжку мукі.

Жаўткі аддзяліць ад бялкоў. Жаўткі сцерці з цукрам, а з бялкоў збіць пену. У жаўткі дадаць прапушчаныя праз машынку лясныя арэхі, муку і пену, а таксама ванільны цукар. Палажыць цеста на бляшку, вылажаную пергаментнай паперай, змазанай маслам і пасыпанай цёртай булкай; зверху пасыпаць цэлымі арэхамі.

### З ВАФЛЯМІ

На цэлую пачку вафляў трэба ўзяць 1 кг цукру, паўлітра малака, ванільны цукар, 1 лыжачку масла, 20 дэкаў густога джэму.

Цукар заліць малаком і варыць так доўга, пакуль ён не згусцее. У канцы дадаць масла і ванільны цукар. Кожную другую вафлю змазаць вельмі тонка густым джэмам. Злажыць. З другога боку вафлі змазаць атрыманай масай на крэм, складаць. На складзеныя вафлі палажыць дошчачку і вынесці ў халоднае месца, каб мазурак застыў. Рэзаць гэты мазурак трэба вострым, тонкім нажом.

### МАКАВЫ

На 6 яечак узяць 18 дэкаў маку, 20 дэкаў цукру, 10 дэкаў лясных арэхаў.

Мак запарыць, расцерці або прапусціць праз мясарубку. Жаўткі яечак аддзяліць ад бялкоў. Жаўткі сцерці з цукрам, дадаць да іх мак, збітую пену, пасечаныя арэхі, лёгка вымяшаць. Цеста кладзем на бляху, вылажаную пергаментнай паперай, змазанай маслам і пасыпанай цёртай булкай, запякаем. Макавы мазурак можна пакрыць белай палівай, зробленай з аднаго бялка, 12 дэкаў цукровай пудры і соку з паўлімона.



© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

## КАЛЯНДАР ЦЯЖАРНАСЦІ

| Пачатак цяжарнасці | Карова | Кабыла | Свіння | Авечка |
|---|---|---|---|---|
| 1 студзеня | 12 кастрыч | 6 снежня | 30 красавіка | 3 чэрвеня |
| 11 студзеня | 22 кастрыч. | 16 снежня | 10 мая | 13 чэрвеня |
| 21 студзеня | 1 лістапада | 26 снежня | 20 мая | 23 чэрвеня |
| 31 студзеня | 11 лістапада | 5 студзеня | 30 мая | 3 ліпеня |
| 10 лютага | 21 лістапада | 15 студзеня | 9 чэрвеня | 13 ліпеня |
| 20 лютага | 1 снежня | 25 студзеня | 19 чэрвеня | 23 ліпеня |
| 2 сакавіка | 11 снежня | 4 лютага | 29 чэрвеня | 2 жніўня |
| 12 сакавіка | 21 снежня | 14 лютага | 9 ліпеня | 12 жніўня |
| | 31 снежня | 24 лютага | 19 ліпеня | 22 жніўня |
| 1 красавіка | 10 студзеня | 6 сакавіка | 29 ліпеня | 1 верасня |
| 11 красавіка | 20 студзеня | 16 сакавіка | 8 жніўня | 11 верасня |
| 21 красавіка | 30 студзеня | 26 сакавіка | 18 жніўня | 21 верасня |
| 1 мая | 9 лютага | 5 красавіка | 28 жніўня | 1 кастрыч. |
| 11 мая | 19 лютага | 15 красавіка | 7 верасня | 11 кастрыч. |
| 21 мая | 1 сакавіка | 25 красавіка | 17 верасня | 21 кастрыч. |
| 31 мая | 11 сакавіка | 5 мая | 27 верасня | 31 кастрыч. |
| 10 чэрвеня | 21 сакавіка | 15 мая | 7 кастрыч. | 10 лістапада |
| 20 чэрвеня | 31 сакавіка | 25 мая | 17 кастрыч. | 20 лістапада |
| 30 чэрвеня | 10 красавіка | 4 чэрвеня | 27 кастрыч | 30 лістапада |
| 10 ліпеня | 20 красавіка | 14 чэрвеня | 6 лістапада | 10 снежня |
| 20 ліпеня | 30 красавіка | 24 чэрвеня | 16 лістапада | 20 снежня |
| 30 ліпеня | 10 мая | 4 ліпеня | 26 лістапада | 30 снежня |
| 9 жніўня | 20 мая | 14 ліпеня | 6 снежня | 9 студзеня |
| 19 жніўня | 30 мая | 24 ліпеня | 16 снежня | 19 студзеня |
| 29 жніўня | 9 чэрвеня | 3 жніўня | 26 снежня | 29 студзеня |
| 8 верасня | 19 чэрвеня | 13 жніўня | 5 студзеня | 8 лютага |
| 18 верасня | 29 чэрвеня | 23 жніўня | 15 студзеня | 18 лютага |
| 28 верасня | 9 ліпеня | 2 верасня | 25 студзеня | 28 лютага |
| 8 кастрыч. | 19 ліпеня | 12 верасня | 4 лютага | 10 сакавіка |
| 18 кастрыч. | 29 ліпеня | 22 верасня | 14 лютага | 20 сакавіка |
| 28 кастрыч. | 8 жніўня | 2 кастрыч. | 24 лютага | 30 сакавіка |
| 7 лістапада | 18 жніўня | 12 кастрыч. | 6 сакавіка | 9 красавіка |
| 17 лістапада | 28 жніўня | 22 кастрыч | 16 сакавіка | 19 красавіка |
| 27 лістапада | 7 верасня | 1 лістапада | 26 сакавіка | 29 красавіка |
| 7 снежня | 17 верасня | 11 лістапада | 5 красавіка | 9 мая |
| 17 снежня | 27 верасня | 21 лістапада | 15 красавіка | 19 мая |
| 27 снежня | 7 кастрыч. | 1 снежня | 25 красавіка | 29 мая |

**Увага.** Каляндар цяжарнасці аблічаны з прамежкамі 10 дзён, значыць, калі, напрыклад, пачатак цяжарнасці наступіў 5 студзеня, дык карова ацеліцца каля 17 кастрычніка, кабыла ажарэбіцца каля 11 снежня, свіння апаросіцца каля 5 мая, авечка каля 8 чэрвеня.

Карова ходзіць цельнай 40 1/2 тыдняў: сярэдне 285 дзён.
Кабыла ходзіць жаробнай 48 1/2 тыдняў: сярэдне 340 дзён.
Свіння ходзіць паросная 17 тыдняў: сярэдне 120 дзён.
Авечкі, козы ходзяць котнымі 22 тыдняў: сярэдне 154 дзён.







## ЗМЕСТ

